УДК 821.161.1(476)-3
ББК 84(4Беи)6-44
А28

*Серыя заснавана ў 2019 годзе*

**Адам, М. М.**
А28 …І прыдбаў гэты дом : аўтабіяграфічны раман / Мікола Адам. — Мінск : Чатыры чвэрці, 2020. — 156 с. — (Серыя «Жаночыя лёсы»).
ISBN 978-985-581-340-9.

Гэтая кніга – працяг выдавецкай серыі «Жаночыя лёсы». Яна пра паяднанне лёсаў і душ, аднак таксама і пра іх раз’яднанне. Пра каханне, як фатум, а не боскі дар, пра нацыянальную свядомасць, якой заўжды бракуе.

На прыкладзе жыцця адмыслова ўзятай асобнай сям’і аўтар паспрабаваў адлюстраваць эпоху 1970–1990-х гадоў, датычную Беларусі і Казахстана.

**УДК 821.161.1(476)-3**
**ББК 84(4Беи)6-44**

**ISBN 978-985-581-340-9**

*Маме Вользе Яўгенаўне*
*і бацьку Міхаілу Іванавічу*
*прысвячаю*

Калі мы пераехалі ў Вёску, мне было чатырнаццаць. Спачатку адправілі кантэйнер з рэчамі, вынесенымі з трохпакаёвай кватэры на трэцім паверсе пяціпавярховіка, што стаяў па вуліцы Паркавай у горадзе Шахцінску Карагандзінскай вобласці. Пасля былі пералёт з Казахстана ў Беларусь з перасадкай у Маскве, амаль двухгадзінная дарога з Мінска (у Брэсцкім напрамку) да Райцэнтра электрычкай, а затым аўтобусны маршрут «Райцэнтр — Вёска». Мы менавіта пераехалі, нават эмігрыравалі, але ніяк не вярнуліся. Бо як можа вярнуцца кантэйнер туды, адкуль яго не адпраўлялі? Гэта толькі мой бацька вярнуўся, таму што ў Вёсцы жылі яго бацькі, тут ён скончыў школу, пасля пайшоў працаваць на цагельню, з Вёскі яго забралі ў войска і менавіта з Вёскі ён паехаў на заробкі ў Казахстан, дзе і затрымаўся надоўга. Аднак і бацьку цалкам мясцовым цяжка было назваць, бо яго ў Вёску прывезла ягоная маці з Карэлафінску, куды з’язджала ў пошуках лепшай долі, дзе пазнаёмілася з маім дзедам, які жыў там на вольным пасяленні пасля адбыцця турэмнага заключэння за тое, што меў няправільнае і забароненае, нават непрымальнае і непатрэбнае для савецкага чалавека нямецкае прозвішча А́дам.

Дзед з трох гадоў ад нараджэння выхоўваўся ў адным з Львоўскіх дзіцячых дамоў, куды вымушана была аддаць яго маці, якая ўсё ж наведвала сына два разы на год, пакуль неўзабаве не знікла ў невядомым кірунку. Хутчэй за ўсё загінула. Наколькі памятаў дзед, яна служыла гувернанткай у вельмі багатым нямецкім доме, там жа, ва Украіне. Мабыць, закахалася ў гаспадара ці ён узяў яе сілай, калі не закахалася, у выніку зацяжарыла, а пасля нарадзіла хлопчыка. Не зусім зразумела, дзе жыў дзед да трох гадоў, сам жа ён не памятаў. Аднак добра запомніў, як маці прывезла яго ў дзіцячы дом, доўга размаўляла з нейкімі дзядзькам і цёткай, якія, відаць, узначальвалі ўстанову, як плакала, пакідаючы яго, і як сказала на развітанне

і колькі разоў паўтарыла, што яго завуць Іван Адам, што ў яго ёсць зводны старэйшы брат Ота і што ён, Ванечка, незвычайны чалавек. Лепш, канечне, дзедавай маці было б нікому не казаць пра сваяцтва яе сына з немцамі, прычым такімі немцамі, якія апынуцца з цягам часу не апошнімі людзьмі ў Трэцім Рэйху, а непасрэдна ў дзеда пачнуцца праблемы з савецкай уладай. Зразумела, што нацыянальнасць у пасведчанні аб нараджэнні яму запісалі ўкраінскую, ды хто ж ведаў, што жыццё абернецца такім пакручастым і рабрыстым, як і любая вайна. Страшна тое, што даказаць адваротнае немагчыма. Зрэшты, як і праклятае сваяцтва. З чатырнаццаці гадоў пачнецца дзедава адысея па лагерах, пакуль не скончыцца, пасля смерці Сталіна, у Карэлафінску, адкуль яго прывязе ў Вёску, узяўшы за мужа, мая бабуля.

Аднак дзед Іван нешта наблытаў з імем свайго магчымага брата, як ён лічыў, ад'ютанта фельдмаршала Паўлюса, бо ў сапраўднасці палкоўнік Адам меў імя Вільгельм. Дажыў ён, дарэчы, да глыбокай старасці і памёр ва ўзросце васьмідзесяці пяці гадоў у той год, калі я нарадзіўся. Чаму ні яго, ні Паўлюса не судзілі ў Нюрнбергу і не расстралялі ці не павесілі, як астатніх нямецкіх афіцэраў вышэйшага рангу? Паўлюса нават пальцам не кранулі за Сталінград, у якім ён здаўся савецкім войскам добраахвотна, калі зразумеў, што сэнсу ваяваць супраць людзей, гатовых голымі рукамі біцца супраць танкаў, бо агнястрэльная зброя хутка страчвала дзеяздольнасць і ператваралася ў непрыдатныя жалязякі, не было, дакладней, ён яго не бачыў. Фельдмаршал шкадаваў і сваіх салдат, і чужых па прычыне інтэлігентнасці і адэкватнасці. Што Сталін ці, хутчэй, савецкія военачальнікі, вырашылі выкарыстаць у мэтах хутчэйшага заканчэння вайны. Яны стварылі прапагандысцкую арганізацыю, куды загналі палонных афіцэраў, назвалі яе «Саюзам германскіх афіцэраў» і прапанавалі ўзначаліць Паўлюсу, каб той прызываў нямецкія войскі здавацца і пераконваць у тым, што Гітлер вельмі нехарошы чалавек. Паўлюс з'яўляўся адным з нямногіх, каго ў Германіі шчыра паважалі і ганарыліся яго заслугамі перад Айчынай, таму для саветаў ён быў падарункам лёсу. Аднак згоды нямецкага фельдмар-

шала ўзначаліць прапанаваны Саюз дамагаліся паўтара года. Няцяжка здагадацца, якімі сродкамі, калі сваіх не шкадавалі ні каліва. Паўлюс публічна прызнаў памылковасць дзейнасці Гітлера і асудзіў кожны крок фюрэра як злачынства супраць чалавецтва. Яго зварот да нямецкіх салдат і афіцэраў запісалі на кінастужку і кружэлку, распаўсюджвалі сярод палонных і дзеючых пакуль сіл праціўніка. Ад'ютант фельдмаршала Вільгельм Адам не пакідаў яго і ў палоне, яны нават пасябравалі. Адносіны іх нагадвалі стасункі старэйшага і малодшага братоў. У 1948 годзе Адаму дазволілі вярнуцца ў Германію, дзе той пасяліўся ў Дрэздэне. Паўлюса ж выпусцілі толькі пасля смерці Сталіна. Ён таксама прыехаў у Дрэздэн, цяжка хворы і састарэлы. Вільгельм да апошніх дзён сябра дапамагаў яму. Былы фельдмаршал памёр у Адама на руках у 1957 годзе. Неўзабаве Вільгельм напісаў успаміны пра Сталінград, якія выйшлі ў трох тамах і вельмі хутка раскупіліся. І, дарэчы, былы ад'ютант даслужыўся да генерала. Што ж тычыцца Ота… То нямецкі обер-лейтэнант Ота Адам — сапраўдны герой. І не толькі Савецкага Саюза.

У курскім сяле Глушкова ён ляжыць у адной магіле разам з васямнаццацігадовай партызанкай Машай Васільевай. Хочацца думаць, што Уладзімір Сямёнавіч Высоцкі, калі спяваў: «*Я поля влюбленным постелю…*», спяваў і напісаў тыя словы пра іх і дзеля іх.

«Машка — нямецкая аўчарка» — называлі светлавокую, з дзвюма доўгімі косамі па плячах, дзяўчыну, якая служыла ў нямецкай камендатуры горада Рыльска перакладчыцай. Нават родная маці пагарджала ёю праз гэта. Мала хто ведаў, што Маша працавала на падполле, перадавала важныя звесткі для партызан, карыстаючыся «глухой поштай»: дуплом у дрэве на ўскрайку горада. Дзякуючы ёй партызаны атрымалі спісы тых, каго збіраліся вывозіць на прымусовую працу ў Германію, інфармацыю пра перамяшчэнні нямецкіх войск, тэхнікі і боеприпасаў, і прымалі неабходныя меры. Падобным чынам, калі ўдавалася, Маша перадавала і дынаміт, які выносіла з камендатуры ў сумцы. Зверху, дзеля канспірацыі, клала руска-нямецкі слоўнік. Сумка з дынамітам і слоўнікам была цяжкая,

таму дапамагаў яе несці загскладам камендатуры обер-лейтэнант Ота Адам. У прыцемках яны спадзяваліся, што іх не заўважаць.

Гэта пасля Маша даведаецца, што ў мінулым, даваенным жыцці, Ота разам з бацькам у Лейпцыгу рабіў кушнерам; бачыў на свае вочы, як будаваліся канцлагеры, і таму ўзненавідзеў гітлераўскі рэжым; што меў жонку Дору і дачку Рыту. А яна… яна толькі-толькі скончыла дзясяты клас, і ёй нават вербаваць нямецкага афіцэра не давялося. Ён сам усё зразумеў і не задаваў пытанняў, бо закахаўся ў яе з першага позірку. Вольнай ад сумкі з дынамітам рукой Ота сціскаў далоньку дзяўчыны, паабяцаўшы, што ніколі не здрадзіць ёй.

З 1941 года Ота Адам дапамагаў савецкаму падполлю і партызанам праз Машу сакрэтнымі дакументамі і шыфравальнымі звесткамі. На танцы ў клубе, дзе п’яныя нямецкія афіцэры маглі прагаварыцца пра нешта важнае, таксама па магчымасці браў дзяўчыну з сабой. «Нямецкая курва» — зласловілі пра яе жыхары горада. Маша не звяртала на гэта ўвагі і з годнасцю праходзіла міма. Яна ратавала Радзіму і кахала чужога для ўсіх чалавека, але самага роднага і блізкага для яе. Ён таксама ратаваў чужую для яго зямлю і кахаў дзяўчыну, якая ніколі не стане сваёй для яго фатэрлянда.

У камендатуры тым часам пачалі падазраваць, што недзе побач, пад носам, прытаіўся «крот». Факты пра тое, што нехта злівае інфармацыю ворагу, выявіліся ашаламляльныя.Ператрус і праверкі супрацоўнікаў камендатуры і мясцовых паліцаяў не прымусілі сябе чакаць. І Машу, і Ота паймалі б, як кажуць, на месцы злачынства, але ў апошні момант ім удалося ўцячы да партызан, якія, дзеля выратавання загнаных у нерат, крыху ў горадзе пашумелі. Нямецкая форма, аднак, яшчэ неаднойчы паслужыла закаханым у некаторых справах.

За галаву былога загскладам камендатуры прызначылі ўзнагароду, якая складалася з пятнаццаці тысяч рэйхсмарак і каровы. Нягледзячы на гэта, утраіх з «фурманам» на вазку, з белым пудзяльком на каленях, нямецкі афіцэр і перакладчыца раз’язджалі па акрузе і збіралі звесткі, неабходныя партызанам. Да прыкладу, зварочвалі да вакзала і выпытвалі ў началь-

ніка расклад руху цягнікоў, якія прымусова вывозілі людзей у Германію.

У лесе Ота насіў шапку-вушанку з апушчанымі ўніз вушамі і, па-руску, набакір, курыў самакруткі і па-дзіцячы радаваўся, калі атрымоўвалася вывучыць і вымавіць чарговыя словы на мове каханай. Яго называлі «немец-партызан», а ён называў Машу «сваёй вяснянкай». Яны марылі пасля вайны жыць у Маскве, вывучыцца на настаўнікаў і нарадзіць трох сыноў. Аднак па іх следзе, як ганчак, ужо бегла гестапа.

Машу і Ота нехта здаў немцам, паквапіўшыся, відаць, на ўзнагароду. Іх чакалі, калі яны вярталіся з чарговага задання. Зразумела, закаханыя шуснулі ў лес, спадзеючыся адарвацца ад пераследнікаў, прадзіраліся праз вясенні буралом 1943 года і адстрэльваліся, пакуль мелі патроны, якіх, вядома, катастрафічна не хапала. Цяжка сказаць, як яны загінулі, бо сведкаў іх гібелі не было, але факты сведчаць пра тое, што, хутчэй за ўсё, Ота спачатку застрэліў Машу стрэлам у скроню, прытуліўшы галаву дзяўчыны да сваёй, а пасля апошнім патронам забіў сябе. Жывымі здавацца ворагу не мела сэнсу.

Раззлаваныя тым, што не здолелі захапіць партызан жывымі, як было загадана начальствам, немцы расстралялі трупы, што мірна сядзелі на снезе, спінамі абапіраючыся на паваленую непагаддзю сасну, нібы жывыя. Толькі праз тры тыдні іх целы адшукала Машына мама.

Зразумела, што ні Вільгельм Адам, ні Ота Адам, ва ўсялякім разе вышэйназваныя, ніколі не з’яўляліся нашымі родзічамі. Сваякі дзеда Івана з іншай пясочніцы. Цалкам магчыма, што ён проста прыдумаў цікавую показку для летуценнага ўнука ці, горш за тое, атрымаў прозвішча ў дзіцячым доме накшталт мянушкі. На жаль, праўды ўжо ніколі не пачуць. Аднак вельмі хочацца верыць, што легенда зусім не легенда, прыняць той факт, што ты немец, і супакоіцца. Бо, нягледзячы на подзвіг Ота Адама, дзейнасць сям’і Манаў, Гётэ, Гофмана, Гейнэ, Шылера, Рэмарка, Бёля, Кафкі, Гесэ, Фейхтвангера, Келермана, Брэхта, Цвейга, Верфеля, Зегерс, Елінэк, Зюскінда, Граса, Вагнера, Штраўса, Ліста, Моцарта, Бетховена, Фасбіндэра, Шыгулы, Бляйбтроя, Швайгера, Патэнты, Ханекэ, я ненавідзеў

немцаў усё сваё жыццё. Вядома, не тых, з кім хадзіў у адзін садок, а пасля вучыўся ў адным класе ў Шахцінску. Германскіх немцаў. Савецкая прапаганда хораша працавала з падатлівымі дзіцячымі мазгамі, і я не адрозніваў фашыстаў, антыфашыстаў і нацыстаў. Цяжка перадаць маё агаломшанне ў той момант, калі я даведаўся, што таксама фрыц. За плячыма ў мяне ўжо было больш за трыццаць пражытых гадоў, але навіна літаральна збіла з ног, адправіла аперкотам у глыбокі накаўт. Цяпер ненавіджу сябе. За тое, што нібыта гэта я Гітлер і вінаваты ў генацыдзе народаў свету і спальванні кніг тых жа Манаў, Джэка Лондана, Эміля Заля, Гогаля, Талстога, Дастаеўскага і многіх іншых, прызнаных «геніем» фюрэра ДЭГЕНЕРАТЫЎНАЙ літаратурай. Сапраўдныя дэгенераты заўжды лічаць сябе найразумнейшымі за астатніх.

Карацей, толькі бацька мог вярнуцца ў Вёску, а я… а мы… былі вымушаны падпарадкавацца як непаўналетнія. Ва ўсялякім разе я.

Бацька — невысокага росту, але шырокі ў плячах мацак з бледна-блакітнымі, як зімовае неба, вачыма і дужымі валасатымі рукамі з лапатамі далоняў. Выглядаў ён заўсёды салідна, нягледзячы на ўнушальны жывот, які, наадварот, мне здаецца, надаваў яму большай саліднасці. Бацька ім нават ганарыўся, бо займеў не ад ужывання піва, якое не піў увогуле, а з-за правільнага харчавання. Ці няправільнага, што не мае розніцы. Паесці ён любіў, а праца грузчыкам апетыт трымала ў тонусе, таму туманны флёр суму альбо застойныя часы дэпрэсіі абміналі яго за тры кіламетры. Такога жыццярадаснага чалавека яшчэ пашукаць трэба было! Жывот бацькаў быў тугі, што барабан, і ён вельмі любіў уяўляць яго баксёрскай грушай і дазваляць нам з братам, калі мы былі малымі, гуляць у баксёраў. Не ведаю, ці было бацьку балюча, але мы, як памятаю, малацілі па ягоным жываце са страшнай сілай, асабліва шчыраваў брат. Ён нават умудраўся трапляць па ім нагамі. Бацька заліваўся шчаслівым рогатам ад нашага сапення і сур’ёзных сканцэнтраваных твараў, падазраю, што ганарыўся сынамі, якія не ў лялькі гуляліся, а вучыліся быць мужчынамі. Ён сам

быў байцовым, паважаў загартаванасць і моц. Брат у гэтым яго не расчараваў. Я ж ніколі біцца не любіў і не люблю. Больш за тое, баюся і лічу, што бойкі для ідыётаў, бо разумныя людзі заўсёды дамовяцца паміж сабой. Тым не менш біцца даводзілася, бо выхаваў мяне ўсё ж байцовы бацька. Я абавязкова прапушчу першыя ўдары, але таксама абавязкова на іх адкажу, пераадольваючы страх. Зразумела, што да такіх высноў я прыйшоў не адразу і не ў дзіцячыя гады.

Бацька ж, як і мой брат, да двух ніколі не лічылі. Калі бачылі, што бойка непазбежная, — білі першымі. Нічога прыгожага ў некіношных бойках няма. Дваровыя бойкі жорсткія, заўсёды не па правілах, крывавыя і, часцей за ўсё, кароткія. Але бацька і мой брат у гэтых бойках выглядалі Аляксандрамі Македонскімі ці нават Арэсамі — багамі вайны. Ёсць такія людзі, ад якіх не адвесці вачэй, калі тыя апынаюцца ў падобных абставінах, нібыта ім дадзена гэта звыш.

У апошнім класе школы бацьку часта даводзілася абараняцца. Асабліва пасля танцаў, якія ладзіліся ў суседняй вёсцы на другім беразе Нёмана. Там збіралася ці не ўся навакольная моладзь. І калі трэба было вяртацца дадому, абавязкова хто-небудзь перастрэне па дарозе, асабліва калі ты не адзін, а з дзяўчынай. Вядома, свае сваіх не чапалі, а бацька заўсёды кагосьці праводзіў з дзяўчат. Тады яму падабаліся сёстры Курапаткі, якіх было аж чатыры. З усімі імі ён хаця б раз ды пацалаваўся, а праводзіў па чарзе. У адну з іх ён закахаўся. Яе звалі Рая. Раем яна бацьку і падавалася.

Рая Курапатка значна адрознівалася ад сваіх сясцёр. Калі тыя, як матрошкі, паходзілі адна на адну і нагадвалі (пры параўнанні з птушкамі) качак, то Рая выглядала белым лебедзем — прыгожым і недасяжным, нібы айсберг. Яна сядзела з бацькам за адной партай. Употай ён любаваўся выгінам шыі дзяўчыны ў залатых завітках валасоў, больш падобным на мастацкі твор. На яго боязна было нават падзьмуць, не тое што дакрануцца. Дый сама Рая здавалася нейкай паветранай, не сапраўднай, цалкам апраўдваючы сваё імя. Яна і хадзіла,

быццам плыла, як аблокі. Ну нельга ж быць такой прыўкраснай і ў такой глушэчы!

Бацька вар'яцеў ад прыгажосці дзяўчыны і кахання да яе, але адкрыцца ёй, расказаць пра свае пачуцці саромеўся, бо баяўся, што тая пасмяецца з яго. Бо хто ён такі? Што ў яго было за душой? Бедна басота, да таго ж сын былога лагерніка. Дзіўна, што Рая ўвогуле сядзела з ім за адной партай. Бацька ж не мог залезці да яе ў галаву і падгледзець, што дзяўчына пра яго думала. А яна між тым таксама не ведала, як зрабіць так, каб бацька заўважыў, што і ён ёй падабаўся.

Каб неяк бліжэй быць да Раі, бацька пачаў захады з яе сясцёр. Тыя адразу зразумелі цікавасць хлопца да старэйшай сястры, але ні ёй, ні яму не прызналіся ў здагадках. Кожнай было ў радасць ламаць камедыю і цікаваць за тым, што адбываецца, як і прыхоўваць адна ад адной свае стасункі з бацькам.

Паразумеліся бацька з Раяй выпадкова. На тых жа танцах у суседняй вёсцы.

Бацька выйшаў з клуба пакурыць, прайшоўся да дрэў, што стаялі невялікай алеяй убаку, схіліўшы да зямлі стамлёныя за дзень зялёныя галіны, нібы напрацаваныя рукі. Прыхінуўся спінай да тоўстага тапалінага камля, зірнуў на неба з россыпам зор, у якіх нічога не разумеў, але прыгажосць іх міжволі заварожвала, і раптам адчуў, што побач нехта ёсць, літаральна за спінай, па другі бок тапалінага камля. І не проста нехта, а Рая! Яе пах (бацька казаў, што яна заўсёды пахла вішняй) не зблытаць ні з якім іншым. І ён разгубіўся, і нават спалохаўся таго, што яны побач. Чамусьці закашляўся, відаць, папярхнуўся цыгарэтным дымам. Яна тут жа выйшла да яго. І ён працягнуў ёй цыгарэту.

— Будзеш? — спытаў.

Рая ўзяла напалову скураную цыгарэту, няўмела зацягнулася і вярнула бацьку.

— Дурань ты, Мішка, — сказала і дадала: — Знайшоў, што прапанаваць дзяўчыне.

— А што трэба? — зніякавеў бацька.

— Падумай, — малявала Рая нешта ў траве мыском туфлі, потым узняла на бацьку вочы, склаўшы рукі за спінай у замок

і нервова тузаючы пальцы адзін аб другі. — У цябе ёсць хвіліна, — папярэдзіла.

Кажуць, выпадковасцей не бывае. Кажуць, выпадковасць — якасна спланаваная кімсьці заканамернасць. Іначай як растлумачыць з'яўленне ў адным і тым жа месцы Раі і бацькі? Рая ну ніяк не магла ведаць, што бацька падыдзе да той таполі, за якой стаяла яна, і што ўвогуле падыдзе. Бацька і пагатоў нічога не ведаў. Тым не менш яму хапіла розуму не думаць, рвануцца да дзяўчыны, абняць і пацалаваць, а далей — што будзе, тое будзе.

Яна абняла яго таксама і адказала на кожны яго пацалунак сваімі, можа, не такімі шалёнымі і гарачымі, няўмелымі і сарамлівымі, але сапраўднымі.

Ніколі і ні з кім да майго бацькі Рая не цалавалася, хоць ахвотнікаў хапала. Дзяўчына вылучалася незвычайным знешнім хараством і мімаволі запыняла і засяроджвала на сабе позіркі мужчын, аднак усіх жадаючых нават пазнаёміцца трымала на адлегласці. Яна не адмаўляла нікому ў танцы, бо танчыць вельмі любіла і амаль не прапускала суботніх вячорак, але і ўсё на гэтым. Пасля школы займала сябе хатняй гаспадаркай, потым рабіла ўрокі, а перад сном чытала кнігі, якія брала ў школьнай бібліятэцы, бо дазволіць сабе кнігі ў хаце магла далёка не кожная сям'я ў Вёсцы, дый не лічыла патрэбным. Да прыкладу, у бацькавай хаце (дзеда з бабай) кніг не было ўвогуле. Баба Маруся (так яе звалі) неаднойчы казала: на халеру яны?!

Бацьку, я лічу, пашанцавала з Раяй, магчыма, таму, што сядзеў з ёю за адной партай.

Ды, як у класічным рамане, па законах жанру, у бацькі неўзабаве з'явіўся сапернік. Раптоўна і з ніадкуль.

Яго звалі Тадэвуш Зімоўскі. Ён быў старэйшы за бацьку і Раю на дзесяць гадоў і працаваў разам з Раіным бацькам у лесабудаўнічай брыгадзе. Паходзіў са шляхецкага роду і з'яўляўся адзіным сынам у даволі заможнай сям'і, што Раінаму бацьку спадабалася больш за ўсё, таму ён вырашыў старэйшую сваю дачку пазнаёміць з заможным палякам, каб аддаць пасля за

яго і замуж. Пра тое, што Раі падабаўся іншы, ён нічога не хацеў слухаць, тым больш пра майго бацьку-галадранца. Хутчэй за ўсё Раін бацька хацеў як лепш для дачкі. З Тадэвушам у яе будзе скварка і да скваркі, у шаўках паходзіць, на пярынах паспіць. З маім бацькам нічога добрага яе не чакала, толькі безнадзейная галеча, сама сябе пракляне, параненай ваўчыцай завые ад безвыходнасці і прыгажосці пазбавіцца заўчасна, пажоўкне, як фотаздымак.

Тадэвушу Рая спадабалася з першага позірку, што не дзіўна, аднак ён не спяшаўся з прапановай рукі і сэрца, разумеў разгубленасць дзяўчыны, няёмкаць у яго прысутнасці, пра бацьку майго таксама ведаў, але не лічыў яго за праблему. Да таго ж бацьку хутка забралі ў войска. Пару разоў ён пісаў Раі, яна не адказала на яго лісты. Баба Маруся напісала яму з цягам часу, што Рая пабралася шлюбам з Зімоўскім.

За два гады службы ў войску бацька ні разу не прыязджаў дамоў у адпачынак. Вярнуўся ў Вёску ўжо пасля дэмбеля. Першаю, каго сустрэў, была Рая. Ён курыў на аўтобусным прыпынку, толькі-толькі сышоўшы з прыступак на зямлю, яна ішла проста на яго з торбаю ў руках, з якой вызіралі два боханы белага хлеба і рыльца бутэлькі з кефірам у зялёным каптурыку. На колькі імгненняў абое аслупянелі, свідруючы адно аднаго вачыма. Быццам мастакі, занатоўвалі ў памяці партрэты яна — яго, ён — яе, прадчуваючы, мабыць, непазбежнасці лёсаў і часу. А вакол іх раптам таксама застыла Вёска, маючы свой інтарэс, свае вочы і вушы, нават на асфальце, каля якога стаялі бацька з Раяй. Дзяўчына ачуняла ад міжвольнага здранцвення першаю, зрабіла крок насустрач бацьку, параўнялася з ім і, не спыняючыся, не гледзячы ў яго бок, усё ж сказала аднаму яму і так, каб толькі ён і мог пачуць:

— Калі ласка, прыходзь сёння а восьмай да старога моста. Я буду чакаць.

Не азіраючыся, пайшла далей. Як ніколі прыгожая, у белай з чорнымі палосамі на плячах, на рукавах і пад грудзямі ядвабнай сукенцы і такіх жа белых туфельках-лодачках. Цёмныя доўгія валасы яе на жнівеньскім сонцы здаваліся рудымі.

Бацька глядзеў ёй услед, дакурыў, потым сплюнуў і вырашыў, што нікуды не пойдзе, што не пачуў Раіных слоў.

Бацькі яго не чакалі. Дакладней, стаміліся чакаць, прагледзелі ўсе вочы ў расчыненыя насцеж вокны, бо бацька павінен быў вярнуцца дамоў яшчэ месяц таму. Той затрымаўся, падарожнічаючы па сябрах-саслужыўцах. Аднаго паспеў пажаніць, другога памірыць з процьмай сваякоў, з трэцім загрымець на суткі ў міліцыю, з чацвёртым згубіцца ў незнаёмым горадзе і блукаць па амаль безжыццёвых вуліцах, пры гэтым пабыў у чатырох розных рэспубліках Савецкага Саюза — Украіне, дзе гуляў на вяселлі; Арменіі, дзе пасля замірэння сваякоў два дні не выходзіў з-за святочнага стала; Расіі (недзе на перыферыі), дзе саслужывец бацькаў сарваў пагоны з міліцыянта, які быў пры выкананні службовых абавязкаў, прыраўнаваўшы таго да сваёй дзяўчыны, а бацька разрульваў сітуацыю; Эстоніі, дзе займеў афіцэрскі рэмень, які падараваў старэйшы брат таго саслужыўца, з якім заблукаў у незнаёмай мясцовасці. Той рэмень затрымаў бацьку яшчэ на колькі дзён, бо ён ім перапаясаўся і здымаць адмаўляўся, хоць вайсковыя патрулі за гэты рэмень яго і супынялі ўвесь час, пасля доўга разбіраліся і дапытваліся, адкуль у малодшага сяржанта рэч, якая належыць афіцэру. Бацька рашуча адказваў, што гэта не іх справа, што ён сваё адслужыў і мае права насіць які заўгодна рэмень.

Ну неяк дабраўся да Вёскі.

Кульнуў адну чарку з бацькам (дзедам Іванам), другую, трэцюю, пачаў пазіраць на гадзіннік. Алкаголь зрабіў сваё: захацелася да Раі. Маці (баба Маруся) заўважыла, што сын нейкі неспакойны зрабіўся, хутка здагадалася, адкуль ногі растуць у гэтага неспакою. Лагодна, гэтак, як умеюць толькі маці, папярэдзіла, што не трэба яму совацца ў чужое жыццё, ламаць сям'ю, тым больш што ў Раі з Зімоўскім дзіця нарадзілася з год таму. Што ён, уломак які, свайго не зробіць з іншай якой дзяўчынай? Вунь іх колькі! Не сышоўся ж свет клінам на адной!..

Пра дзіця бацька нічога не ведаў. Ён увогуле не хацеў ведаць Раю пасля мацярынага ліста, намагаўся забыць яе, таму яму ніхто і не пісаў пра дзяўчыну. Навіна не агаломшыла, развярэдзіла душу яшчэ больш, і чамусьці захацелася выйсці на

двор, задраць дагары галаву і завыць па-ваўчынаму на поўню ад скрухі і адзіноты, што і было зроблена.

Ён не памятаў яе вачэй, хоць яшчэ ўдзень на аўтобусным прыпынку глядзеў у іх. Не мог прыгадаць ні формы, ні колеру. Больш за ўсё гэта і засмучала яго, калі ішоў да старога драўлянага моста праз Нёман, пабудаванага ў тым месцы, дзе некалі вельмі даўно стаяла судовая верф, а крыху воддаль, бліжэй да першых дамоў, з якіх пачыналася Вёска, размяшчалася карчма, ад якой застаўся толькі пограб, які цяпер належаў Лукашкам.

Некалькі дваровых сабак на ланцугу аблаялі бацьку па дарозе проста за тое, што праходзіў міма. Ці пачулі, што ад яго патыхае алкаголем, пах якога не пераносілі. Бацька не звярнуў на іх увагі, працягваючы шлях. Ён не ведаў, чаго ішоў і навошта. Рая згублена назаўсёды, яна замужняя жанчына, да таго ж з дзіцем. Яму нічога не свеціць. Дзеля чаго яна паклікала яго? Самой жа сабе горш робіць.

Яна ўжо была там, калі бацька дайшоў да моста. Тая ж сукенка, на плячах шэрая вязаная кофта, павязаная на шыі піянерскім гальштукам, валасы, сабраныя ў хвост, перацягнуты гумкай.

Рая кінулася да бацькі, як толькі пабачыла, прытулілася, абняла. Ён яе не абняў, узяў аберуч твар дзяўчыны і ўгледзеўся ў вочы.

— Я так рада бачыць цябе! — пасяшалася прызнацца Рая.

— А я не, — прабурчаў бацька, пазіраючы проста ў вочы дзяўчыны.

Хоць было яшчэ досыць светла, ён ніяк не мог разгледзець колер Раіных вачэй.

— Што цябе непакоіць? — праглынула крыўду дзяўчына, палічыўшы, мабыць, што заслужыла падобныя словы.

— Твае вочы, — вымавіў бацька.

— Што? — не зразумела яна.

— Якога колеру твае вочы? — патлумачыў ён.

— Ты піў? — адчула пах алкаголю дзяўчына, і ёй стала непрыемна.

— Канечне, піў! — гучна прамовіў бацька. — А ты думала, што я хвіліны лічыў у чаканні сустрэчы з табой?..

— Хацелася б, — ледзь чутна прашаптала Рая.

— Нічога сабе заявачкі! — адпусціў яе твар бацька і зрабіў крок назад, палез па цыгарэты.

— Я рызыкавала, ідучы да цябе, — у адчаі Рая заламіла рукі.

— А на што ты спадзявалася? — закурыў бацька. — Ты здрадзіла мне! Ты! Не я табе! Выйшла замуж ды яшчэ дзіця нарадзіла!..

— У мяне не было выбару, — ціха прамовіла дзяўчына. — Я была вымушана, — дадала, абняўшы сябе за плечы.

— Угу, — сплюнуў бацька. — Дык якога колеру твае вочы? — дапытваўся.

— Ты сур'ёзна? — ледзь не плакала Рая ад роспачы.

— Як ніколі. — Навязлівая бацькава ідэя разрасталася, пагражаючы хуткім заканчэннем усяму, што паміж ім і Раяй было і магло быць.

— Зялёныя, — стомлена сказала яна.

— Вядзьмарскія, — удакладніў бацька. — Я думаў ты мой рай, Рая, а ты твань, — жорстка, без жалю дадаў, — багна.

— Ды як ты можаш! — абурана, але неяк асуджана і вінавата пралепятала дзяўчына, павярнулася да яго спінай, села на вялікі камень каля самай вады, заплакала. Плечы яе затрэсліся.

Бацька дакурыў, адшпурнуў недакурак пстрычкай у ваду, прысеў на кукішкі спінай да яе спіны, абхапіў галаву рукамі. Ён не ведаў, што рабіць і што будзе з імі далей. Разумеў, што пакрыўдзіў Раю і што неабходна, каб яна даравала. Адчуваў, што тое, што паміж імі адбывалася, няправільна. Ён намагаўся яе забыць — не выйшла.

Бацька падняўся з кукішак, падняў на ногі за плечы Раю, абняў яе і пацалаваў.

— Калі хочаш, я зараз жа ўцяку ад Зімоўскага да цябе, — абпаліла яго шчаку шэптам дзяўчына.

Ён не адказаў. Туліў да сябе, цалаваў яе шыю ў залатых мяккіх завітках.

Адмыслова бацька не шукаў з Раяй сустрэч, не прызначаў спатканняў, хутчэй пазбягаў. Яна сама прыходзіла да яго. Начамі. Стукалася ў акно пакоя, дзе той спаў, дакладней, драпала пазногцямі шкло, каб не пабудзіць бацькоў і малодшую сястру-школьніцу. Вокны хаты былі размешчаны блізка ад зямлі. Каб трапіць з вуліцы ў памяшканне (пры ўмове, што вокны будуць адчынены), патрабавалася адно высока падняць нагу і перакрочыць праз падаконнік. Пакой, які займаў бацька, выходзіў вокнамі ў сад і глядзеў на дарогу праз штакетнік плота, іншыя два пакоі і кухня пазіралі на двор. Сабакі, які б забрахаў, дзед Іван з бабай Марусяй ніколі не трымалі. Баба Маруся на дух не выносіла так званых хатніх жывёлін, асабліва сабак і кошак. Такім чынам Рая нікога не непакоіла, прыходзячы да бацькі. Незаўважанай з'яўлялася, незаўважанай і сыходзіла. Ён ніколі не пытаўся, чаго ёй каштавалі гэтыя спатканні з ім, як тлумачыла мужу свае адлучкі, на каго пакідала дзіця. Нават не задумваўся. Прыходзіла — і добра. Не прыходзіла — таксама нічога страшнага. Хутчэй за ўсё, проста шкадаваў яе, не кахаў. Рая, наадварот, напэўна, адчувала сябе шчаслівай, наталяючыся каханнем хоць похапкам, хоць невялічкімі прыгаршчамі, нягледзячы на тое, што пасля трэба бегчы назад да нялюбага мужа, і марыла аб тым, каб прачнуцца раніцай з маім бацькам разам хаця б аднойчы. Ён жа не адштурхнуў яе, не прагнаў, не забараніў бачыцца. Яна не напамінала яму пра тое, што кіне Зімоўскага адразу як бацька захоча. Ведала: не захоча. Ведала: не кіне. Бацька таксама не ўспамінаў Раін парыў пад старым мостам. Ён увогуле ні пра што не думаў і не хацеў думаць. Уладкаваўся на працу ў брыгаду электрарамонтнікаў (яна займалася заменай старых драўляных слупоў, па якіх цягнуліся правады электраперадачы, на бетонныя, дэмантажом мясцовай электрасеткі і мантажом высакавольтнай лініі электраперадач з падключэннем да Маладзечанскай сістэмы электразабеспячэння), каб не так часта бываць дома, як было б, калі б вярнуўся на цагельню, дзе працаваў перад тым, як пайсці ў войска, да таго ж на цагельню з будбрыгады перайшоў Зімоўскі.

Праца бацьку падабалася, хутка ён пачаў бегаць па слупах уверх-уніз, быццам па прыступках, налаўчыўся нацягваць правады без сумятні і з матэматычнай дакладнасцю. У брыгадзе яго цанілі, а ён рабіў усё, што ад яго патрабавалася і нават болей, каб забыцца. Работа ратавала бацьку ад Раі. Ён мучыўся сам, мучыў яе, а яна мучыла Зімоўскага. Доўга так працягвацца не магло. Таемныя бацькавы спатканні з Раяй неўзабаве сваю таемнасць страцілі, што не дзіва для вёскі. Вёска — як тая сарока: калі нешта цікавае ведае нехта адзін, абавязкова падзеліцца навінамі з астатнімі.

Зімоўскі прыходзіў да дзеда Івана (з бацькам сустракацца не схацеў), і яны ўдваіх вырашылі, што рабіць далей з Раяй і бацькам, дакладней, з бацькам.

Затым гэтае рашэнне дзед Іван пераказаў сыну, і той з ім пагадзіўся. Не адразу, зразумела, а пасля чацвёртай чаркі.

Рашэнне было такое: адправіць бацьку да малодшай бабінай сястры Груні ў Казахстан. Ён там супакоіцца, можа, застанецца, калі спадабаецца, назаўсёды, а Рая паплача-паплача, дый забудзе, і ўсё ў яе наладзіцца з Зімоўскім, які, дарэчы, вельмі кахаў жонку.

Бацькава цётка Груня была малодшай з дванаццаці дзяцей, якіх жыццё, калі тыя выраслі, разнесла, быццам пасеяла, па розных кутах былого Савецкага Саюза. Яна ж бацьку, лічы, і выняньчыла, бо дзед Іван з бабай Марусяй крыху пабылі ў Вёсцы пасля Карэлафінску і неўзабаве зноў туды з’ехалі. Пасля заканчэння школы цётка Груня з сястрой-пагодкай Соняй паступілі ў Мінскае медвучылішча. Маючы на дваіх адны туфлі і адну святочную сукенку, на танцы ў Дом культуры хадзілі па чарзе. Соня знайшла там сабе баяніста Толіка і засталася ў Мінску, працавала доўгі час медсястрой у дзіцячай паліклініцы на Сонечнай і здавала кроў на патрэбу людзям, за што атрымала званне Ганаровага Донара БССР. У Груню закахаўся салдат-срочнік з вайсковай часці, што размяшчалася ў Райцэнтры. Пазнаёміліся ж яны ў Вёсцы, падчас вайсковых вучэнняў. Праз Вёску часта праходзілі войскі ў тую пару: пехатура, танкавыя, мотастралковыя і нават дэсантныя. Па-

глядзець на баявую тэхніку і салдат з афіцэрамі мінакі выходзілі ўсім дваром, цікаўныя дзяўчаты выскоквалі бліжэй да дарогі, па якой пылілі вайскоўцы. Цётка Груня не была выключэннем. Яна якраз прыехала ў Вёску на летнія вакацыі паднабрацца сіл перад апошнім курсам вучобы. Вылучаючыся з усіх сясцёр непадробнай прыгажосцю, ёй бы ў артысткі кіно падацца. Не горш за Быстрыцкую справілася б з роляй Аксінні ці за Гурчанку ў «Карнавальнай ночы»: умела і спяваць так, што заслухоўваліся нават дрэвы і вецер, і танчыць гэтак, што сама Айседора Дункан пазайздросціла б. А выбрала прафесію фельдшара, больш патрэбную маладой савецкай краіне, чым артысткі. Да таго ж артысты — людзі недасяжныя, незямныя, куды цётцы Груні да іх — вельмі нават зямной, хоць і прыгажэйшай за будзь якую артыстку.

Дзядзька Жэня, калі пабачыў цётку Груню ўпершыню, — забыўся, што ён салдат і ідзе шараговым байцом у агульнай калоне. На мулкіх нагах ён выйшаў з калоны, нягледзячы на выкрыкі старшыны вярнуцца ў строй і пагрозы гаўптвахты. Цётка Груня стаяла пад разгалістай чаромхай, што расла каля двара і непадалёк ад дарогі, па якой праходзілі войскі, праводзячы позіркам ці не кожнага з тых, хто ішоў па дарозе, уяўляла, магчыма, сябе гераіняй ваеннага кінафільма, якая чакала пад чаромхай свайго каханага, героя-пераможца фашысцкай хеўры. Дзядзька Жэня падышоў да яе нячутна і бухнуўся каля яе ног на калені. Цётка Груня спалохалася спачатку, запатрабавала, каб ён зараз жа ўставаў. Аднак салдат не варушыўся і нічога не казаў, адно пазіраў ва ўсе вочы на яе. Ёй спадабаўся яго позірк, яна апусцілася на калені побач з ім, узяла за рукі. Так яны пазнаёміліся. Затым да іх падбеглі старшына і два салдаты і адцягнулі ад цёткі Груні дзядзьку Жэню. Але ён ужо ведаў яе імя і тое, што жыве яна ў двары за гэтай цудоўнай чаромхай.

Дзядзька Жэня з’явіўся праз некалькі тыдняў, прыехаў у Вёску на веласіпедзе. Дзе ён узяў транспарт, не прызнаваўся. Яны пачалі сустракацца. Пасля цётка Груня выйшла за яго замуж, іх распісалі ў мясцовым сельсавеце. У дзень вяселля дзядзьку Жэню давялося зняць вайсковую форму і апрануць штаны дзеда Івана, якія на нём выглядалі як шорты (дзед Іван

быў такога ж росту, як і мой бацька, а дзядзька Жэня падпіраў галавою столь і нагадваў белабрысага Пятра Першага ў маладосці). Адслужыўшы, ён забраў маладую жонку з сабой і звёз у Тэнтэкскі стэп.

Тэнтэк — рабочы пасёлак, які ўзнік у 1955 годзе ў сувязі з асваеннем Тэнтэкскага месцанараджэння высакаякаснага каксуючагася вугаля, адкрыццё залежаў якога адбылося ў 1949 годзе геолагамі Фішманам і Думглерам у раёне рэчкі Тэнтэк на глыбіні 250 метраў. У 1961 годзе пасёлак перайменавалі ў горад і назвалі Шахцінскам, які паступова набыў статус райцэнтра. Акрамя чатырох шахт — Казахстанскай, Шахцінскай, Тэнтэкскай і імя Леніна, размешчаных вакол горада, у ім меліся Домабудаўнічы камбінат, Пасажырскае аўтатранспартнае прадпрыемства, два будаўнічых камбіната бытавога абслугоўвання, Электрамеханічны завод, Завод сінтэтычна-мыючых сродкаў (СМС), тэхналагічны і горна-індустрыяльны тэхнікумы, тры кінатэатры, тэатр, Дом культуры гарнякоў, зразумела, бібліятэкі, бальніца, паліклінікі, школы і дзіцячыя сады. Падзелены на кварталы і мікрараёны, Шахцінск ветліва ўсміхаўся кожнаму жыхару высокімі новабудоўлямі, гасціннымі крамамі, чыстымі тратуарамі, вялікімі і багатымі дзіцячымі пляцоўкамі ў дварах. Ад Караганды Шахцінск аддзялялі пяцьдзясят кіламетраў па ўсходне-заходняму накірунку, ад бліжэйшай чыгуначнай станцыі Карабас — дваццаць восем кіламетраў на захад. У склад горада ўваходзіла таксама чатыры населеных пункта: Шахан, Новадолінскі, Долінка і Паўночна-Заходні.

Бацьку тут спадабалася ўсё з першага позірку, асабліва шматнацыянальнае насельніцтва. Яму нават падалося, што Шахцінск — сэрца Савецкага Саюза, бо ў горадзе жылі прадстаўнікі ўсіх савецкіх рэспублік, больш за тое — народнасцей. Побач адзін з адным суіснавалі чачэнцы і рускія, абхазцы і грузіны, немцы і беларусы, казахі і карэйцы, яўрэі і арабы, армяне і таджыкі, казакі і татары, украінцы і малдаване, мардвіны і ненцы, дагестанцы і чувашы… І яны не варагавалі паміж сабой, не дзялілі тэрыторыю і не падстаўлялі, злараднічаючы за спінай. Гэты горад падаваўся адзіным згуртаваным калектывам друж-

бы і ўзаемаразумення. Усе дапамагалі адзін аднаму, кагалам спраўлялі вяселлі, дні нараджэння і дзяржаўныя святы, тым жа складам памерлых праводзілі ў апошні шлях. Незнаёмы хвіліну таму чалавек тут праз колькі секунд размовы рабіўся лепшым сябрам да канца жыцця.

Бацька адчуваў сябе нібы нанова народжаным. Да таго ж цётка Груня з дзядзькам Жэнем прынялі яго як роднага сына і шчыра паўдзельнічалі ў далейшым лёсе пляменніка. Дзядзька Жэня працаваў шафёрам на аўтабазе, ведаў патрэбных людзей, і тыя ведалі яго. Па пятніцах у ягоным гаражы часта абмывалі ўдалы працоўны тыдзень бутэлечным, а калі-нікалі разліўным бачкавым півам. У адну з такіх пятніц ён пазнаёміў пляменніка з сябрам, які працаваў не апошнім чалавекам на Шахцінскай шахце, і той узяў бацьку да сябе ў брыгаду. Але спачатку адвучыўся тры месяцы на слесара-мантажніка. Ад шахты выдзелілі пакой у інтэрнаце, і ён перабраўся туды, хаця цётка Груня з дзядзькам Жэнем не супраць былі, каб пляменнік заставаўся ў іх. Бацька б застаўся, але адчуваў сябе няёмка ў двухпакаёвай кватэры, дзе жылі, акрамя цёткі з дзядзькам, яшчэ іх два сыны-старшакласнікі. Зразумела, яму ніхто нічога не шкадаваў і любілі яго не ў пазыку, а ўсё ж, атрымаўшы інтэрнат, уздыхнуў з палёгкай. Самастойна жыць — яно заўсёды лепш. Канечне, бацька не забываўся на сваякоў, наведваў часта, цётка Груня ж і накорміць, і напоіць, а сталоўская ежа не ішла на карысць і выклікала пякотку. Нярэдка цётка адмыслова запрашала бацьку ў госці і знаёміла з якой-небудзь абавязкова незвычайнай, разумнай і працавітай красуняй. То немку прапануе — перспектыўнага хірурга з млявым позіркам, то бібліятэкарку з раскосымі вачыма і безліччу доўгіх касічак да падлогі, то лейтэнанта з дзіцячага пакоя міліцыі — рыхтык здобную булачку, а то гімнастку-аматарку з мясцовага тэатра — гутаперчывую і рудавалосую. Бацьку ўвесь час здавалася, што канца-краю не будзе гэтым знаёмствам, а цётка Груня пёрла напрамкі, як танк, на рэкорд па перавыкананні плана зводніцтва. Неяк бацька не вытрымаў і запытаўся, навошта яна гэта робіць.

— Шчасця табе хачу, — не разгубілася тая. — Дзяўчаты ўсе правераныя…

— Кім правераныя? — удакладніў бацька.

— Часам правераныя, — зноў не разгубілася цётка. — Чалавек не павінен быць адзін…

— Я не адзін, — запярэчыў бацька.

— У глабальным сэнсе, канечне, не адзін, — падтрымала цётка Груня, але збіць, як кеглю, яе разлічаны на рэзультат манеўр па ачалавечванні пляменніка было немагчыма. — Ты малады прыгожы мужчына, — працягвала яна, — які павінен мець чароўны тыл у вобразе прывабнай жанчыны знешне і гейшы ў ложку.

— Каго? — не зусім зразумеў бацька.

— Да таго ж адукаваны ў патрэбных месцах, — дадала цётка.

— І ўсе яны, выбраныя вамі, мне падыходзяць? — зрабіў выгляд, што задумаўся, бацька.

— Без выключэння, — пераможліва ўсміхнулася жанчына.

— Але выбраны яны не мной, — цвёрда сказаў бацька. — Не трэба больш мяне ні з кім знаёміць! — голасна заявіў. — Няхай яны будуць хоць каралевамі Мазамбіка! Я сам знайду сабе нявесту. Мо памылюся, але тое будзе мая памылка. Маё шчасце — справа маіх рук, а не вашых, хоць такіх родных і блізкіх.

Цётка Груня ледзь не праслязілася ад такіх слоў.

— Разумнееш на вачах, — прамовіла яна. — Як працуецца? — пацікавілася, імгненна пераключыўшыся на іншае, быццам тэлевізар.

— Добра, — усміхнуўся бацька.

Яму падабалася на шахце, асабліва заробак. У Вёсцы яму б давялося ўкалваць як валу паўгода, каб зарабіць тую суму, якую ён зарабіў на шахце за месяц, стоячы на расслабоне на люках. І гэта ён яшчэ ў забой не хадзіў. Адзіная прыкрасць — шахта мокрая, шмат грунтовай вады.

Першы заробак бацька не ведаў куды падзець. Ніколі раней ён не трымаў столькі грошай у руках. Думкі пра тое, на што іх

патраціць, лёталі, абганяючы адна адну, быццам мухі. Карцела купіць усё і адразу, аднак без канкрэтнай мэтанакіраванай упадабанасці. Складзеныя напалам і рассаваныя па кішэнях рублі, траякі, пяцёркі, чырвонцы і дваццацьпяткі выпукла вытыркаліся, патрабуючы ўвагі да сябе, і балюча джалілі, бы тыя восы, калі дакранаўся да іх, сунуўшы рукі ў кішэні, як у гнёзды з небяспечнымі насякомымі. Тады аддзёргваў рукі нават з міжвольным ускрыкам, бо фантомны боль нічым не адрозніваўся ад сапраўднага.

Каля крамы з адзеннем бацька затрымаўся, пакурыў і зайшоў унутр. Выйшаў адтуль з новым чорным касцюмам, дарэчы, першым у жыцці, вастраносымі скуранымі туфлямі і кашуляй — белай у чорныя плямы картачных пік. Грошай паменела, але тыя, што засталіся, літаральна апякалі праз тканіну кішэняў.

Бацька вярнуўся ў інтэрнат, пераапрануўся ў наўё. Пагледзеўшыся ў люстэрка, спадабаўся самому сабе. Касцюм на ім сядзеў, як на артысце Лешчанка, быццам нарадзіўся ў ім. Удалую пакупку не перашкодзіла б абмыць, каб зносу не было. Напрыклад, з суседам па пакоі — інжынерам з Тэнтэкскай шахты. Заадно больш-менш пазнаёмяцца па-чалавечы. Але той так рэдка з’яўляўся ў інтэрнаце, што чакаць яго не мела сэнсу, да таго ж суботні кастрычніцкі дзень, быццам лісты шчасця, шчодра раздаваў апошняе цяпло. Адлічыўшы некалькі купюр, каб праставіцца на працы, і схаваўшы іх пад электрабрытву «Харкіў» у футаляры, абабітым сінім аксамітам, бацька вырашыў пайсці ў кабак. Пра тое, што лепш было б накіравацца да цёткі Груні з дзядзькам Жэнем і з імі адзначыць першы шахцёрскі заробак, не падумаў. Ён ніколі не быў яшчэ ў піцейных установах, але ведаў, дзе знаходзілася найлепшая, таму ногі самі прывялі да рэстарана, што падпіраў сваімі шклянымі сценамі кінатэатр «Юнацтва» па Ленінскай вуліцы.

Рэстаран расчараваў. У ім было досыць ціха, шэра і будзённа. Са сцяны без вокнаў на наведвальнікаў сумна пазіраў Ленін (вялікае пано з адлюстраваннем правадыра спускалася кілімам ад столі да падлогі), перажываючы, відаць, за перавод прадуктаў і фінансаў, якія ў любым выпадку ператвараліся ў

пыл. Суседства з Леніным наўрад ці садзейнічала весялосці ці з’яўленню весялосці, напрыклад, у вобразе Снягуркі і дзеда Мароза. Але ж не сыходзіць, калі ўжо прыйшоў.

Бацька марудна, быццам у чаканні, што хто-небудзь раптам пакліча яго і выцягне з рэстарана, нібы з пасткі, рушыў да найаддаленага круглага століка, засланага аранжавым з махрамі дастарханам. Паркетная падлога пры гэтым рыпела пад нагамі як добра нагуталіненыя кірзавыя боты. Спыніўся каля століка, паклаў руку на спінку крэсла — металічнай канструкцыі ў выглядзе трона без падлакотнікаў, абабітага карычневым дзермацінам, і разгублена азірнуўся на нешматлікіх прысутных. Ніхто з іх не звярнуў на яго ўвагі, акрамя маладой афіцыянткі ўсходняй знешнасці. Не спяшаючыся, яна падышла да бацькі, трымаючы ў руках скураную чорную тэчку з меню.

— Тут заўсёды так? — міжволі запытаў ён яе.

— Як калі, — паціснула вуглаватымі плячыма афіцыянтка, працягнула бацьку меню. — Яшчэ рана для асноўнага наплыву, — памуляўшы вуснамі, дадала.

— Тады, — устрапянуўся бацька, абнадзеены яе словамі, — можа, я пазней зайду? — І паглядзеў на дзяўчыну так, нібы дазволу прасіў сысці.

— Як хочаце, — абыякава аднеслася афіцыянтка.

— Пайду я, — прамовіў бацька і ледзь не бегма кінуўся да выхада з установы.

Калі апынуўся на вуліцы, адчуў, што нават дыхаць стала лягчэй, чым у памяшканні рэстарана.

Ён закурыў. Да яго падышлі трое маладых людзей (казахаў) і адна дзяўчына, якія выйшлі з рэстарана следам за ім. Адзін папрасіў прыкурыць.

— Сумуеш? — спытаў затым бацьку. — Кампанія патрэбна? Можам і дзяўчыну для цябе знайсці, калі хочаш. Тут, — паказаў рукой на рэстаран, — мёртвае месца, не для рабочай моладзі, кшталту цябе, не крыўдуй толькі.

— Ведаеш, дзе маё месца? — узвіўся бацька.

— Ціха-ціха-ціха! — паміж імі ўклінілася дзяўчына, што падышла з казахамі. — Лепш за прыроду месцаў не прыдумалі, — ветліва ўсміхнулася бацьку.

— Намякаеш, што ў мяне грошай не хопіць на гэты пафасны фасад? — позірк у бок рэстарана.

Дзяўчына паціснула плячыма, працягваючы ўсміхацца. Яна не належала да казахскай нацыянальнасці, але і рускай назваць яе было цяжка.

— Не хвалюйся, хопіць! — паляпаў бацька рукамі па кішэнях, звяртаючыся, аднак, толькі да дзяўчыны.

— Тады тым больш прырода падыходзіць, — адзначыла яна. — Калі, вядома, ты нікога не чакаеш, — праніклівы пагляд на бацьку. І той паплыў ад яго.

Дзяўчына здавалася прыгожай і зацікаўленай ім. Ледзь прыкметная картавінка рабіла яе сапраўднай. Трое яе спадарожнікаў бацьку не палохалі, наадварот, радавалі. Ён жыў цяпер у Казахстане, а выпадку пазнаёміцца, тым больш пасябраваць з карэннымі насельнікамі краіны да сённяшняга дня не выпадала. Гэта шанец наладзіць прыватныя міжнацыянальныя адносіны.

— І дзе тая прырода? — расплыўся ва ўсмешцы бацька.

— Зусім блізенька, — усміхнулася дзяўчына яму ў адказ. — Рухайся за намі, не пашкадуеш, — абяцала ці не рай. Зноў рай? Бацька спадзяваўся, што дзяўчына мела не райскае імя. Адной яму ўжо хапіла.

Яна назвалася Зарынай. І бацька з палёгкай уздыхнуў.

Раніцай яго знайшоў вартаўнік будоўлі новай высоткі ў бетоннай трубе. У адных трусах, майцы і шкарпэтках бацька ляжаў нерухома, нібы труп, за які вартаўнік — сталых гадоў, але яшчэ не стары мужчына — яго і палічыў. Ён аж падскочыў, спалохаўшыся, калі бацька прабубніў, што змерз. Вартаўнік паражагнаўся, выцягнуў бацьку з трубы і завалок у сваю бытоўку, дзе раскатурхаў і напаіў гарбатай. З апрытомненнем з'явіўся і нясцерпны боль у галаве. У чэрап, здавалася, малацілі, не шкадуючы высілкаў, нібы ў званы, кувадламі. Бацька не ведаў, дзе ён, і не памятаў, як трапіў у трубу. Па логіцы, было зразумела, што яго апаілі і абрабавалі. Ён успомніў Зарыну і таго казаха, які з ім загаварыў. Зарына называла яго Агайдарам. І гэта ўсё. Бацька разумеў, што ён з імі некуды паехаў ці пайшоў, але

нічога не памятаў. І як ні намагаўся, як ні напружваўся прымусіць памяць працаваць — не атрымлівалася. Каб падкруціць гайку якім слясарным ключом — гэта калі ласка. Памяць жа — рэч складаная і далікатная. Ёй так проста гайкі не падкруціш, калі яна дала збой.

Упэўнены, што на памяць спадзявацца нявартa, бацька папрасіў вартаўніка патэлефанаваць дзядзьку Жэню і прадыктаваў нумар яго хатняга тэлефона. Дзядзька Жэня неўзабаве прыехаў за пляменнікам на машыне, аддзячыў вартаўніка трохлітровым слоікам піва і паехаў у гараж. Дамоў не павёз, каб не турбаваць і не хваляваць жонку.

Кораценька бацька распавёў дзядзьку пра свае прыгоды, пагадзіўся з тым, што вінаваты сам, і паабяцаў разабрацца з рабаўнікамі, бо дзядзька ўжо прапаноўваў дапамогу і сваю, і міліцыю падключыць.

Ну сам дык сам. Бацька заўсёды ўсе свае праблемы вырашаў самастойна. Як Чак Норыс, пра якога, зразумела, у той час ніхто ведаць не ведаў.

Адмыслова ён не шукаў Зарыну і Агайдара, але часта задумваўся, што з імі зробіць, калі знойдзе. Не ў міліцыю ж павалачэ. А вось яны могуць кінуць на бацьку заяву, калі той іх адлупцуе, і пасадзяць за мілую душу. Чамусьці ў гэтым бацька не сумняваўся. Тым не менш прыходзіў па выходных да рэстарана, прагульваўся каля дзвярэй хвілін пятнаццаць, але ўнутр не заходзіў, курыў і сыходзіў.

Толькі пад Новы год, і тое выпадкова, ён сутыкнуўся нос да носа з Зарынай у грамадскім транспарце. Вяртаўся з працы маршрутным аўтобусам і стаяў каля акна, калі на адным з прыпынкаў пасажырскай хваляй да яго грудзей вынесла дзяўчыну, прыціснула, а выхад спрэсавала. Зарына апынулася ў пастцы, якая схапіла яе і трымала мёртвай хваткай. Дзяўчына адразу пазнала бацьку, убачыў па яе вачах, аднак не спалохалася, а калі спалохалася, то на імгненне. Адчайна, куражліва засмяялася яму ў твар. Бацька раптам узяў і пацалаваў яе ў вусны, што крыўляліся насупраць ягоных губ. Яны былі халоднымі з марозу і салодкімі, як марожанае.

— Дурак! — прашаптала яна пасля.

Яны не размаўлялі і больш не цалаваліся. Зарына ліхаманкава шукала выйсце з пасткі. Бацька бачыў гэта зноў жа па яе вачах. Яны ўвесь час бегалі, быццам вавёркі: шмыг у адзін бок, шмыг — у другі, уверх, уніз. Спадзявалася, мабыць, больш за ўсё, што яе вынесе з аўтобуса гэтак жа, як занесла. Але бацька сачыў за кожным яе рухам, і проста так ёй не ўцячы ад яго.

Нарэшце Зарына дачакалася патрэбнай хвалі. Яна падхапіла б дзяўчыну нават у тым выпадку, калі б тая супраціўлялася. Зарына пераможліва азірнулася на бацьку, але той таксама трапіў у паток, што выкульваўся з аўтобуса.

Яна пабегла, як толькі кранулася нагамі заснежанай зямлі, ды высокія абцасы зімовых ботаў перашкаджалі. Бацька лёгка дагнаў дзяўчыну, схапіў за пухнаты каўнер прыталенага футэрка. Ліхтары і вочы людзей, што праходзілі міма, памылкова прымалі іх за закаханую пару.

— Дзе ён?
— Хто?
— Ты ведаеш, хто!
— Не ведаю я нічога! Пусці! Ты робіш мне балюча!
— Яшчэ не тое будзе.
— Я закрычу! Паклічу міліцыянтаў!
— Крычы. Раскажаш ім, як абрабавалі мяне і кінулі паміраць.
— Ты нічога не дакажаш!
— А ты правер.
— Мне паверань больш.
— Добра. Тады хадзем проста зараз у міліцыю.
— Нікуды я з табой не пайду!
— Ты ж так ірвалася туды. Ужо не хочаш?
— Я перадумала.
— Што так?
— Ды хто ты такі, каб указваць мне?!
— Ніхто.
— Тады пусці і гуляй, Вася, пакуль цэлы!
— Ты мне пагражаеш?
— Папярэджваю.
— Агайдара нацкуеш на мяне?

— Ты не разумееш!
— Што я павінен зразумець?
— Што ты хочаш ад мяне?
— Адвядзі да Агайдара.
— Гэта дрэнная ідэя.
— Не, геніяльная. У мяне на марозе заўсёды ўзнікаюць геніяльныя ідэі.
— Яму не спадабаецца.
— Мне пляваць. Я за справядлівасць.
— У кожнага яна свая. Лоха абуць таксама справядліва для некага.
— Для цябе? Ці для Агайдара?
— Ты яму нічога не зробіш.
— Паглядзім.
— Тут і глядзець няма чаго.
— Тады я цябе заб'ю.
— Цябе пасадзяць.
— А цябе закапаюць. Каму з нас будзе лепей?
— Ты не здатны на злачынства, фраер.
— Гэта яшчэ чаму?
— Вочы добрыя.
— Памыляешся.
— Наадварот, разбіраюся ў людзях. Так што пусці і адчальвай! Лічы, што табе пашанцавала не сустрэцца другі раз з Агайдарам.

Бацька ніколі не біў жанчын. Удар, які ён нанёс Зарыне кулаком у жывот, быў першым у ягоным жыцці. Ён не бачыў іншага выйсця. Зарына павалілася ў сумёт, схапіўшыся за жывот рукамі. Яе твар перакрывіла сутарга болю. Вочы зашклілі здзіўленнем, як шыбы марозам.
— Падымайся! — пацягнуў бацька дзяўчыну за каўнер.
Яна паслухмяна ўстала на ногі.
— Грошы ёсць? — запытала раптам.
— З якой мэтай цікавішся? — адказаў пытаннем на пытанне бацька.

бо паглыблялася ў тэкст і ў свет тэксту надоўга, танула і растваралася ў ім, як таблетка ў шклянцы з гарачай вадой. Вершы не валодалі падобнай магутнасцю, прынамсі, для мамы. Яна разумела прыгажосць і бездакорнасць рыфмаў і формаў, кшталту Ясенінскіх і Пушкінскіх, аднак не краналі яны яе за жывое, не чаплялі ні сэрца, ні нервы. На адным з урокаў, калі настаўнік чытаў на памяць нешта з Раждзественскага, а потым з Еўтушэнка, а пасля пачаў дэкламаваць урывак з «Воблака ў штанах», у якім Маякоўскі апынуўся зусім і не Маякоўскім, калі не ўлічваць ламаныя рытм і рыфмы, яна не вытрымала, ускочыла з-за парты і заявіла (толькі дзеля таго, каб настаўнік звярнуў на яе ўвагу, бо не ведала, як да яго дастукацца), што Маякоўскі не мог напісаць такіх прыгожых слоў і так шчымліва распавесці пра сваё каханне, бо ён жа, як усім вядома, трыбун рэвалюцыі і не меў ні часу, ні права на ваніль і смаркачы. Мама тут жа пашкадавала пра сваё глупства, запунсавела ад сораму, але сапраўды лічыла так, як сказала. Ніхто раней да гэтага настаўніка не распавядаў вучням пра іншага Маякоўскага — чалавечнага і жывога. Ён быў усесаюзным волатам, з яго вучылі браць прыклад, яго выказваннямі асуджалі п'яніцу і дэбашыра напаўзабароненага Ясеніна, праўда, мама не разумела, за што таго забаранялі. Настаўнік адчуў маміну парывістасць і ўзрушанасць, але не разгледзеў адразу таго, пра што яна прагла сказаць і да чаго цягнулася. Ён падумаў, што дзяўчынка імкнулася разабрацца, дзе праўда, дзе мана, і яму спадабалася гэта, а відавочнага не заўважыў. Пасля ўрока настаўнік папрасіў маму затрымацца. Як ёкнула яе сэрца! Яны застануцца сам-насам! Мама ўявіла, як настаўнік абдыме яе, як пацалуе. Яна нават прымружыла вочы ад задавальнення, якое магло здарыцца неўзабаве. Але ён працягнуў ёй кніжку Маякоўскага з паэмай «Воблака ў штанах». Сказаў, што яму прыемна маміна захопленасць, і гэтая кніжка дапаможа ёй зразумець супярэчлівую душу паэта. Мама нават аслупянела на некаторы час ад нечаканасці пачутага. Ён што — сляпы? Ды пляваць ёй с высокай званіцы на паэта і ягоную супярэчлівую душу! Яна хацела, каб настаўнік пачуў ейную душу, сэрца, якое трапяткою птушкаю білася ў грудзях і прасілася вонкі.

Мама расчаравана ўзяла кніжку, прыціснула яе да грудзей і павярнулася, каб сысці. Настаўнік жа раптам абняў яе за плечы і папрасіў прачытаць кнігу хутка, але ўважліва, бо ён меў намер працягнуць з ёю абмеркаванне савецкай паэзіі. Яна кіўнула, не абярнуўшыся, аднак на твары зайграла сонечнаю ўсмешкаю надзея на тое, што ўсё ў яе яшчэ наперадзе.

Мама праглынула «Воблака ў штанах» за адзін прысест перад сном, але зусім не з тым вынікам, які ёй уяўляўся. Яна спадзявалася на паслясмак кшталту з дзяцінства ўпадабаных «Чырвоных каптурыкаў» у жоўтай абгортцы, а атрымалася так, быццам выпіла звычайную шклянку вады. Чараўніцтва не адбылося. На яго быў здацен толькі голас настаўніка. Толькі ён мусіў ажыўляць нерухомыя з выгляду чорныя літары радкоў белых кніжных старонак і маляваць імі вобразы ў прасторы. Самастойна маміна сэрца на паэзію Маякоўскага дый, як высветлілася пазней, на ўсіх астатніх, не адгукалася. Аднак яна не адчувала сябе чэрствай, пацягнула ж яе да настаўніка! А значыць ён павінен быць адно з ёю! Бо менавіта ён рабіў з ёю нешта неверагоднае. Нібыта сапраўдны чараўнік, прычараваў яе сваімі голасам і знешнасцю. Дзеля яго мама зняла акуляры і пакідала іх дома, каб выглядаць больш прывабнай. Валасы заплятала ў касічкі, а тыя замацоўвала белымі бантамі, чорны штодзённы фартушок са школьнай формы замяніла на святочны белы і смешна мружыла вочы, намагаючыся хоць што-небудзь убачыць з дошкі. Усе заўважылі перамену ў дзяўчыне, нават Люся пацікавілася, з чаго мама так марафеціцца штодня, аднак настаўнік літаратуры аслеп тым часам. Мама вярнула яму кнігу, той прапанаваў прайсціся па школьным садзе і абмеркаваць прачытанае на вялікім перапынку. Гэта было не тое, чаго яна чакала, аднак пагадзілася. Усё ж яны будуць удвох, хоць і дваццаць хвілін. Пад нагамі хрумсцела апалае чырвонае лісце, яшчэ не сабранае ў купы. Голыя шкілеты дрэў нагадвалі вязняў Асвенцыма, што моляць аб паратунку вецер, які ў Казахстане нагадваў шкадлівага падлетка. Ён налятаў, чамусьці заўсёды на дзяўчат, ззаду ці спераду, як яму заманецца, і задзіраў угару спадніцы і сукенкі, рагочучы вароннім

карканнем. Вароны яго паўсюль суправаджалі, быццам служба эскорту. З дрэвамі ж увогуле не цырымоніўся, зрываў з іх адзенне рэзка і цалкам, без жалю і эмоцый. Аднак маму ён не палохаў. Нібыта адчуўшы гэта, вецер пакрыўджана крутануўся і знік у купцы варон, якія з моцным карканнем, падобным на нямецкае гергетанне, шумна захлопалі крыламі і падняліся ў неба, падаўшыся некуды ў горад.

Мама нахабным чынам падманвала настаўніка наконт прачытанай паэмы, узнёсла распавядала пра сваё захапленне паэтычнымі вобразамі, метафарамі і параўнаннямі, ездзіла па вушах, гаворачы пра тое, што ён хацеў бы пачуць. А той ажно млеў ад няспыннага рэчытатыву вучаніцы. Пакуль яна не сказала, што кахае яго. Настаўнік адразу нават не зразумеў, бо выпаліла яна гэта без усялякага пераходу ад паэзіі Маякоўскага. А затым спалохаўся. Пачаў запэўніваць, што пачуцці да яго толькі мрояцца. Гэта ўсё магутная сіла паэзіі.

Ведаў бы ён сапраўдную моц гэтай сілы.

Мама не раскалолася, не прызналася, што паэзія на яе не дзейнічае.

І ўсё ж дамаглася свайго. Прымусіла настаўніка абняць сябе і нават пацалаваць у вусны, каб супакоіцца. А пасля цэлы тыдзень хадзіла шчаслівая. Прыгадвала яго дужыя рукі, якія абхапілі яе танклявы стан, быццам букет прыгожых кветак, пах яго парфумы, падобны на водар сапраўднага лесу (мама ведала яго дакладна, нагадваў украінскія лясы, у якіх яна любіла блукаць, калі прыязджала на радзіму дзеда Яўгена дый на сваю, бо нарадзілася там, у кожныя школьныя канікулы), дотык мяккіх цёплых сунічных (мабыць, сунічнае варэнне ці джэм еў напярэдадні) губ.

Як не дзіўна, але настаўнік не пазбягаў мамы. Спалох яго мінуў і, мабыць, ён падумаў: а чаму б і не? Мяркую, што да падобнай высновы настаўнік прыйшоў невыпадкова. Хутчэй за ўсё нешта не ладзілася з жонкай, калі ён паддаўся на правакацыю вучаніцы, і партыя не ўратавала, не спыніла ад кроку, пасля якога назад не павернеш. Мала верагодна, што ён разлічваў на блізкасць з непаўналетняй, відаць, і думаць пра гэта не асмельваўся, але яе ўвага несумненна цешыла і захапляла.

Дый хто ўстояў бы на месцы настаўніка, калі да яго гарнулася прыгожая маладая дзяўчына і ўпітвала кожнае прамоўленае ім слова, быццам боскую дабратворнасць.

Мама дыхала ім і не магла надыхацца. Ён праводзіў яе дадому пасля ўрокаў, яму было па дарозе, зразумела, шыфруючыся, так, каб не зразумеў пра іх ніхто і не насвістаў кіраўніцтву школы. Яны ішлі побач, але на такой адлегласці, каб, калі што, паміж маглі размясціцца два чалавекі. Размаўлялі, дакладней, мама больш слухала бясконцую нябачную стужку вершаў, нанізаных адзін на адзін. Ёй падабалася, але толькі таму, што вершы тыя чытаў менавіта ён, яе настаўнік. А як цікава ён распавядаў розныя гісторыі з жыцця паэтаў і пісьменнікаў! Яны здаваліся да сустрэчы з настаўнікам такімі далёкімі і недасяжнымі, занудлівымі і самотнымі. У яго расповедах кожны ажываў і раскрываўся, быццам кветкавы бутон, гэтак жа, як і сам настаўнік.

Здаралася, ён запрашаў маму ў парк праз якую-небудзь дзяўчынку з яе двара. Тая за дваццаць ці сорак капеек падымалася на трэці паверх, званіла ў кватэру Украдыгаў і клікала маму на вуліцу. Яна выбягала з пад’езда ўзрушаная, з запаленымі ад прадчування жаданай сустрэчы вачыма, заўважала настаўніка, які чакаў яе каля сваёй машыны (старэнькіх жоўтых «Жыгулей»), спыненай поруч з палісаднікам, рабіла на ўсялякі выпадак выгляд занятага чалавека, а параўняўшыся з настаўнікам, мышанём сігала ў салон аўто, на мяккае сядзенне, пакрытае не новым, але пухнатым покрывам з нацыянальным арнаментам.

Пакуль ехалі, мама расказвала, так, менавіта, мама ў машыне заўсёды шчабятала, пра тое, што прачытала, чым уразілася, аб чым пачула. У парку прагульваліся за ручку, як бацька з дачкой, не выклікаючы асаблівай цікавасці мінакоў. Магчыма, такіх, як яны, пар у парку хапала, каб з усіх дзівіцца.

Аднаго разу настаўнік прывёз маму на бераг рэчкі Тэнтэк за горадам — камяністы, але неверагодна прываблівы. Там упершыню яна пакаштавала віна. Восень тады ўжо скончылася, а зіма яшчэ недзе бавілася, бо снег так і не выпаў. Вецер жа ганяў хвалі па вадзе з такім імпэтам і запалам, што стваралася

ўражанне сапраўднага марскога шторму, таму віно, як ніколі, было дарэчы. Яно сагрэла, але не спадабалася маме, затлуміла галаву. Настаўнік жа не піў, бо за рулём. Але нічога паміж імі не адбылося. Ні тады, ні пазней. Ніколі. Абдымкі і пацалункі — вось і ўсё, чым мама магла пахваліцца, успамінаючы настаўніка.

А потым ён знік. Гэтак жа, як і з'явіўся. Знянацку і выпадкова. Заміж яго прыйшла хударлявая цётка ў бігудзях пад газавай касынкай і ў спаднічнай двойцы. Мама спачатку разгубілася, калі тая паведаміла, што яна іх новая настаўніца па рускай мове і літаратуры, а затым дэманстратыўна склала рэчы ў партфель і выбегла з класа. Зразумела, не бунтавала яна такім чынам супраць новай настаўніцы. Яе з'яўленне шакіравала, як і здрада настаўніка. Ніяк інакш растлумачыць яго ўчынак мама не хацела, дый не бачыла іншых прычын. Яна ведала, дзе той жыў, і імкліва кінулася туды. Аднак адрасат выбыў. Без усялякіх тлумачэнняў і папярэджванняў. Мама чакала і спадзявалася на тое, што настаўнік неяк адзавецца, дасць знак ці сустрэнецца з ёю. Можа, дзеля яе ён і сышоў са школы? Наіўная. Усё аказалася вельмі проста. Настаўніку прапанавалі месца ў Карагандзінскім універсітэце. У новае жыццё ён не захацеў цягнуць мінулае і скінуў яго, як выкарыстаныя палявыя пальчаткі. Пра гэта мама даведалася ў іншым жыцці. Яна зноў начапіла акуляры, матэрыял настаўніцы слухала няўважліва і страціла ўсялякую цікавасць да паэзіі канчаткова. Яна для мамы асацыявалася з настаўнікам, што здрадзіў ёй.

Мама прыпыніла ўсялякія стасункі з каханнем, быццам пакрыўдзіўшыся на яго, як маленькая дзяўчынка. Затое вырашыла, кім хоча стаць, калі скончыць школу. Яна старанна ўзялася за вучобу, каб паступіць у медыцынскі інстытут. І яна, магчыма, паступіла б і лекавала людзей не горш за прафесара Фёдарава, бо адчувала здольнасці і жаданне дапамагаць. Мама ніколі не баялася крыві, і яе не ванітавала ад рознай ступені пашкоджанняў чалавечага цела. З дзяцінства, якое правяла ў саўгасах і пасёлках, умела расцельваць цёлак, адсякаць галовы курам і пеўням, здзіраць скуру з трусоў і выцэжваць кроў з

зарэзаных свіней, не ўлічваючы даення кароў і коз. Мяркую, з яе атрымаўся б нядрэнны хірург. Аднак… Мама не здолела напісаць сачыненне на станоўчую адзнаку. Гэтаксама не пашанцуе і Дзядзьку, і ён не напіша сачынення пры паступленні ў інстытут, нягледзячы на суперзалатыя рукі. Ён мог імі рабіць усё: ад звычайнай шпакоўні да сценкі, не горшай за фінскую ці балгарскую, з філіграннымі завіткамі і ўзорамі. Адсутнасць уяўлення (здольнасці на самастойную фантазію) вінавата была ў іх няўдалых спробах падняцца кудысьці вышэй, куды ім, па рашэнні кагосьці ці чагосьці, наканавана было не трапіць. А шкада. Што ж, усім даўно вядома, што справядлівасці, на жаль, не існуе, што людзі, якія адчуваюць сэрцам, дзейнічаюць сэрцам і жывуць сэрцам часцей за ўсё апынаюцца заціснутымі ці адціснутымі на другі і трэці план прыстасаванцамі і кар'ерыстамі, дбаючымі не пра рэзультат якасці, а пра рэзультат колькасці. Ні мама, ні Дзядзька горшымі, зразумела, не сталі ад таго, што не паступілі. Я ўсё ж лічу, што свет страціў значна больш, чым яны. Дзядзька мог пабудаваць цэлыя гарады-казкі, няхай і не ім самім прыдуманыя, няхай недзе ўбачаныя і скапіраваныя, але выкананыя бездакорна. Мама магла б кожны дзень перамагаць смерць, выхопліваючы з яе ўчэпістых лап і падаўжаючы чалавечыя жыцці. Не лёс, як кажуць.

Нягледзячы на няўдачу з інстытутам, мама ўсё адно трапіла ў бальніцу. Санітаркай. Яе не мелі права ўзвысіць да медсястры, але абавязкі медсястры яна выконвала. Усе хворыя і дактары любілі маму. Яна мыла падлогу ў калідорах і палатах, вокны і плінтусы, выносіла з-пад ляжачых судны, рабіла ўколы і перавязкі, мерала тэмпературу, разносіла лекі і абеды. Яе нават клікалі ў асістэнткі на нескладаныя аперацыі і даручалі зашываць раны. Яе дабрыня, яе сэрца лекавалі больш за лекі, асабліва голас, якім прамаўляла вершы на памяць ці па кніжцы, супакойваючы цяжкіх хворых. Яна не змяніла сваіх адносін да паэзіі і ніколі не зменіць, але разумела, што імі можна здымаць боль і суцяшаць душы.

Да кахання ставілася нейтральна. Адмыслова нікога не шукала і не чакала прынца. Кніжныя інтэлігентныя маладыя людзі яе не цікавілі, яна іх і не заўважала, адносілася, канечне ж,

з цяплом, як і да ўсіх астатніх, але не болей. Настаўнік, які разбіў ёй сэрца, міжвольна ўнушыў думку, што падобныя да яго абыдуцца з ёю гэтаксама. Нагаворацць торбу прыгожых слоў і змыюцца, не папярэдзіўшы. Наконт іх яна не сумнявалася: балбатуны і няздары. Ёй патрэбен быў іншы. Просты, зразумелы, жывы. Такі, як бацька, мой бацька, які ў хуткім часе з'явіцца на гарызонце жыццёвага мора неўтаймаваным фрэгатам.

Ён прыйшоў раней прызначанага часу. Пляцоўка каля пад'езда здавалася вельмі ўтульнай у параўнанні з усімі астатнімі. З абодвух бакоў яе ўпрыгожвалі высокія, хоць і танклявыя ў камлі таполі і карагач, з лісцеў якога ўлетку дзятва рабіла свістулькі. Выглядалі яны неахайна, лысыя і наструненыя, быццам цеціва на луку, сарамліва ўздрыгвалі ад кожнага парыву ветру, адчайна прыкрываючыся, быццам цнатлівыя паненкі, тым калівам снегу, што яшчэ заставаўся на іх галінах. Дзве лаўкі насупраць адна адной насцярожана цікавалі за незнаёмцам у асобе майго бацькі. Яны ведалі тут кожнага насельніка і хавалі ў шчылінках дзеравяшак іх шматлікія тайны. Калі б нехта дадумаўся б узяць інтэрв'ю ў лавак, тыя б, не сумняюся, навыперадкі, спяшаючыся абагнаць адна другую ў прызнаннях, набалбаталі б не на адзін раман. Аднак бацька не быў жаданым госцем, і лаўкі хутка расчараваліся ў ім. Тым больш ён вельмі шмат курыў. Ад хвалявання, зразумела. Яму здавалася, што ён чакае маму так даўно, прыпхнуўшыся загадзя, а яна ўсё не ішла.

Мама тым часам вагалася. Цвёрда ж вырашыла, што не пойдзе на спатканне, прызначанае бацькам. Тым не менш ёй карцела бегчы да яго ўжо за паўгадзіны да сустрэчы. Яна сядзела ў сваім пакоі на ложку і грызла пазногці, пазіраючы на гадзіннік і прыспешваючы хуткасць часу. Аднак загадвала сабе нікуды не ісці. Затым прыгадвала пацалунак, пакінуты бацькам на яе вуснах, датыкалася да іх, быццам правяраючы, ці на месцы ён, і тут жа адмяняла загад.

І ўсё ж мама вытрымала праседзець лішнія дзесяць хвілін, круцячыся на ложку, быццам знаходзілася ў адзіночнай камеры турмы. Затым імкліва вышпурнула сябе за дзверы кватэры,

на хаду зашпіляючы зімовае паліто і абмотваючы шыю цёплым шалікам. Маланку чорных скураных ботаў на ўстойлівай платформе, прывезеных дзедам Яўгенам з Украіны яшчэ ў маі на дзень нараджэння, зашморгнула ўжо на выхадзе з пад'езда.

Ён яе чакаў. І ўзрадаваўся, быццам якой-небудзь цудоўнай з'яве, сведкам каторай стаў, ці прыўкраснаму стварэнню.

— Вось і я, — задыхана выпаліла мама.

— Я бачу, — затрымаў яе бацька за плечы. Яна ў чарговы раз падзівілася на яго дужыя рабочыя рукі і ў захапленні не магла ад іх адвесці вачэй. Захацелася дакрануцца шчакой, але не зараз, трэба было трымацца і адразу ўсіх пазіцый не здаваць.

— Ты прыгожы, — нечакана прамовіла мама, здзівіўшы саму сябе, але чамусьці ўтрымацца не здолела, хоць нават так не думала, асабліва калі пачула, як ад бацькі патыхае цыгарэтамі.

— Ты прыгожая, — хапіла яму розуму запярэчыць і адначасова зрабіць нязграбны камплімент.

— Прымаецца, — сказала мама і пацікавілася: — Куды пойдзем?

— Прама, — выцягнуў руку наперад бацька, ніякавеючы пад позіркам яе лясных вачэй. Ён адчуваў сябе шчаслівым, але зусім не ведаў, куды ісці і што рабіць далей, тым больш мулялі мазалі цесныя боты, якія не хацеў абуваць, ды ўсё ж напяліў на нейкую трасцу.

Мама паціснула плечукамі, маўляў, ты галоўны, вось і вядзі, і прасунула сваю руку пад яго.

Яны пайшлі па дарозе ўздоўж дома. Пад нагамі хрумсцеў снег. На дзіцячай пляцоўцы дзяцей пабольшала. З горак каталіся старшакласнікі, карыстаючыся момантам пажмякаць старшакласніц, якія віскаталі ад задавальнення і ўвагі да сябе, залівіста смяяліся і нешта шчабяталі.

Мама раптам пацікавілася ў бацькі, але пытанне гэтае яе хвалявала больш за астатнія, на якія яна б хацела атрымаць адказ, каб не памыліцца:

— Як ты адносішся да паэзіі і ўвогуле да кніг?

— На халеру яны мне? — адразу адказаў бацька, паўтарыўшы словы сваёй маткі пра тыя самыя кнігі.

— То бок зусім ніяк? — усё ж нечага яшчэ патрабавала мама ад яго, нечага больш канкрэтнага.

— Я лічу, што жыццё трэба пражываць, а не чытаць, — вымавіў бацька, — хаця, — запнуўся і працягваў, — адну кніжку я прачытаў. Яна называлася «Малярка». Нейкага Маршака.

— Ого! — выгукнула мама, а бацька спалохаўся, што сваім адмоўным стаўленнем да кніг можа адштурхнуць дзяўчыну, бо па ёй жа было відаць нават сляпому, што кнігі ў яе жыцці не на апошнім месцы.

— Ты можаш чытаць, — паспяшаўся ён неяк выправіцца. — Я не супраць.

— Дазваляеш, значыцца? — незразумела для бацькі выказалася мама. Ён не мог здагадацца, ці сур'ёзна яна прамовіла апошнюю фразу, ці з падкавыркай якой-небудзь саркастычнай.

— Дазваляю, — не запярэчыў усё ж бацька і дадаў: — Але маё стаўленне да кніг застанецца нязменным.

— Які ты бескампрамісны, — пасміхнулася мама, але ёй спадабалася тое, як і што адказаў бацька. А яшчэ яна зразумела, што ён не будзе наматваць кілаграмы слоўнай лапшы ёй на вушы, што ён чалавек дзеяння і працы.

Не трэба думаць, аднак, што ў мамы нікога не было да бацькі пасля настаўніка. Яна вельмі прывабна выглядала і эфектна апраналася, у прыватнасці, насіла рознакаляровыя нейлонавыя блузкі з шырокімі каўнярамі, вадалазкі, расклёшоныя нагавіцы, якія падкрэслівалі яе гібкі стан, скураныя пінжакі і паліто. Не адна пара мужчынскіх вачэй зламаліся, як іголкі, аб маміну прыгажосць, хаця мама ніколі сябе прыгожай не лічыла. Сімпатычнай, так, міленькай, магчыма, і не больш. Да яе пачалі заляцацца адразу пасля школы, аднак увага гэтая, хутчэй, смяшыла, чым надавала вагі ўласна асобе. Гэта Люся камплексавала наконт сваёй знешнасці, таму і гатовая была пайсці куды заўгодна з кожным, хто так ці інакш заўважыў яе. Мама ж лічыла Люсю прыгожай дзяўчынай. Аднак не ўзрадавалася, калі тая паведаміла ёй, што выходзіць замуж за старэйшага Украдыгу, нібыта прадчувала, што дабром іх шлюб не скончыцца. Люсю апрыёры цікавілі ўсе мужчыны запар, і

мама не разумела, чаму тая рашылася на шлюб, тым больш з яе братам. У сваю чаргу, Люся крыўдзілася на маму, бо ёй здавалася, што тая прадузята адносілася да яе, нібыта Люся не заслугоўвала такога прыгажуна, як яе брат, і адмыслова зробіць таго няшчасным. Калі мама так думала, то ніколькі, я лічу, не памылялася. І сумны вынік гэтага шлюбу ўсім вядомы.

Бясспрэчна, Люся старанна прыхоўвала ад мужа свае здрады, ва ўсялякім разе па першым часе. Яна выявілася нераўзыдзенай вынаходніцай падману, куды там галівудскім зоркам да яе таленту! Люся стварыла тэатр аднаго акцёра ці, хутчэй, акцёркі і зіхацела ў ім напоўніцу, насалоджваючыся ўласнай гульнёй.

Стамілася яна альбо, наадварот, выйшла на новы ўзровень, перастаўшы хавацца, прынамсі, ад мамы, падчас іх агульнай камандзіроўкі ў Хабараўск, куды былі накіраваны на вучобу кіраўніцтвам толькі што пабудаванага завода СМС. Непасрэдны ўдзел у будаўніцтве завода прымаў дзед Яўген, які пасля атрымаў пасаду інжынера завода па тэхніцы бяспекі. Гэта ён угаварыў маму пакінуць бальніцу, не ўсё ж жыццё яна збіралася хадзіць за хворымі, выносіць за імі судны і мыць падлогу. На заводзе ў яе бліскучыя перспектывы, кар’ерны рост, важная, патрэбная краіне справа, да таго ж яна будзе ўвесь час пры ім, а заадно і Люся. Ну і заробак большы ўдвая за той, што мама мела ў бальніцы, у якой, між іншым, ніякага кар’ернага росту ёй не свяціла. Мама вагалася, не хацелася сыходзіць з бальніцы, але яна разумела правату дзедавых слоў і, урэшце рэшт, згадзілася на яго прапанову.

У Хабараўску з Люсяй яны прабылі тры месяцы, жылі ў інтэрнаце, дзялілі адзін пакой на дваіх. Люся хутка зразумела, што не мела ніякага сэнсу больш хаваць сваю прыроду ад мамы, тым больш тая ўсё адно пра гэтую прыроду ведала. Лепш было зрабіць яе саюзніцай. Неўзабаве, пасля лекцыі (першай і апошняй, вучоба праходзіла непасрэдна на вытворчасці, дзе Люся вучылася варыць парашок, а мама ўпакоўваць яго ў бандэролі па дзесяць пачак) па відах і бяспецы сыравіны, з якой выраблялiся парашковыя мыючыя сродкі, Люся запрасіла ў госці дваіх маладых людзей аднекуль з Закарпацця, якія так-

сама праходзілі ў Хабараўску навучанне, але на іншым прадпрыемстве. Сустрэла яна іх у сталоўцы, дзе і пазнаёмілася.

Адзін з іх запаў на маму адразу, як толькі пабачыў. Люся заўважыла, што і маме ён прыглянуўся. Справа зроблена: тая не адважыцца ўпікнуць яе, бо будзе занятая сваім шчасцем, хай і ўяўным.

І мама трывала Люсіны прыгоды і прыводы мужчын. На ноч яна іх не пакідала, зразумела, сыходзіла з імі, ды яшчэ па-змоўніцку падміргвала маме, маўляў, не губляйся, калі твой прыйдзе.

А той прыходзіў штодня, дакладней, штовечар, прыносіў шакаладкі, якія мама любіла неверагодна, і кружэлкі з запісамі заходніх выканаўцаў, пад якія яны пілі гарбату і ціхутка танчылі, павольна кружачыся на месцы і тулячыся адно да аднаго. Пры гэтым, каб моцна не рыпела падлога і не нервавала ў першую чаргу іх саміх і суседзяў знізу, а рыпела яна ад кожнага кроку, надзявалі на ногі вязаныя цёплыя шкарпэткі і прыўставалі на дыбачкі.

Ён паходзіў на нашчадка арыстакратычнага роду з гэтымі сваімі белагвардзейскімі вусікамі і афіцэрскай выпраўкай, галантнымі манерамі, пра якія мама чытала толькі ў перакладных англійскіх ды французскіх раманах XIX стагоддзя, і самотнымі няшчаснымі вачыма, якія ўсміхаліся адно ў ейнай прысутнасці. Цалкам магчыма, што ён сапраўды належаў да дваранскага роду і з’яўляўся ці не апошнім яго прадстаўніком. Дакладна мама не ведала, дый не пыталася. Яна назапашвала сваю памяць ім, яго прысутнасцю, сустрэчамі, словамі, прамоўленымі для яе і з-за яе, стараючыся нічога не згубіць і не забыць, як гузікі, што маглі закаціцца пад ложак ці схавацца ў шчылінах паміж сценкай і плінтусам, бо адчувала і нават не сумнявалася ў хуткаплыннасці іх стасункаў і немагчымасці быць разам пасля. Якая да д’ябла розніца, кім ён быў па жыцці, кім былі яго бацькі і бацькі бацькоў!.. Галоўнае, ён здаваўся маме сапраўдным чалавекам, які аднойчы прынёс ёй цэлы торт з марожанага. Між іншым яна яго з’ела адна. Люсі нават і кавалачка не пакінула, каб тая хоць пакаштавала, і ўвогуле нічога не сказала пра торт. А потым, зразумела, захварэла на

ангіну. Яе неверагодна чуллівыя міндаліны да любога дотыку холаду здаліся яму без бою. «Белагвардзеец» кожны дзень наведваў маму ў бальніцы, куды яе неадкладна перавезлі з інтэрната. Люся, дарэчы, выклікала «хуткую». Яна знайшла каробку ад торта, але не пакрыўдзілася на маму за тое, што не пачаставала яе ласункам, а пашкадавала, як малое дзіця, бо толькі дзіця і здатна на падобнае.

Адносіны з «белагвардзейцам» скончыліся, як мама і прадчувала, праз некалькі дзён пасля яе выпіскі з бальніцы. Надышоў час яму вяртацца дамоў. З сабой яе не клікаў, ды яна і не спадзявалася на гэта. Што ж, памяць пра яго застанецца назаўсёды.

Мама з Люсяй праводзілі «сваіх» мужчын на цягнік, а пасля ў інтэрнаце напіліся вермута, праклінаючы жаночую долю і ўсіх мужыкоў свету. Чаму яны такія сволачы? Прыручаць да сябе, прыкуюць нябачнымі кайданамі, а потым пакідаюць, нібыта непатрэбную болей у гаспадарцы рэч. Хіба жанчыны рэчы? Не. Жанчыны — паветраныя стварэнні з вельмі праніклівым і багатым унутраным светам. Яны як сняжынкі, якіх трэба кахаць і берагчы, іначай загінуць, калі не фізічна, то маральна. Дык не, даводзіцца быць моцнымі, загартоўваць характар, быццам сталь, бо кожны мужчына, няхай і не хочучы, з усіх сіл намагаецца табе зрабіць балюча, забывае, што ты ж таксама чалавек.

Люсю вельмі ўразіла, што мама гэтак засмуцілася. Сама яна не перажывала асабліва, можа, толькі дзеля выгляду і тое напачатку. Яна пырхала, нібы страказа, ад аднаго мужчыны да другога і не бачыла ніякай бяды ў развітаннях. Адзін кінуў, іншы падніме. Гэта жыццё. Аднак Люсіна філасофія маме не падыходзіла. Пакуль што яна заставалася ідэалісткай, таму цяжка пераносіла любыя разрывы.

Ніколі мама не расказвала нічога дрэннага брату пра яго жонку, аднак і не хваліла. Занадта шмат яе звязвала з Люсяй (гэта не ўлічваючы таго факту, што яны праседзелі разам за адной партай усю школу), каб тую здаваць, дый брата было шкада. Шчасце, што ні кажы, у няведанні. Знойдуцца іншыя да-

брадзеі, хто нашэпча яму ў вушы пра Люсіны паводзіны, і знаходзіліся, ледзь не ў чаргу станавіліся, каб распавесці праўду пра распусніцу, падкаравульвалі каля пад’езда, дасылалі ананімкі, тэлефанавалі ўдзень і ўначы, забываючы пра тое, што брат і без іх удзелу ўсё цудоўна ведаў пра сваю жонку. У некаторай ступені мама зайздросціла ёй, яе лёгкасці, вясёлай натуры. Мама нават паспрабавала быць Люсяй у Хабараўску пасля ад’езду «белагвардзейца», і ёй спадабалася спярша. Аднак яе спустошвалі, забівалі стасункі без адчуванняў і не прыносілі нічога добрага. Адносіны, першапачаткова пабудаваныя на спажывецкіх інтарэсах, выклікалі агіду, пасля іх карцела зачыніцца ў душавой і гадзінамі адмывацца, як ад бруду. Мама не разумела, як падобнае магло кагосьці задавальняць, але бачыла адваротнае наяве, яно развівалася хуткімі тэмпамі, эвалюцыянавала проста на вачах. Магчыма, яна здавалася самой сабе кансерватаркай, несучаснай, сіняй панчохай у параўнанні з Люсяй, але ведала, што ніколі такой, як аднакласніца, не будзе. Яна не асуджала Люсю і астатніх, падобных ёй, проста не прымала такіх да душы. А калі вярнулася ў Шахцінск — пазбягала сустрэч. Не наўмысна, ды так выглядала. Зрэшты, Люся таксама не назаляла ёй вочы. Абедзве пагрузіліся з галавой у працу на новым заводзе.

Транспартны цэх, у якім апынулася мама, каб працягваць справу, якой яе навучылі ў Хабараўску, — упакоўваць парашок у каробкі, якія спачатку трэба было выразаць на картанажным стале, а пасля па дзесяць пачак складваць у спецыяльную бандэроль, шумеў і гудзеў, быццам пчаліны рой. Яна прыходзіла на работу з задавальненнем, з адчуваннем таго, што робіць нешта важнае і патрэбнае. Хутчэй за ўсё так думаў кожны працаўнік завода, бо прадукцыя (мыючыя парашкі, мыла рознага гатунку, шампуні), вырабляемая заводам, патрабавалася ўсяму Савецкаму Саюзу і нават імпартавалася за мяжу. Іначай, аднак, аднесліся да мамінага ўздыму яе міндаліны, якія яшчэ ў Хабараўску спалохаліся парашковага пылу. Тут жа гулялі па цэхах і скразнякі. Мама пачала кашляць, задыхацца, часта стамляцца. Парашковы пыл разя’даў міндаліны, павялічваў іх і рабіў рыхлымі, як крывавы зефір. Аднойчы яна звалілася

з ног на транспарцёрную стужку, страціўшы прытомнасць ад раптоўна павышанай тэмпературы цела, як усе думалі спачатку. На самай справе міндаліны ў маміным горле раздуліся да такой ступені, што ледзь не задушылі яе, чым выклікалі і тэмпературу, сутыкнуўшыся адна з адной, нібы Захад з Усходам. Выклікалі «хуткую». У бальніцы маму неадкладна прааперыравалі: выразалі міндаліны.

І зрабілася хараша, лепей дыхалася і ўсміхалася.

Пасля аперацыі мама хутка ўстала на ногі, ёй захацелася ў прыбіральню, якая знаходзілася ў канцы калідора. Ды не так проста даліся крокі нават да дзвярэй палаты, каб з іх выйсці. Нагам было мулка, галава закружылася, падлога, сцены і столь плылі перад вачыма, быццам яна знаходзілася на караблі. Усё ж мама выйшла ў калідор, рухалася па сценцы, але не зусім разумела, куды кіравала. А потым пачала захлынацца крывёю, што густой масай, падобнай на чырвоных рапух, вывальвалася з яе рота. Каўтаючы, заціскаючы рот пальцамі з раптам пачарнелымі, быццам у мерцвяка, пазногцямі, мама спаўзла ўніз па сценцы, села на падлогу, ногі выпрасталіся, з адчаем і надзеяй паглядзела ў бок медсястры, што спала за дзяжурным сталом, паклаўшы галаву на разгорнуты часопіс «*Огонек*», і правалілася ў чарнату, павісла ў ёй, як муха ў павуціне.

Была ноч, а мама ў ёй — бязважкім паветрам.

Невядома, колькі б праляжала мама, сцякаючы крывёю ў начным і сонным бальнічным калідоры, калі б на паверх рэанімацыі не зайшоў дзяжурны ўрач. Можна толькі здагадвацца, чаго ён туды завітаў, аднак дзякуючы яму ўдалося спыніць крывацёк і вярнуць маму ў палату, ды з комы, якая маму паглынула, нават засмактала, быццам твань, ужо не здолеў. Медсястра, зусім маладзенькая, перажывала і вінавяціла сябе, бледная і белая, як халат на ёй. Калі б не заснула, нічога б страшнага не адбылося. Яе супакойвалі: тое, што здарылася, спісвалі на чалавечы фактар.

А мама з комы не выходзіла.

Урачы разводзілі рукамі, яны не разумелі прычыны, бо аперацыя па выдаленні гландаў прайшла ўдала. Што магло справакаваць рэцыдыў? Дзед Яўген настояў, каб маму перавезлі ў Карагандзінскую бальніцу. Падчас перавозкі ў мамы спынілася сэрца.

Яна адчувала сябе касманаўтам, які лунаў у невясомасці, з тым адрозненнем, што была без скафандра, у адной белай камбінацыі. Ні холаду, ні цяпла не адрознівала, craналася зорак, вострых, быццам лёзы, пры гэтым рэзала аб іх пальцы, якія тут жа загойваліся. Спачатку гэта выклікала цікавасць, але хутка надакучыла. Зоркі маму закалыхвалі і здаваліся ёй нябеснымі русалкамі, бо ў кожным спеве прасілі застацца з імі і быць іх каралевай. Мама вельмі хацела застацца, тым больш што спакой, які абдымаў яе за плечы, быццам доўгачаканы каханы, імпанаваў як ніхто і ніколі раней. Трэба было толькі пазбавіцца ад зубоў: яны адны з’яўляліся перашкодай на шляху да трона каралевы спакою. Мама пачала вымаць зубы адзін за адным, і яны нанізваліся на нябачную стужку, ператвараліся ў нейкія вычварныя бусы (менавіта ў гэты час і спынілася яе сэрца). Пасля, быццам ачомаўшыся ад наслання, мама падумала: што яна робіць? І давай збіраць зубы, адзін за адным. З вяртаннем апошняга зуба ў ротавую поласць, аднавілася і жыццё. Сэрца марудна, буксуючы, але запрацавала. Пакрытыя потам, нібы пылам, твары ўрача і медсясцёр, што суправаджалі маму ў машыне, стомлена ўсміхнуліся: перамаглі смерць. Як сапраўдная смерць выглядала сама мама.

Карагандзінскія ўрачы выявілі ў яе двухбаковае запаленне лёгкіх, якое і выклікала кому. Яно ўзнікла нечаканым і непрадугледжаным ускладненнем пасля аперацыі, ніякім чынам, дарэчы, не праявіўшы сябе, каб яго своечасова маглі заўважыць.

Маму памясцілі ў асобную палату пад штучнае жыццезабеспячэнне і, шчыра кажучы, рыхтаваліся да горшага. Толькі заслугі яе геройскага бацькі перад Айчынай не дазвалялі медыкам зрабіць непапраўнае. Яго вера ў дачку, у тое, што яна ачуняе і акрыяе, не падвяла. Зразумела, дзеля гэтага трэба было набрацца цярпення.

Мама расплюшчыла вочы праз два месяцы і чатыры дні пасля таго, як яе перавезлі з Шахцінска ў Караганду. Вены на руках былі сколаты спрэс, таму іголкі сістэмы тырчалі ўжо з ног. Выглядала яна не лепш за вязня Бухенвальда. Размаўляць адразу не магла, каўтала ротам, быццам рыба, што трапіла на бераг. Сінь з-пад вачэй, вуснаў і пазногцяў доўга не сыходзіла.

Дзед Яўген радаваўся, быццам хлопчык, і плакаў ад радасці, калі ўбачыў, што дачка папраўляецца, яго маленькая доня, яго Волечка-Воля, якую ён любіў больш за ўсіх сваіх дзяцей, хоць і прыхоўваў гэта.

На завод, калі ачуняла, мама не вярнулася, але спачатку параілася на гэты конт з дзедам Яўгенам, які падтрымаў дачку ў яе рашэнні. Яна зноў падалася ў санітаркі і рыхтавалася да паўторнага паступлення ў медінстытут. На жаль, і ў другі раз ёй не пашанцавала. Засыпалася на сачыненні. Мама нават не здзівілася такому дэжавю. Нягледзячы на атрыманыя выдатныя адзнакі па іншых дысцыплінах. Так бывае. Я ведаў дзяўчыну, якая тройчы паступала ў тэатральную акадэмію, і так і не паступіла менавіта з-за сачынення. Яна магла дасягнуць нечуваных вышынь у акцёрскай прафесіі, бо для гэтага мела ўсе падставы. Ніхто не сумняваўся з абітурыентаў, што дзяўчына, лічы, залічана ў студэнты, бо ўсе папярэднія іспыты здала выдатна, прычым самыя важныя іспыты для акцёраў, па будучай спецыяльнасці. І што з таго, што яна не вельмі арыентавалася ў знаках прыпынку на паперы, вагалася, дзе трэба ставіць коску, а дзе не трэба! Яна — актрыса, а не рэдактар! Акцёрам увогуле неабавязкова правільна пісаць ці без памылак. У іх іншая задача. Мяркую, што прыёмная камісія павінна ісці на кампрамісы ў падобных выпадках і залічваць у студэнты па прафесійных здольнасцях, а не па пабочных дысцыплінах, якія нават ніколі не спатрэбяцца ў жыцці. Колькі самародкаў так і засталіся незапатрабаванымі з-за таго, што не здолелі напісаць сачыненне на здавальняючую адзнаку. Але здавальняючую каго? Няздатнага на большае выкладчыка, які нічога не ўмее, акрамя таго, што выкладае, аднак веды яго абмяжоўваюцца адно тэорыяй, з практыкай ён ніколі не сутыкаўся. Як усім вя-

дома, вялікімі акцёрамі, хірургамі, пісьменнікамі, музыкантамі і ўвогуле майстрамі сваёй справы становяцца не выдатнікі, тыя больш па адміністрацыйным ведамствам пасля распаўзаюцца, а пацалаваныя Богам, і з ім трэба лічыцца, бо інакш позна будзе спадзявацца на кампраміс.

Карацей, мама здалася і больш не рабіла спроб вывучыцца на ўрача. Яна і ў санітарках няблага пачувалася. Галоўнае ж, прыносіць людзям дабро, а дабру няважна, якое месца ты займаеш у жыцці, яму нават нецікава гэта, бо не месцам красен чалавек, а душою сваёю.

І пацяклі зноў прывычныя, быццам сталоўскі кісель, стабільныя будні ў бальніцы з мыццём падлогі шторанку ў палатах, вынасам суднаў з-пад ляжачых хворых, перавязкамі, вымярэннем тэмпературы, уколамі і раздачай лекаў, а таксама цяплом і клопатам пра тых, каму гэта патрабавалася. На цяпло і клопат мама заўсёды была шчодрая.

Неўзабаве да яе пачаў заляцацца прыезджы стрыечны брат аднакласніка Міці, які працаваў у міліцыі і жыў у суседнім пад'ездзе. Ён назваўся Аскольдам, але на выгляд не цягнуў да названага імені, не верыла мама ніводнаму яго слову. Гаварыць жа Аскольд мог безупынку і пачуццём гумару падкупліваць. Здавалася, ён рассмяшыў бы і камяні. Мама, зразумела, смяялася з яго жартаў, кранала яго за руку і за локаць, быццам падбадзёрваючы ці дзякуючы за падняцце настрою, не болей. Аскольд, мабыць, іначай успрымаў кожны мамін дотык і аднойчы моцна напалохаў яе. Абураная і разгневаная, яна ўляпіла Аскольду дзве аплявухі запар і прашыпела, каб ён больш нават не думаў набліжацца да яе ні ў бліжэйшым будучым, ні ў самым далёкім. Той толькі пасміхнуўся, скрывіўшы твар, бы з'еў лімону. Ён не паверыў, што мама казала ўсур'ёз.

Прыкладна ў той жа час яна заўважыла, што ёю цікавіцца бацька, якому і давялося разбірацца з Аскольдам падчас першага спаткання з мамай.

Яны толькі-толькі скончылі абмяркоўваць кнігі і высветлілі, што бацька не супраць, каб мама іх чытала, звярнулі ў арку суседняга дома, каб праз яе выйсці ў горад да галоўнай вуліцы,

Ленінскай, і накіравацца куды вочы глядзяць, бо ў кіно ісці расхацелася, як іх перастрэлі некалькі чалавек, сярод якіх мама пазнала Аскольда і тут жа зразумела, што сустрэча з ім нічым добрым не скончыцца ні для яе, ні для бацькі. Да таго ж месца было бязлюднае і цёмнае. Мама ўчапілася за бацькаву руку і сціснула яго далонь пальцамі. Бацька зразумеў, што мама ведала тых, хто заступіў ім дарогу, і што яна спалохалася. Але яна не ведала, на што здатны ён.

— Добры вечар, — на дзіва ветліва прывітаўся Аскольд.

Мама кіўнула, бацька прамаўчаў.

Двое паплечнікаў Аскольда пасталі па баках аркі.

— Прабачце, што перашкодзілі, — працягваў Аскольд, — мы не хацелі. Ва ўсякім разе напалохаць не хацелі. Мы нават не ведалі, што сутыкнемся тут з вамі.

— Што табе трэба? — не вытрымала мама напружання, з-за якога і адскочылі спружынай ейныя словы.

— Па-першае, супакойся, — пасміхнуўся Аскольд, ці маме гэта падалося. — Па-другое, хацелася б пачуць разгорнутае тлумачэнне маёй адстаўцы, а не так, як у мінулы раз. Паўтору аплявух я не дарую. Прычыну, зразумела, я бачу, хачу, каб ты сказала: чаму.

— У нас і не было нічога! — усклікнула раптам мама, звяртаючыся хутчэй да бацькі і не адпускаючы яго рукі. — Мы нават не цалаваліся ніколі!

— Гэта таму, што я лічыў цябе святой! — прарычаў Аскольд.

— Такой святой, што і палез у святая святых! — упікнула яго мама.

— Я думаў, у нас усё на мазі…

— Ты нейкі, відаць, хворы, — перапыніў Аскольда бацька, які да гэтага маўчаў, але ацэньваў свае шансы. Ён не сумняваўся, што давядзецца біцца, і чакаў зручнага выпадку ўдарыць першым, бо ахвярай рабіцца не хацеў сам і не мог дазволіць рабіць ахвяру з мамы.

— Слухай, — раздражнёна вымавіў Аскольд да бацькі, — цябе наша размова не тычыцца, таму стой ціхенька, пакуль цябе не чапаюць.

— Мяне тычыцца ўсё, што закранае маю дзяўчыну, — не змоўчаў бацька.

— Яна не твая дзяўчына! — выкрыкнуў у шаленстве Аскольд, і ад яго крыку ў мамы выступілі на вачах слёзы, а бацька сутаргава сціснуў вольную далонь у кулак. — У цябе вагон здароўя? — спакайнейшым тонам пацікавіўся ў бацькі.

— Састаў, — паправіў яго той і хутка, аднак далікатна пасунуў маму сабе за спіну, нібы шахматную каралеву, ператвараючыся ў ферзя.

Бацька вокамгненна выпрастаў кулак наперад змяёю, пацэліў у Аскольдаў гарляк і аддзёрнуў руку назад.

Аскольд аберуч схапіўся за шыю, захрыпеў, быццам яго душылі, захістаўся на месцы, як павешаны.

Адпіхнуўшы ад сябе маму, каб яна не патрапіла пад удары, бацька прапусціў некалькі пінкоў нагамі па корпусе з абодвух бакоў ад паплечнікаў Аскольда. Аднаго ён злавіў за нагу, атрымаў пры гэтым ад другога па вуху, і абясшкодзіў ударам ніжэй за пахвіну, пасля чаго біў сам збіты з ног ударам у галаву. У вачах адразу пагоршылася рэзкасць, зрабілася млосна, у вушах зашумела, але бацька здолеў згрупіравацца, падсекчы праціўніка і аглушыць яго, быццам рыбу, рубам далоні па шыі.

Аскольд жа ўцёк, убачыўшы, як бацька расправіўся з яго сябрукамі, толькі пяткі замільгацелі.

Бацька часта дыхаў, вочы яго чырванелі шаленствам ад бойкі, калі мама кранулася яго пляча.

— Цішэй, цішэй, — прашаптала яна, супакойваючы бацьку, загойваючы яго шал, быццам рану, шэптам.

Яны выйшлі з аркі на святло, скіравалі да бліжэйшай лаўкі, на якую бацька рухнуў кулём, не змахнуўшы з яе снег.

У яго цякла кроў з рассечанай скроні і разадранага вуха, таксама крывянілі касцяшкі.

Яму была патрэбна медыцынская дапамога, і мама прапанавала раптам пайсці да яе дамоў проста таму, што бліжэй, апрацаваць раны, аднак бацька заўпарціўся. Не такім павінны запомніць яго маміны бацькі. Дый не здарылася нічога страшнага: ад драпін не паміраюць.

Мама адчула, што застанецца ў бацькі на ноч яшчэ ў арцы, сочачы, затаіўшы дыханне, за кожным яго рухам. Яна захапілася ім, быццам персанажам рамана, і пакахала менавіта тады, калі ён так адважна і рашуча пачаў абараняць яе. Гэтак жа бясстрашна абаранялі сваіх выбранніц героі лепшых кніг пра каханне. Мама зайздросціла самой сабе. Ніхто і ніколі з-за яе не біўся раней, хоць употай яна марыла пра нешта такое. Цяпер і ёй будзе чым і кім пахваліцца перад Люсяй, дзеля ўвагі якой хлопцы разбівалі твары адзін аднаму са школьных часоў.

Мама ведала, што бацька адмовіцца ад любой прапанаванай яму дапамогі, але павінна была запрасіць да сябе, каб пачуць адказ і застацца з ім сам-насам. Яна прадчувала інтымны момант з ім і праспешвала час, ды бацька ўпарта не прыкмячаў ліхаманкавага бляску ў яе вачах і не адчуваў дрыжыкаў па ўсім яе целе, калі яна датыкалася да яго.

Так, у кіно яны не пайшлі, настрой быў сапсаваны. Аднак і дамоў бацька не спяшаўся, гэтак жа, як і марудзіў праводзіць маму да пад’езда ейнага дома, куды тая ўвогуле не хацела вяртацца. Яна не разумела нават, як цяпер пражыве без бацькі хоць адну хвіліну.

Выціраючы насоўкай кроў і прыкладаючы снег да бацькавых ран, мама хукала на іх, нібыта тыя маглі тут жа загаіцца ад яе подыху. Бацьку было адразу і прыемна і непрыемна. Пасля яна неяк нялоўка і, мабыць, выпадкова, паслізнулася і плюхнулася бацьку на калені. Іх позіркі сутрэліся, застылі ў маўклівым непаразуменні, а затым мама пачала цалаваць бацькаў твар з неўтаймаванай жарсцю, пакідаючы на ім нябачныя пялёсткі, як ад ружаў, сваіх пацалункаў. Бацька не супраціўляўся абстрэлу маміных вуснаў.

Калі яе шал выдахся, мама ўскочыла на ногі, засаромелася, адбегла на колькі крокаў ад бацькі і павярнулася да яго спінай, кусаючы вусны, быццам у нечым вінаватая, за што неадкладна давядзецца адказваць з хвіліны на хвіліну.

Бацька падышоў да яе ззаду, абняў за плечы, павярнуў да сябе і пацалаваў у вочы і ў нос.

— Хадзем? — узяў за руку.

— Хадзем, — згадзілася мама, бо была гатовая ісці з ім куды заўгодна, хоць у пекла.

Яны проста ішлі па горадзе, трымаючыся за рукі, шчаслівыя, што разам, што знайшлі адно аднаго, што наперадзе ў іх яшчэ столькі цікавага, бо ні ён, ні яна не сумняваліся ў агульным будучым. Горад таксама радаваўся за іх і ўсміхаўся ім кожным ліхтаром, кожнай зоркай у небе, падміргваў святлафорамі і неонавымі літарамі на карнізах крам і ўнівермагаў, жадаючы толькі самага найлепшага.

Пра што размаўлялі па дарозе, ніхто пасля не памятаў, але размаўлялі, не супыняючыся, перабіваючы адно аднаго, жартуючы і смеючыся ўвесь час. Кожнага сустрэчнага віталі ён нахілам галавы, яна рэверансам, пакуль не апынуліся на адзіноце ў бацькавым інтэрнатаўскім пакоі. Бацька ўключыў тэлевізар, пашчоўкаў пераключальнікам. Цэнтральны канал транслíраваў «Беларускі вакзал». Вось і кіно.

Яны селі на бацькаў ложак з правіслай сеткай, нібы ў яму. Засмяяліся. Тады пераселі на суседаў ложак, на якім пад сеткай ляжала дошка. Мамін швэдар з ружовага пуху быццам наўмысна спаўзаў з яе пляча, агаляючы бялюткасць скуры. Бацька вар'яцеў ад гэтага відовішча, але замест таго, каб паланіць яе, пытаўся на колькі позна ёй можна затрымлівацца перад тым, як прыйсці дамоў.

— Слухай, — прытворна-абурана заявіла яна, — я ўжо дарослая дзяўчынка, калі ты не разгледзеў! — Падышла да выключальніка і працягнула: — Мне незразумела, чаму ты намагаешся мяне выправадзіць адгэтуль, але мушу цябе расчараваць: я застануся.

Мама націснула на выключальнік, святло пагасла. У тэлевізары героі Лявонава, Сафонава, Папанава, Глазырына і Ургант успаміналі Дзясяты свой дэсантны батальён.

Бацька сустракаў маму з работы, чакаў каля бальнічнай брамы, пакурваў. Яна ляцела да яго ланню, спусціўшыся з прыступак, не хавала радасці і шчаслівых вачэй ад каляжанак, з якімі нярэдка ў такія моманты забывалася развітацца. Ён заўсёды стаяў спінай да бальніцы, дэманстратыўна падкрэс-

ліваў асабістую незалежнасць ад яе і абяцанне (якое пранясе праз усё жыццё, верны свайму слову) таго, што ніколі не стане ейным пацыентам. Мама падбягала ззаду, кранала бацьку за руку, той паспешліва выкідаў недакурак, і яны абдымаліся. На той час ёй падабаўся пах цыгарэт, якім патыхала ад бацькі, да таго ж гэта было нешта новае і, галоўнае, забароненае ў яе сям'і. Ні дзед Яўген, ні маміны браты не курылі і ўсе разам адмоўна ставіліся да тытуню і курыльшчыкаў.

Узяўшыся за рукі, як пры першым спатканні, яны ішлі па горадзе, калі-нікалі заходзілі ў кавярню, сграваліся гарачай какавай, частаваліся і ласаваліся піражнымі «картошкай» і «трубачкай» з крэмам, якія мама вельмі любіла, ці заглядалі ў кіно.

Нярэдка бацька і на работу маму праводзіў, не адно сустракаў, што мама асабліва цаніла. Ёй падабалася ісці з ім поруч рука ў руцэ, як бы выстаўляючы напаказ свае адносіны з ім перад людзьмі, хвалячыся тым, што яна не адна, што ў яе ёсць мужчына і не абы-які. Бацька быў малады, прыгожы, смелы, моцны, неадукаваны, канечне, але яму і не патрэбна была тая адукацыя, яна б яму не пасавала, нават сапсавала б. Мамінай адукацыі, той, што атрымала ў школе, і назапашвала сама доўгімі вечарамі з кнігамі ў руках, хопіць на іх абодвух з галавой. Ён быў сапраўдным савецкім мужчынам, без інтэлігенцкіх смаркачоў і лішніх думак, яна — сапраўднай жанчынай, маладой, прыгожай, па-жаночы разумнай і зухаватай.

Пацалункі каля бальнічнай брамы перад працоўным днём здаваліся маме найсалодкімі і найчаканымі. Яна нібыта зараджалася ад іх, як ад батарэек, энергіяй і жыццярадаснасцю, якімі шчодра дзялілася з хворымі. Бацька таксама на ўздыме пасля ранішніх пацалункаў працаваў і нават гундосіў пад нос улюбленыя словы з песні Высоцкага пра гімнастыку.

Аскольд намагаўся перашкодзіць закаханым і паўплываць на маму праз свайго брата-міліцыянера, прыдумляючы розныя дзікія абвінавачванні супраць бацькі, якога, між іншым, мамінаму аднакласніку давялося арыштаваць, бо ён павінен быў неяк рэагаваць на «сігналы» пільных жыхароў горада. Зразумела, хутка высветлілася, што бацька ні ў чым не вінаваты, а Аскольда накіравалі ў псіхдыспансер крыху падлячыцца, каб

больш «не блытаў берагі» дазволенага і не шукаў ворагаў народа там, дзе іх быць не магло, да таго ж 1937 год даўно мінуў.

Недзе праз тры месяцы сустрэч, праводзінаў, прагулянак, размоў, абдымкаў і пацалункаў, калі паўсюль фіялеціў бэз і шчыпаў ноздры водарам красавік, а горад квітнеў усмешкамі дзяўчат і жанчын, быццам ружамі ў садах, бацька, нечакана для самога сябе, відаць, вясна паўздзейнічала, вазьмі дый ляпні, звяртаючыся да мамы:

— Ці пайшла б ты за мяне?

Яны набліжаліся да бальніцы, у якой мама працавала. Яна пра нешта смешнае яму распавядала, смяялася сама, таму не адразу зразумела сэнс пачутых слоў.

Мама замаўчала, з твару яе спаўзла ўсмешка. Бацька спалохаўся, бо яна зрабілася белаю, нібы малако, і падумаў, што пакрыўдзіў дзяўчыну недарэчнай прапановай.

Мама чакала гэтага кроку з першых хвілін знаёмства. Яна ўяўляла, як і што адкажа яму, малявала ў галаве прыгожыя, кшталту кніжных, ілюстрацыі прапановы рукі і сэрца, а дачакаўшыся, разгубілася, бо адбылося гэта так будзённа і нерамантычна, і ледзь не расплакалася. Ён жа не вінаваты, што зусім не рамантык і да мастацтва ўвогуле ставіцца як да непатрэбнай у жыцці раскошы. Сама ж захацела мужчыну з простых, без фантазій, звычайнага рабацягу, — вось і атрымала.

— Эй, ты што! — тузаў яе бацька, намагаючыся прывесці ў належны стан. — Не хочаш — нічога страшнага. Я пачакаю. Ты толькі не перажывай…

— Ды хачу я! — раптам, нібы ачомаўшыся ад здранцвення, усклікнула мама. — Хачу! — чамусьці закалаціла кулачкамі па бацькавай грудзіне. — Хачу, — прашаптала, прыпыніла біць яго і прыклала галаву да ягонага сэрца, якое, здавалася, вось-вось выбухне атамнай бомбай ад шчасця, так яго калашмаціла ўнутры.

— Праўда? — не даваў верыў ён.

— Ды праўда! — узняла вочы на яго мама.

— Дык гэта… тады… — не ведаў, што і як казаць далей бацька, блытаўся, быццам школьнік каля дошкі, — мабыць… трэба ж… ну там… зразумела, што… ці не? Га?

Ён не глядзеў на маму, а шукаў падказкі ад неба, у якое ўтаропіўся. А што неба магло яму сказаць і чым дапамагчы? Гарэзнічаючы, яно ледзь не накаўтавала яго сонечным промнем у вока.

— Ты пра ЗАГС? — здагадалася мама, чаго хацеў бацька ды не мог сфармуліраваць з-за апанаваўшых эмоцый.

— Во-во! — адразу ж згодна заківаў бацька галавой.

— Ты добра падумаў? — рэзала па жывым мама.

Бацька моўчкі пацвердзіў кіўком.

— Гэта назаўжды, памятаеш? — працягвала яна правакаваць. — Жыць давядзецца разам, уяўляеш? Спаць заўсёды разам…

— Спаць — гэта добра, — азваўся бацька, — асабліва разам, — хутка дадаў.

— Дык ты толькі каб спаць разам! — здзекавалася з бацькі мама, помсцячы, мабыць, за адсутнасць рамантыкі.

— Не! — тут жа горача запярэчыў той. — Ты што!

— Значыць, не хочаш са мной спаць? — мама адчувала, што яе заносіць некуды не туды, але спыніцца не магла, нягледзячы на тое, што бацька мог развярнуцца і сысці, а можа, і разлічвала на гэта, правярала.

— Хачу! — цяпер бацька збляднеў, як прасціна. — Хачу! — паўтарыў ён. — Ды не толькі спаць разам, як ты не разумееш! Усё хачу рабіць з табой разам! Хачу, каб ты заўсёды была побач са мной, а я побач з табой.

— Пашпарт з сабой? — запытала мама, строга, як яе настаўніца па матэматыцы, насупіўшы бровы.

— Навошта? — не зразумеў бацька.

— Пашпарт, кажу, з сабой? — паўтарыла мама з чэкісцкімі ноткамі ў голасе.

— А твой? — у яе ж манеры спытаў бацька.

— Мой заўсёды са мной, — адказала мама. — Твой дзе?

— У надзейным месцы, — не прызнаўся бацька.

— Ты проста Марат Казей, — незалюбіла мама і патлумачыла: — У ЗАГС трэба з пашпартам ісці. Ці ты перадумаў ужо?

— А, ты ў гэтым сэнсе, — павесялеў бацька. — І калі пойдзем?

— Сёння, — без затрымкі прамовіла мама.

— Сёння? — на секунду бацька задумаўся, але вырашыў, што, чым хутчэй яны пажэняцца, тым лепш, да таго ж у яго выхадны, спакойна вернецца ў інтэрнат за пашпартам, а падчас абедзеннага перапынку яны пададуць заяву на шлюб.

— Сёння! — яшчэ раз паўтарыла мама з выклікам.

— Прымаецца! — выгукнуў бацька.

— Ты лепшы, — пацалавала яго мама і пабегла працаваць.

Бацька закурыў, шумна выдыхаючы дым.

А пасля мама не ведала, як паведаміць бацькам пра вяселле, якое павінна неўзабаве адбыцца. Да таго ж трэба было неяк пазнаёміць іх і з жаніхом. Страх перад гераічным будучым цесцем адчуваў і бацька, здагадваўся, што выбар дачкі той наўрад ці ўхваліць, таму адкладваў знаёмства з ім да апошняга, магчыма, што і дарэмна. Нічога кепскага пра яго мама бацьку не расказвала, гэтак жа, як пра братоў і сястру, рыхтавала, як магла. Бацька сам сабе навыдумляў, што не спадабаецца мамінай сям'і, сам сябе накруціў, аб чым і заявіў неяк маме.

— Ды з чаго ты вырашыў, — спачатку засумнявалася яна ў яго высновах, — што цябе абавязкова мае зацкуюць і загоняць у кут, быццам ваўка-адзіночку? Усё ж яны людзі, а не звяры якія.

— Вось іменна, людзі, — злавіў яе на слове бацька. — Хто я? А хто ты? Задумвалася? Хто твой бацька?

І мама завагалася, хоць і не хацела верыць у магчымасць бацькавай праваты. Аднак цягнуць далей не было куды. Дата вяселля няўхільна набліжалася. Яе сям'я павінна ведаць пра гэта, павінна пазнаёміцца з бацькам і прыняць яго, бо жыць з ім мусіла яна, а не яны, што б далей ні адбылося і што б ні казалі пра іх увогуле. Мама хацела прыгожага вяселля, з белай сукенкай і вэлюмам, з багатым сталом і гасцямі, а не звычайны роспіс і бытавую вячэру пры свечках на дваіх у бацькавым інтэрнатаўскім пакоі. Цалкам зразумелае жаданне кожнай дзяўчыны, якая сабралася замуж.

І за два тыдні да вяселля, калі бацька ў чарговы раз праводзіў маму дамоў цёплым летнім вечарам, сказала, што хопіць

бегаць ад адказнасці і хавацца ад саміх сябе. Не з'ядуць жа яго, у рэшце рэшт, яе родныя! Бацька вымушаны быў пагадзіцца. Ён і сам адчуваў недарэчнасць свайго страху, улічваючы той факт, што ніколі і нічога не баяўся, заўсёды быў гатовы даць у лыч любому крыўдзіцелю. Аднак тут іншая сітуацыя. Яго палохаў гераічны мамін бацька, якога ведаў увесь горад, але не як чалавек, а як сімвал эпохі, якому паўсюль пашана і гонар, у той час калі бацькаў бацька, так атрымалася, сорам той эпохі. Ён ненавідзеў свайго бацьку за лагернае мінулае, разумеючы, што той ніяк не вінаваты ў няўдалым лёсе, ды ніхто не будзе паглыбляцца ў дэталі. Лагернік ёсць лагернік. Ён сын лагерніка, ворага народа. Няхай змяніліся часы, кляймо засталося на ўсім будучым пакаленні. Маме бацька не распавядаў пра гэта, але камплексаваў дужа, асабліва яго непакоіла рэакцыя яе сям'і, яе бацькі, калі той даведаецца пра паходжанне зяцька.

Ён узнімаўся па лесвічных прыступках на трэці паверх да кватэры, у якой жыла мама, быццам на Галгофу, прадчуваючы, што пагоняць яго адтуль паганаю мятлой праз некалькі хвілін знаходжання там.

Мама адчыніла дзверы, абабітыя чорнай скурай з мехам унутры, сваім ключом, падштурхнула бацьку, каб той увайшоў, потым заскочыла сама і зачыніла дзверы, уключыла святло ў цёмнай вітальні, даволі доўгай і вузкаватай з-за вялізнага шыфаньера, што займаў шмат месца ўздоўж усёй сцяны справа. Справа ж, побач з уваходнымі дзвярыма, знаходзіліся трумо і паліца з чырвоным дыскавым тэлефонам на ёй, а таксама запісной кніжкай у пацёртай карычневай скураной вокладцы. Злева ад уваходных дзвярэй у нішы, тарахцеў вялікі халадзільнік, за ім размяшчаліся санвузел з ванным пакоем і кухня. Па абодва бакі ад нішы на сценцы віселі кручкі з вопраткай і без, знізу стаяў абутак.

Насупраць шыфаньера сцяну злева разразала арка, з якой звісалі да падлогі, нібы валасы ў дзяўчыны, дзве плотныя карычневыя фіранкі, што ахоўвалі ўваход у мамін пакой. Туды бацьку мама не запрасіла. Яны распрануліся, разбуліся, мама ўзяла бацьку за руку і павяла, выключыўшы святло ў вітальні,

уздоўж шыфаньера на святло, што гарэла ў гасцёўні, якая пачыналася адразу з таго месца, дзе канчалася вітальня.

Уздоўж правай сценкі, адразу за адчыненымі шклянымі дзвярыма, расцягнулася канапа (на тоўстых тумба-ножках) з драўлянымі лакіраванымі чорнымі падлакотнікамі, укрытая цяжкім покрывам цёмных колераў з жоўтымі махрамі, што звісалі з усіх яго бакоў. Над канапай штучным выразным павуціннем красаваўся дыван, хутчэй за ўсё, ручной працы якога-небудзь мясцовага невядомага шырокай аўдыторыі майстара.

Далей, з ухілам улева, размяшчаліся прамакутнікі ўваходаў у пакой Дзядзькі з Сярогам і ў пакой бабы Дусі і дзеда Яўгена, схаваныя такімі ж фіранкамі, як і арка мамінага пакоя. Пакоі падзяляла сцяна, уздоўж якой стаяў вялікі драўляны лакіраваны рассоўны стол пад аксамітна-махрыстым настольнікам і шкляной мудрагелістай на першы погляд вазай са штучнымі кветкамі на ім. З аднаго боку ад стала ўпрытык да сцяны прыслanілася драўлянае крэсла з выгнутай спінкай і такімі ж ножкамі, з другога сядзеў дзед Яўген у мяккім фатэлі, адкінуўшы галаву з сівым вожыкам валасоў назад, і, мабыць, драмаў, бо вочы яго былі заплюшчанымі. Над сталом вісела даволі вялікая карціна, якая адлюстроўвала подзвіг маёра Кунікава і дэсантнікаў на Малой зямлі. Баба Дуся, у такім жа фатэлі, у якім сядзеў дзед Яўген, лушчыла арэхі крыху воддаль ад яго, па другі бок ад увахода ў іх пакой, побач з балконам. Кут каля балконных дзвярэй і ўвесь падаконнік, вельмі шырокі, цалкам займалі самага рознага віду расліны і кветкі ў гаршчках і вазонах.

Сцяну насупраць, амаль усю ад столі да падлогі, акупавалі кнігі за шклом кніжнага серванта, зробленага Дзядзькам уласнаручна. Дарэчы, такія ж серванты стаялі і ў яго пакоі, і ў маміным, пад завязку напакаваныя кнігамі. Фотаздымкі, як агульныя, так і асобныя партрэты кожнага члена сям’і, быццам аздаблялі маўклівую веліч векапомнай мудрасці.

Каляровы вялікі кнопачны тэлевізар (рэдкасць па тых часах для звычайнага смяротнага) грувасціўся на камодзе ў куце паміж сервантам і акном, зялёным ад раслін і кветак. Ён трансліраваў нейкі канцэрт, магчыма, «Песню года». Так бацька вы-

рашыў, бо пазнаў голас Ангеліны Воўк, якая з'яўлялася вядучай папулярнай музычнай перадачы.

Падлога па ўсёй кватэры была засланая мяккімі дыванамі, што прыемна ўражвала і стварала надзею на цёплы прыём.

— Мам, пап, — з ветлівай усмешкай звярнулася да бацькоў мама, наблізіўшыся з бацькам да стала і не адпускаючы яго рукі, якая неверагодна ўспацела. Бацька саромеўся яе больш, чым самога сябе колькі хвілін таму перад пад'ездам. А яшчэ баяўся глядзець дзеду Яўгену ў вочы, адчуваючы да яго глыбокую пашану, асабліва калі пазнаў яго ў адным з персанажаў карціны над сталом. Ды што карціна! Партрэты дзеда віселі на пачэсным месцы ва ўсіх значных прадпрыемствах і на Дошцы гонару ў цэнтры гарадской Плошчы. Нават у белай майцы з плямамі на грудзях і сініх трэніках не першай маладосці, у якія быў апрануты, дзед Яўген усё адно выглядаў аўтарытэтна і велічна.

Ён расплюшчыў адно вока, быццам дзеля таго, каб паглядзець, ці варта расплюшчваць другое. Пазнаў дачку і тут жа заўсміхаўся. Баба Дуся таксама зацікаўлена ўтаропілася на маму, пераводзячы позірк з яе на бацьку і наадварот. Выглядала яна тоўстай і непаваротлівай, але вочы выпраменьвалі непадробную дабрыню.

— Мам, пап, — паўтарыла мама, — гэта Міша, — назвала ім бацькава імя і дадала: — Мой будучы супруг. Вяселле праз два тыдні.

Думаю, мама баялася рэакцыі бацькоў не менш за бацьку, калі не больш. Для яе таксама было цяжка рашыцца прывесці яго ў іх дом, нягледзячы на тое, што дзед Яўген на словах падтрымліваў дэмакратызм, з'яўляючыся, на самай справе, адданым і ідэйным камуністам. Яркі прыклад: адносіны яго да Высоцкага.

Усмешлівыя вочы дзеда Яўгена, як кажуць, канулі ў лету ад пачутых слоў.

Бацька прыгатаваўся да патрабавання неадкладна пакінуць гэты дом і назаўжды забыць да яго дарогу.

Дзед Яўген — хударлявы, касцісты, з адной худзейшай рукой за другую, з выразным малюнкам вен на абедзвюх ру-

ках — падняўся з крэсла, задумліва пачухаў стрыжаную патыліцу, затым вялікую ў пражылках чырвоную бульбіну носа, слізгануў позіркам па бацьку і запытаў у мамы зусім не голасна, а лагодна і нават з роспаччу:

— А дзе ж вы раней былі, ушавэлкі?

Бацька з палёгкай выдыхнуў. Па адной гэтай фразе ён адразу зразумеў, што дзед міравы чалавек і яны абавязкова пасябруюць.

— Трэба ж неяк гатавацца, — працягваў той, — а часу няма, — свідраваў ён позіркам то маму, то бацьку. — Чым думалі, га?

— Мы баяліся, пап, — ледзь чутна, аднымі вуснамі вымавіла мама, усё яшчэ трымаючы бацькаву руку, нават сціскаючы яе сваімі пальчыкамі, такімі ж успацелымі, як і бацькавы. — Я баялася, — тут жа выправілася, абараняючы бацькаву нерашучасць.

— Чуеш, Дуся, — азірнуўся дзед Яўген да жонкі, якая лавіла кожнае слова прысутных і была на баку дачкі, але не ведала, як павядзе сябе муж, таму з насцярогай паглядзела на яго. — Чаго было баяцца? — незразумела да каго звярнуўся дзед Яўген, бо пазіраў у той момант ужо на маму. — Мы ж не ворагі якія, так? — працягнуў руку бацьку і назваўся: — Яўген Пятровіч.

Бацькава правая рука, хоць і заставалася вольнай, але таксама ўспацела. Абцерці яе аб калашыну ці аб спіну ён не асмеліўся і, кусаючы ад прыкрасці вусны, працягнуў насустрач дзедавай, сказаўшы:

— Міхаіл. Вельмі прыемна.

Поціск атрымаўся моцны. Дужасці ў сухім дзедавым целе яшчэ хапала.

— А чаму рука мокрая? — нетактоўна раптам запытаў дзед Яўген і, не чакаючы адказу ад у імгненне пачырванелага бацькі, сам і адказаў: — Хвалюешся?

Бацька кіўнуў.

— То добра, — усміхнуўся дзед Яўген. — Харошая рука, — ухваліў, — адразу бачна, што не беларучка, якіх я на дух не

пераношу. Ну, што, — пляснуў у ладкі, — па пяцьдзясят? — падміргнуў бацьку. — А там разбяромся, што далей рабіць?

Баба Дуся з мамай тут жа выправіліся на кухню, са свайго пакоя выйшлі Дзядзька з Сярогам, парукаліся з бацькам, пазнаёміліся, затым Сярога пабег у суседні пад'езд за старэйшым братам, Сашам. Бацька з Дзядзькам высунулі на сярэдзіну гасцёўні стол, які хутка забагацеў закуссю з квашанай капусты, далікатна парэзанага сала з прорэззю, сялёдкі ў колцах салодкай цыбулі, грыбоў, памідораў і гуркоў, а таксама халоднай адваранай бульбы, што засталася з абеду. Дзед Яўген нязлосна ўпікнуў бацьку, што стол мог быць і багацейшым, калі б навіной пра вяселле не агаломшылі з бухты-барахты, а паведамілі пра яго своечасова. Ён прыняў бы любога выбранніка любай дачкі. Цяпер жа давядзецца ўсё рабіць спехам, подбегам, шукаць варыянты жылля для маладзёнаў, якога няма ў прынцыпе. Бацька, забыўшыся, запярэчыў, што ён сам можа пра ўсё паклапаціцца. Дзеду Яўгену гэта і спадабалася і не спадабалася адначасова, што ён тут жа і агучыў, аднак бацька не пачуў у тым пагрозы, хутчэй, нястрыманае бурчанне, даволі лагоднае, чалавека, абыдзенага належнай увагай.

Дзед Яўген выставіў на стол пляшку самагонкі, вытворчасцю якой займаўся ўласна і настойваў яе на апельсінавых корках у трохлітровых шкляных слоіках. Яна мела лімонны колер, а на смак нагадвала каньяк вышэйшага гатунку. Нават абласное партыйнае кіраўніцтва не грэбавала ўпівацца дзедавай самагонкай, пакідаючы некранутымі лепшыя французскія каньякі і віна, калі, зразумела, тая самагонка прысутнічала на іх сталах, а прысутнічала яна нярэдка. З усёй вобласці да дзеда Яўгена прыязджалі па самагонку партыйныя шасцёркі, хоць на продаж ён яе ніколі не рабіў, і звычайнаму насельніцтву яна не была вядома.

У ходзе размоў, што ўзніклі пасля некалькіх выпітых чарак і, калі прыслухацца, нагадвалі радыё ў час пераключэння каналаў, высветлілася, што бацька і Дзядзька працавалі на адной шахце; што ў дзеда Яўгена быў сябар родам з Вёскі, з якой прыехаў бацька, шкада, што заўчасна загінуў; што дзед Яўген ніколі не сядае за стол без чаркі, якую выпівае дзеля апетыту;

што сумуе за Украінай, куды прыязджае хаця б у адпачынак… Затым ён зацягнуў «*Ніч яка місячна…*», не трапляючы ні ў адну ноту, затое ад душы.

Бацька быў, шчыра кажучы, здзіўлены тым, якім простым і адкрытым чалавекам у хатніх умовах апынуўся дзед Яўген, да якога ў Шахцінску адносіліся, як да Леніна, у сэнсе абагаўлялі, ганарыліся ім і ставілі за прыклад. У свае на той час амаль шэсцьдзясят гадоў дзед Яўген называў сябе хлопцам «жывучым», «баявым», «хвацкім» і «мабільным». Нават падкрэсліваў, што ён хлопец менавіта сялянскага паходжання, які зрабіў сябе ўласнымі рукамі і розумам. Больш за ўсё бацька ўразіўся даверлівай размовай, якой узнагародзіў яго Яўген Пятровіч, калі яны разам выйшлі на балкон падыхаць. Дзед яму нават дазволіў закурыць і распавёў, як у часы вучобы ў марской вучэльні хаджваў да дамачак — прастытутак з вышэйшага саслоўя, былых графінь, баранэс і князёўнаў, з такімі падрабязнасцямі і дэталямі, што пазайздросцілі б Дзікенс, Бальзак і Дастаеўскі разам узятыя. Магчыма, нават верагодней за ўсё, не бацьку першаму ён тое расказваў, аднак сам факт таго, што дзяліўся мінулым не з кім-небудзь, а з будучым зяцем, пра нешта ж сведчыла. Да прыкладу, мама не ведала пра той кавалак з біяграфіі дзеда Яўгена, якім ён падзяліўся з бацькам, бачачы таго ўпершыню. І бацька ацаніў давер, убачыў у ім не ікону, на якую ўсе маліліся, а звычайнага чалавека, такога ж жывога, як і ўсе астатнія. Відаць, дзеду Яўгену муляла тая ноша, якую ўзвалілі яму на плечы: хочаш, не хочаш — а мусіш цягнуць па загадзе партыі. Папраўдзе ж ён хацеў бы проста жыць звычайнымі сямейнымі клопатамі. Не спецыяльна ж ён палез у героі, хаця, вярнуўшыся, напрыклад, з дапамогай машыны часу ў мінулае, зрабіў бы тое самае. Гераізм не ўзнікае адмыслова, і не кожны патэнцыйны герой мае быць героем, часцей здараецца наадварот. Героі, на якіх спадзяешся і верыш у іх, у адказны момант, калі, здаецца, ніхто іншы, апроч іх, не выратуе сітуацыю, — пасуюць перад незразумелым, невытлумачальным страхам, які бярэцца невядома адкуль. Ён глытае іх цалкам, нібыта ён, страх, кракадзіл, а героі — мошкі. Тады героямі робяцца тыя,

у каго няма іншага выхаду, хто, здзейсніўшы подзвіг, нават не ведае, што праявілі гераізм, пакуль іх не знойдуць і не скажуць пра гэта, ды ўсё адно яны не паверацьв, бо героі ж іншыя, інша-га гатунку, не з простых. Дзед Яўген быў з такіх. Ён пагадзіўся толькі тады, калі тыя, хто быў з ім, тыя, хто выжылі, пацвер-дзілі, што ён насамрэч герой, хаця і лічыў большымі героямі, чым сябе, менавіта іх, шараговых і нікому не вядомых марскіх пехацінцаў і быў удзячны ім. Асабліва за тое, што пасля вай-ны яго не адразу паставілі да сценкі за шлюб з ненадзейнай і неправеранай пасля вяртання з Германіі каханай жанчынай, а правялі растлумачальную гутарку і дазволілі выбраць, дзе яму жыць далей і як. Калі б ён не быў героем, даўно б парыў косткі дзе-небудзь у Сібіры, і гэта ў лепшым выпадку.

Такім чынам бацька даведаўся пра дзеда Яўгена за некаль-кі гадзін знаёмства больш, чым мама за ўсё папярэдняе жыц-цё. Магчыма, дзед Яўген і чакаў бацьку, каб падзяліцца тым, пра што не мог распавесці родным, бо для іх ён павінен быў заставацца да канца непахісным героем-волатам. Менавіта ён адкрыў вочы бацьку на тое, што такое Шахцінск, хто яго буда-ваў і на чыіх костках узведзены. Зразумела, што з афіцыйных звестак ніколі ён падобнага не пачуў бы.

Карацей, яны знайшлі адзін аднаго, і бацька вельмі гана-рыўся цёплымі і даверлівымі адносінамі з цесцем.

На наступны дзень бацька тэлеграмай паведаміў сваім бацькам пра хуткае вяселле і запрасіў на ўрачыстасць. Бабе Марусі навіна не спадабалася, дакладней, тое, як яна была пададзена. Не па-людску. Бацька мусіў, па яе разуменні, па-пытацца дазволу ў яе і спачатку пазнаёміць з нявестай, па-казаць абранніцу Вёсцы, пачуць ухвалу ці, наадварот, словы неадабрэння. Тэлеграма абурыла бабу Марусю, больш за тое, пакрыўдзіла, і яна адмовілася ехаць на вяселле, забыўшыся, што сама не палічыла патрэбным не тое што паклікаць, нават сказаць маці пра свой шлюб, і што нарадзіла першае дзіця ў так званым граху. Магчыма, калі б побач быў яе бацька, усё склалася б інакш, але той прапаў без звестак на фронце. Дзед Іван напомніў ёй пра агульнае мінулае і дадаў, што іх сын да-

рослы і мае права рабіць так, як лічыць патрэбным, хопіць таго, што яна перашкодзіла Мішкаваму шчасцю з Раяй.

— Сціхні! — раззлавалася баба Маруся. — Якое б там шчасце ў іх было?! Яна яму не пара!

— Адкуль табе вядома, хто каму пара? — раздражніўся і дзед Іван.

— Дзеўчына, якая чытае кніжкі, гультайка! — заявіла тады баба Маруся. — Мішка працаваў бы на яе, гарбаціўся, а тая б сядзела на печы, ногі звесіўшы, і лунала ў паветры. Ні гаспадаркі б добрай у хаце не было б, ні жыцця ніякага, во як!

— Зімоўскі не скардзіцца, — увярнуў дзед Іван.

— Зімоўскі — шляхцюк! — сказала, як адрэзала, баба Маруся, але тут жа дадала: — Яны абое рабое.

— Мы таксама… — пачаў было дзед Іван, але бязлітасна быў перарваны жонкай.

— Супакойся! — зыркнула гнеўна вачыма, бо ненавідзела, калі муж пачынаў разважаць пра тое, што ён незвычайнага паходжання. — Дзе б ты быў, калі б не я! Згніў бы ўжо даўно дзе-небудзь пад плотам у карэльскай канаве! І няма чаго ганарыцца сваяцтвам з фашыстамі!

— Ты! Басота рабая! — замахнуўся дзед Іван для ўдару. Размовы на тэму паходжання, асабліва са з'едлівымі інтанацыямі, раз'юшвалі яго. Кроў з разгону кідалася ў галаву, быццам драпежнік да ахвяры. Ён не памятаў сябе, мог скалечыць ці забіць крыўдзіцеля, калі ў час не спыніць.

— Прымак! Прыблуда! — істэрычна завіскатала баба Маруся, нібы свіння, закрываючы твар рукамі ад магчымых тумакоў і мружачы вочы, каб не бачыць страшнага позірку. — Байструк! Шалэйка! — усё ж працягвала гаўкаць на аўтамаце.

Дзед Іван не ўдарыў.

— Пайшла ты, — вымавіў і сышоў на двор.

Апошнім часам яны часта лаяліся, па-сутнасці, ні з-за чаго. Маглі завесціся і проста так, дзеля інтарэсу. Няйначай старэлі. Аднаго разу баба Маруся нават давяла яго да інфаркту, пасля бегала па суседніх хатах у пошуках рады, бо не разумела, чаго раптам муж паваліўся, як куль, на зямлю і не варушыцца, а з

носа цячэ кроў. Суседзі выклікалі «хуткую», якая завезла дзеда ў райцэнтраўскую бальніцу. Паспелі адкачаць.

Баючыся не пераажыць другі сардэчны прыступ, ён хутка супакойваўся, як і прасіла жонка.

Дзед Іван выйшаў з двара за брамку, агледзеўся вакол. Прыгажосць! Усё зелянела, буяла, квітнела, пчолы з восамі гуляліся ў даганялкі, здавалася, мухі-самцы, выраблюючы ў паветры мудрагелістыя петлі і заходзячы ў піке, быццам пілоты-асы, выкаблучваліся перад самкамі, якія какетліва распушвалі крылцы і старанна чысцілі пысачкі лапкамі, відаць, гатуючыся да пацалункаў. З пашы вярталіся каровы, насыціўшыся за дзень смачнай травой, ляніва перастаўлялі ногі і нават мыкаць ленаваліся. Прасвістала, нібы вецер, паўз дзятва на роварах. Да вулічнага калодзежа, што стаяў каля дарогі праз два двары, наблізіўся сусед і сябар дзеда Івана Рахвал набраць вады ў пустыя вёдры. Дзед Іван неўпрыкмет для дзеда Рахвала падкраўся ззаду і закрыў яму вочы рукамі. Той ажно ад нечаканасці выпусціў ручку калаўрота і ўтапіў вядро.

— Шалэйка, ты? — пазнаў навобмацак дужыя валасатыя рукі дзеда Івана.

Толькі дзед Іван падобным чынам над ім паджартоўваў, так што памыліцца дзед Рахвал не мог. Яны парукаліся, хоць за цэлы дзень бачыліся ўжо разоў дзесяць.

— Здарылася што? — выцягнуўшы поўнае вядро вады з калодзежа і пераліўшы яго ў пустое, запытаў дзед Рахвал.

— Сын жэніцца! — з гонарам вымавіў дзед Іван. — Тэлеграму даслаў. Вось збірацца трэба на вяселле.

— Дык віншую! — яшчэ раз пацiснуў дзед Рахвал, дарэчы, гераічны партызан, руку дзеду Івану і запрасіў абмыць навіну, бо за такое грэх не выпіць.

Шалэйка, між іншым, — лішняя вось у драўляным коле і вулічная мянушка бацькавай сям'і.

Зразумела, што баба Маруся паехала на сынава вяселле, яшчэ прыхапіла і сястру Соню з Мінска, не кажучы пра дзеда Івана, якому больш за ўсіх не цярпелася пазнаёміцца з будучай нявесткай, і ўсю дарогу да Шахцінска ён наракаў на

занадта доўгі шлях: стаміцца можна, пакуль дабярэшся, і свята не на ўме будзе. Баба Маруся таксама так лічыла, але не агучвала сваіх думак, трывала моўчкі і назапашвала ў галаве спіс прэтэнзій, які абавязкова па прыездзе суне сыну пад нос.

Ехалі яны цягніком да Караганды (а гэта сапраўды доўга), у разы хутчэй дабраліся б самалётам, але ж і больш выдаткавалі б сродкаў на білеты, пра што, у прынцыпе, не шкадавалі. У Карагандзе пераселі на аўтобус да Шахцінска. На Шахцінскім аўтавакзале іх сустракалі бацька з мамай і нязвыклая спёка. Баба Маруся і цётка Соня мелі залішнюю вагу, спёка хутка адолела і завалодала імі яшчэ ў аўтобусе. Яны ўвесь час хацелі піць і сцякалі потам. Дзед Іван трымаўся мужна, аднак і ён раз-пораз прыкладаўся насоўкай да свайго лысага чэрапа ў венчыку белага пуху па баках за вушамі.

Сустрэча атрымалася вялая і стрыманая. Толькі дзед Іван абняў сына і нявестку, якую яшчэ і пацалаваў. Ён быў рады бачыць і бацьку, якога даўно не бачыў, і маму, якая яму, хочацца думаць, спадабалася. Ва ўсялякім разе ўсміхаўся ёй дзед Іван ветліва і шчыра.

Наконт будучай свякрухі мама здагадвалася. Яна была амаль упэўнена чамусьці, што не спадабаецца ёй. Баба Маруся, як пабачыла акуляры на маміным твары, так адразу і знікла ў ёй цікавасць да сынавай будучай жонкі. Ёй не падабаліся дзяўчыны і жанчыны з разумным позіркам, асабліва ў акулярах. Яна лічыла, што тыя вочы сябе асляпілі кнігамі, якія нічога добрага не нясуць, а толькі адымаюць час і зрок. «Гэта замест таго, каб уходжвацца па гаспадарцы і глядзець мужыка, жонка будзе кніжкі чытаць, ці што? — выгаворвала баба Маруся дзеду Івану пасля. — Дый тошча нейкая яна, а здалёк падобна да Раі Курапаткі, не заўважаў? На адны і тыя ж граблі, ёлуп, наступіў!» Дзед Іван адмахваўся ад жонкі, праўда, неяк сказаў, што сыну з ёю жыць, яму лепш відаць. Калі ж баба Маруся пабачыла колькі кніг знаходзілася ў адной толькі гасцёўні гераічнага дзеда (вяселле пасля ЗАГСа працягвалася менавіта там), іх хапіла б, каб скласці некалькі вясковых бібліятэк, яна жахнулася: на халеру гэтулькі? Баба Маруся сапраўды не разумела, якое задавальненне можна атрымаць ад чытання, а

тым больш траціць на іх грошы. Адна справа, калі кніжкі чытае школьнік, бо ён абавязаны чытаць, каб зарабіць станоўчую адзнаку і скончыць школу, бо без пасведчання зараз нікуды, іншая — калі дур'ю маецца дарослы чалавек. Сама баба Маруся скончыла два класы польскай вясковай школы і цалкам задаволена. Навучылася лічыць і пісаць — і досыць. Кніжкі — для шляхты, якой няма куды сябе падзець ад вольнага часу. Простаму чалавеку яны не патрэбны, тым больш дзяўчыне. Пераканаць яе ў адваротным было немагчыма. Але больш за ўсё баба Маруся злавалася на маму за тое, што яна была падобна на Раю. Прычым падабенства гэтае бачыла толькі яна адна і сваіх адносін да нявесткі не змяніла за ўсё жыццё.

На вакзале ў Шахцінску пазірала на маму ваўком, не падышла, не ўсміхнулася, не загаварыла. Сястру Соню абдзёрнула, калі тая памкнулася, усміхнуўшыся, хаця б пацiснуць руку маме. Тая пасля ўсю ноч праплакала.

Бацька завёз сваякоў на таксоўцы да цёткі Груні, мама з імі не паехала. Баба Маруся паспрабавала паўшчуваць сына ў машыне, прыпомніўшы спіс прад'яў да яго, але яе не зразумелі і не падтрымалі ў папроках. Нават Соня зашыкала абурана і параіла не псаваць дзецям свята.

Выдаткі на вяселле падзялілі напалам. Бацька купіў пярсцёнкі, мама — вясельную сукню з вэлюмам, якую дапамагала выбіраць Люся. Стол бацька з дзедам Яўгенам рабілі ў складчыну. З алкаголю хапіла б дзедавай самагонкі, але бацька настояў у дадатак да яе паставіць віно і каньяк, бо не ўсім гасцям, як ён слушна разважыў, пойдзе тая самагонка на карысць. Купленымі і прывезенымі прадуктамі (некаторыя былі замоўлены непасрэдна дзедам Яўгенам) займалася баба Дуся. Ёй дапамагалі Люся і цётка Галя, што адмыслова прыехала з Абая напярэдадні. Дзядзька з Сярогам знялі з падлогі дываны, каб не забрудзіліся і не вышараваліся гасцямі, скруцілі іх у рулоны і паклалі адзін на другі каля халадзільніка. Пасля выцягнулі стол на сярэдзіну гасцёўні і падрыхтавалі яго да прыняцця на сябе войска посуду і страў, на ўсялякі выпадак прысунулі да яго ўсутыч яшчэ па стале з мамінага пакоя і са свайго, пасля

чаго заслалі канструкцыю белым палатняным абрусам, чые канцы звісалі амаль да падлогі з усіх бакоў. Дзве доўгія лаўкі з Домабудаўнічага камбіната, на якім працаваў, прывёз дзядзька Саша, іх усталявалі ўздоўж сталоў па абодва бакі, таксама заслаўшы белымі абрусамі. Па два крэслы прысунулі да вузкай частцы стала, для жаніха і нявесты.

Перад тым, як ісці выкупляць маму, бацька заскочыў да Танюхі.

— А я думала, што ты не прыйдзеш сёння! — узрадавалася дзяўчынка яму.

— Ну што ты такое кажаш, малая! — схапіў бацька Танюху на рукі і падкінуў ледзь не да столі, а яна завіскатала ад задавальнення. — Я хачу, каб ты парадавалася за мяне, радавалася разам са мною, — паставіў дзяўчынку на ногі і працягваў цалкам сур'ёзна, — бо без цябе нічога гэтага не было б, так што збірайся.

— Ты запрашаеш мяне на сваё вяселле? — загарэліся Танюхіны вочы.

— А ты сумнявалася?

— Тады я хутка! — паабяцала дзяўчынка і выправадзіла бацьку за дзверы, каб не перашкаджаў пераапранацца. У яе была вельмі прыгожая сукенка, амаль такая ж, як у Мальвіны з кіназказкі пра Бураціна — яе самага любімага фільма, на які, дарэчы, яна хадзіла ў кінатэатр з бацькам, — толькі не блакітная, а ружовая, значыць, прыгажэйшая. І купіў сукенку таксама бацька, у Танюхін дзень нараджэння, які правёў разам з дзяўчынкай з ранку да вечара. Гэта быў самы шчаслівы дзень у яе жыцці.

Яна выйшла да бацькі маленькай прынцэсай, ён узяў яе за руку, і яны спусціліся ўніз па лесвіцы. На вуліцы Танюха злавіла на сабе зайздросныя позіркі суседскіх дзяўчат і хлопцаў, што абвесілі вінаградам загараджальную, замест плота, трубу на дзіцячай пляцоўцы. Яна засталася каля мамінага пад'езда з астатнімі гасцямі, калі бацька пайшоў па нявесту, чакаць маладзёнаў. Каля гэтага ж пад'езда сабралася і дзятва, бо нявеста, з'явіўшыся на людзі, павінна была раздаваць цукеркі. Танюха назбірала іх больш за ўсіх, рассавала па дзвюх кішэнях і тры-

мала яшчэ ў руках жменю, шкадуючы, што не мела кішэняў у запасе. У тую хвіліну яе мала цікавілі шапаткое сонечнае надвор'е і бацька з мамай, якія, усё ж адзначыла дзяўчынка, выглядалі дужа шыкоўна і стыльна разам. Ён — ва ўсім чорным, яна — уся белая, нібыта сышлі з нейкай знакамітай карціны пра лебедзяў. Але ж цукеркі — магутнейшы аргумент, каб забыцца на ўсё, апроч іх.

Бацьку давялося, нібы герою з камп'ютарнай гульні, перадолець колькі перашкод на шляху да шчасця ў асобе каханай нявесты. Ён адціскаўся на кулаках на лесвічных прыступках, падымаўся на другі паверх па парэнчах без дапамогі рук, шукаў ключ ад сэрца нявесты ў слоіках з крупамі, піў ваду з трохлітровага бідона, вышукваў вусны каханай, дакладней, іх адбітак, сярод іншых на ватманскім аркушы, прылепленым да шурпатай сцяны каля дзвярэй кватэры… Калі дабраўся да мамы, дык упаў на калені перад ёю не таму, што павінен быў, а, хутчэй, ад стомы. Ён успацеў і ўзмакрэў, добра, што хоць пінжак зняў перад тым, як адціскацца. Кашуля на спіне пад лапаткамі і між імі прыліпла да цела вільготнай плямінай. Мама падняла яго з кален і вывела на балкон. Свежае паветра падзейнічала, быццам антыбіётык. Сонца яшчэ не паспела яго падсмажыць, нібы яйкі на патэльні.

Бацька ніколі не бачыў, каб дзяўчыне так пасаваў вясельны ўбор. Мама ў ім выглядала прыўкрасна, і бацька зайздросціў сам сабе, таму што ўжо хутка гэтая прыгажосць цалкам будзе належаць толькі яму аднаму. Ён прашаптаў маме на вуха тое, пра што падумаў, яна загадкава і прыязна ўсміхнулася.

Калі яны выйшлі да гасцей, маму пачалі віншаваць з выбарам мужа, бацьку — з выбарам жонкі. Асабліва спадабаліся цёплыя словы братоў бабы Дусі і дзеда Яўгена, якія прыехалі з Украіны. Бабін брат выглядаў сапраўдным волатам-асілкам. Яму прыходзілася крыху згінацца, каб не стукацца ўвесь час галавой аб столь, а ў дзвярныя прагалы ён праходзіў бокам, бо інакш было не пранесці шырачэзных плячэй. Ён, хутчэй, нагадваў вікінга, чым патомнага казака, нашчадка паплечніка Багдана Хмяльніцкага Васіля Чубаху. У вайну бабін брат лавіў дыверсантаў і адкручваў ім галовы, цяпер лавіў бандытаў.

Дзедаў брат, вельмі падобны знешне на дзеда, служыў у разведцы падчас вайны, у мірныя будні будаваў гарады, але жыў у роднай вёсцы Цішкоўцы.

Бацька, на жаль, не мог пахваліцца сваімі сваякамі, з якімі ўсе прысутныя сустрэнуцца каля ЗАГСа, па-добраму зайздросціў маме і яе братам. Каго ні вазьмі з іх старэйшага пакалення — абавязкова герой. А яго бацька невядома хто, і невядома за што адседзеў мноства гадоў.

Тым часам свята працягвалася, як працягвалася і жыццё. Супыніць яго магла толькі смерць, і тое ёй давялося б вельмі пастарацца. Сонца — нябесная патэльня — ужо смажыла паветра, калі маладыя нарэшце распісаліся. Да ЗАГСа пад'ехаў аўтобус, выдзелены па просьбе дзеда Яўгена заводам СМС. У яго паселі запрошаныя на ўрачыстасць госці і паехалі на мерапрыемства. Маладых адвезлі на аўтамабілях.

Месцаў за сталом хапіла ўсім, бо вяселле было не вельмі шматлюднае, у асноўным сваякі ды колькі сяброў і сябровак з боку жаніха і нявесты. Пад вечар, калі папрахладнела, сталы вынеслі ў палісаднік. Усім стала лягчэй і вальней пад шатамі дрэў і пошум травы. Дзядзька наладзіў танцы пры дапамозе музычнай апаратуры. Да вяселля далучыўся двор. Жадаючым налівалі па сто грам дзедавай самагонкі.

Моладзь танчыла каля пад'езда, цалавалася, абдымалася. Дзятва — тыя, каму пашанцавала застацца на вуліцы, бо бацькі таксама не спяшаліся дамоў з нагоды вяселля, і тыя, каго яшчэ не паклікалі мамы з балконаў неадкладна вяртацца дадому, вячэраць ды класціся спаць, — вісела на трубе і ва ўсе вочы пазірала на дарослых, якія рэдка ў будзённым жыцці дазвалялі сабе падобны разгуляй, адпускалі сябе, нібы стрыножаных конікаў, на прастору музыкі і аддаваліся ёй без астатку.

Іншы канцэрт адбываўся ў палісадніку. З абодвух бакоў святочнага стала ўзлятала, быццам чырвоная атласная стужка, песня, лунала над галовамі і імкнулася дасягнуць аблокаў, якія, дарэчы, падхапілі б яе і не дазволілі прапасці. Тры сястры (баба Маруся, Соня і Груня), падобныя на кадушкі з-за паўнаты і маленькага росту, пачырванелыя ад выпітага і ад нязвыклай

гарачыні, як іх шкляныя бусы, перакручаныя ў тры, а то і ў чатыры разы на кароткіх тоўстых шыях, цягнулі многагалоссем «Купалінку», за ёй «Перапёлачку», затым «Мой родны кут», якія тут жа перайшоў у «Молодость моя, Белоруссия». Галасы іх былі на дзіва чыстыя і звонкія. Трэба адзначыць, што і баба Маруся, і Соня з'яўляліся на той час салісткамі ўзорнага фальклорнага ансамбля, які ведалі па ўсёй Беларусі, а выступленні нярэдка паказвалі па тэлебачанні.

Бабін брат-волат не адставаў у спеве ад жанчын і пранікнёна замурлыкаў любімую песню дзеда Яўгена «*Ніч яка місячна*», валодаючы голасам не горш за Кабзона. Дзед Яўген, як звычайна, няўмела падпяваў сваяку. Той знакамі паказваў, каб не псаваў песню і замоўк, але дзеда Яўгена было не спыніць, калі ён разганяўся, гэтак жа, як і легендарнага камдыва Чапаева. Калі бабін брат заспяваў «*Плыве кача*», усе за сталом прыціхлі, услухоўваючыся ў голас выканаўцы і, уласна, у словы песні, змест якіх быў настолькі глыбокім, што свідраваў душу наскрозь, нібы шахцёрскі бур. Песня прымушала думаць, выцягвала са спратаў памяці на паверхню балючыя ўспаміны пра вайну і яе жудасці. Шмат у каго пацяклі слёзы. Бабін брат не хацеў яе спяваць, яна сама сабой узнікла, ён нават не паспеў супрацівіцца яе з'яўленню, як тая загучала і абвалакла прысутных магіяй, магчыма, і недарэчнай на вясёлым свяце, але адначасова такой патрэбнай. Пасля заканчэння песні павісла гнятлівая цішыня, хоць музыка з дынамікаў Дзядзькавай апаратуры ні на міг не спынялася і пад яе не стамляліся скакаць тыя, каго аб'яў імпэт танца — такі ж чараўнік, як і сапраўдная песня. Тады бабін брат усклікнуў: «*Ты ж мене підманула, ты ж мене підвіла!*». Песню адразу падхапілі сёстры Шалэйкі, астатнія разварушыліся, налівалі і закусвалі.

Мама з бацькам знаходзіліся сярод моладзі, танчылі і весяліліся, як усе, да таго ж гэта было іх свята. Каму, як не ім, весяліцца. На адзін з павольных танцаў маму запрасіў дзед Іван, якому надакучыла сядзець за сталом. Бацька танчыў з Танюхай. З-за таго, што тая была яшчэ маленькай, ён узяў яе на рукі. Дзяўчынка аберуч абхапіла бацькаву шыю і горача ды-

хала яму ў вуха, шкадуючы, што не дарослая, бо інакш сама б выйшла замуж за бацьку, а маме паказала б язык.

Аскольд меў намер выкрасці маму (нічога асабістага, строга па законах жанру), але атрымаў па зубах. Яму ўдалося заваладаць маміным вэлюмам, з ім пад пахай ён і ўцёк.

Вечар непрыкметна споўз вужакай у ноч, ноч, таксама непрыкметна, растварылася ў золаку, а вяселле ўсё працягвалася. Ніхто нікуды не хацеў сыходзіць. Тыя, хто заснуў за сталом, прачнуліся і з новым імпэтам накінуліся на алкаголь і закускі, забыўшыся на маладых. Пра іх успомнілі раптам, але, колькі ні гукалі, дагукацца не маглі.

Бацька з мамай аднеслі на руках стомленую Танюху дамоў, паклалі спаць, а самі накіраваліся да бацькавага інтэрната. Ім так прыемна было ісці адным па бязлюдных вуліцах горада, які яшчэ спаў.

На Ленінградскую бацька з мамай вярнуліся а другой палове дня: прыехалі на таксі, крыху адпачнуўшы. Такое адчуванне ў іх склалася, калі выйшлі з машыны, што нібыта і не сыходзілі нікуды. Працягвала гучаць Дзядзькава музыка, пад якую выгіналіся ўсюды дасціпныя падлеткі, а ў палісадніку не спынялася застолле, праўда, задрапіраванае адмыслова ўзведзеным ад сонца тэнтам. Заўважыўшы сына з нявесткай, дзед Іван памкнуўся да іх з такім імпэтам, быццам не бачыў сто гадоў і знудзіўся за імі, аднак пераняць не паспеў, у прыватнасці, маму. Тая борзда схавалася ў пад’ездзе, маючы намер забегчы ў кватэру і пераапрануцца. Бацька застаўся чакаць яе на вуліцы і закурыў, калі да яго дапяў дзед Іван. Дзядзька, каля якога круцілася цікаўная дзятва, падміргнуў новаму сваяку, не адыходзячы ад апаратуры.

Бацька з дзедам Іванам парукаліся. Бацька спытаў, ці ўсё нармальна. Дзед Іван паказаў вялікі палец, падняты ўверх, ухваляючы і вяселле, мабыць, і нявесту. З дзедам Яўгенам ён перамовіўся толькі парай слоў. Той не вельмі спяшаўся распачынаць з ім шчыры дыялог, дзед Іван таксама стараўся не трапляць на вочы мамінаму бацьку. Яны ніколі так і не пагавораць, не апынуцца сам-насам, адчуваючы нейкую невытлума-

чальную віну, хаця абодва нічога не ведалі адзін пра другога. Дзед Іван па разрозненых размовах за сталом зразумеў шмат пра дзеда Яўгена, зрабіў выснову, магчыма, цалкам памылковую, і, відаць, каркам адчуў сваё месца, вызначанае не ім самім, а грамадствам. Ён ніколі не ніякавеў перад ім, саромецца за ўласнае пражытае жыццё не было прычын, проста мінулая вайна замінала любым адносінам. З усіх прысутных гасцей сталага веку толькі дзед Іван не нюхаў пораху, а нібы адседжваўся ў лагеры, ды мала хто ведаў, што ён тройчы прасіўся на фронт у штрафбат, куды заўгодна і кім заўгодна. З-за прозвішча, асабліва пасля Сталінграда, яго нават па тэрыторыі лагера перамяшчалі з канвоем і, часцей за ўсё, трымалі ў карцары. Пасля карцара ён звычайна трапляў у бальнічку, затым зноў вяртаўся ў карцар і так па коле да бясконцасці. Калі скончылася вайна, стала лягчэй. Потым увогуле вольнапасяленцам непадалёк ад лагера дазволілі жыць, нават дапамаглі ўладкавацца вольнанаёмным на лесапавал.

Франтавікоў, сапраўдных ваяк, было бачна за вярсту. Вайна быццам своеасаблівым таўром пацеміла іх твары і позіркі, аднак не яны вылучаліся за гэтым сталом у палісадніку, а дзед Іван тым, што не з іх асяроддзя. Мамін бацька адчуваў трагедыю дзеда Івана, але датыкацца да яе не меў ніякага жадання. У кожнага свая праўда, і гэтая праўда мела права на існаванне. Іншая справа, ці прымаеш ты тую праўду. Больш за ўсё ён баяўся п’яных прызнанняў дзеда Івана і патрабаванняў справядлівасці, якія прагучалі б не да месца і не да часу на ўрачыстасці іх дзяцей. Дзед Яўген быў удзячны дзеду Івану за тое, што такога не адбылося. Ён паціснуў яму руку і падзякаваў. Для іх абодвух гэтага было дастаткова, каб паразумецца.

Дзеда Івана ніколі раней асабліва не чапляла тэма вайны і свайго месца ў ёй, не адчуваў ён сябе і лішнім чалавекам побач з франтавікамі. Яго лепшы сябар і сусед Рахвал таксама ваяваў, як і многія іншыя, з кім ён працаваў на цагельным заводзе ў Вёсцы, і ніхто з іх ні разу не ўпікнуў лагерным мінулым. У кожнага была свая вайна, і яшчэ невядома, каму давялося перанесці больш цяжкасцей, тым, хто гінуў на фронце, ці тым, хто загібаўся ў лагерах. Не нам судзіць нашых дзядоў, якіх да

таго ж даўно няма, бо не мы трымалі з імі фронт і не памíралі бязвінныя разам з імі ў ГУЛАГах.

Мама ціхенька шмыгнула з уваходных дзвярэй кватэры ў свой пакой, бухнулася на ложак спінай, расхінула рукі, як крылы, утаропіла позірк у столь і ўсміхнулася так, быццам ёй у адказ усміхнуўся Бог са столі. Яна была замужам. Фразу «Я — замужам» мама спачатку прашаптала, нібыта не верыла ў тое, пра што прашаптала. Потым асцярожна і запаволена, як бы смакуючы кожны склад, вымавіла напаўголасу. Затым катэгарычна, аднак і задаволена заявіла ўголас. Выглядала гэта так, быццам яна даказвала, што шчаслівая, таму, хто хаваўся ў столі. Ёй давялося зняць вясельную сукню, каб пераапрануцца ў нешта будзённае, бо так было трэба, хоць каму гэта было трэба, ніхто не ведаў і нават не пытаўся ніколі. Мама не хацела развітвацца з сукняй, якая ёй падабалася і пасавала, але мусіла падпарадкоўвацца няпісаным законам. Застаўшыся ў камбінацыі і ў панчохах, яна раптам ускочыла на ложак з нагамі і пачала падскокваць на ім, падкідаючы сукню ўверх і ловячы яе на ізлёце, вусны яе пры гэтым вымаўлялі, што яна замужам.

Ложак, дарэчы, стаяў каля акна ўздоўж правай сценкі, за ім узвышалася бялізнавая шафа на ножках-конусах, якая нібы падпірала вугал сцяны з аркай пасярэдзіне, і, здавалася, што ёй цесна ў тым прамежку паміж ложкам і сцяной, куды яе ўсунулі. Насупраць, каля процілеглай сценкі, размяшчаліся пісьмовы стол ля акна, кніжная паліца над сталом, крэсла і фатэль паміж ложкам і сталом, кніжная шафа, што цягнулася ад увахода ў пакой да пісьмовага стала. На стале пад шклом цешылі позірк паштоўкі з адлюстраваннем котак і кацянят, якіх мама вельмі любіла і адчувала да іх незямное замілаванне, колькі выдраных з часопіса «Крестьянка» партрэтаў Андрэя Міронава і некалькі фотаздымкаў самой мамы ў дзяцінстве. На адным яна рабіла выгляд, што ўмее граць на гітары старэйшага брата, пры гэтым какетліва ўсміхалася ў камеру, маючы за плячыма ўсяго восем ці дзевяць гадоў. Другое фота падзяляла з Люсяй. Нехта іх сфатаграфаваў у школе. Абедзве сядзелі за партай, у белых блузках, з павязанымі на шыях чырвонымі пія-

нерскімі гальштукамі, з бантамі ў валасах, і шчасліва ўсміхаліся, дзякуючы, відаць, Леніну на нейкім святе за іх шчаслівае дзяцінства. Фотаздымак быў пастановачным, але нешта ў ім прыхоўвалася такое, што маме падабалася, таму яна і памясціла яго пад шкло. Падаконнік гэтак жа, як і ў гасцёўні, зелянеў і дыхаў раслінным светам у гаршчках за цюлевымі фіранкамі.

На дзіва нячутна ў арцы з'явілася баба Дуся, ці гэта мама так захапілася скокамі, што не пачула яе крокаў. Звычайна тая бясшумна не рухалася. Пасля перанесенага інсульту яна ўвогуле абмяжоўвала сябе ў руху, таму пачала мажнець, і хада ёй, чым далей, тым цяжэй давалася. Галава пры гэтым балець не пераставала. Наколькі памятала мама, баба Дуся заўсёды скардзілася на галаўны боль, яшчэ да інсульту. Магчыма, ён звязаны з яе жыццём у Германіі падчас вайны. Невядома, што з ёю там рабілі і праз што давялося прайсці, а сама ніколі ні з кім не дзялілася ўспамінамі, якія, хутчэй за ўсё, і выклікалі гэты боль. Баба Дуся рэдка выходзіла на вуліцу, а калі выходзіла, проста сядзела на лаўцы каля пад'езда. Звычайна ж абмяжоўвалася балконам, адкуль з непрыхаванай тугой пазірала на жыццё ўнізе і магла назіраць за ім гадзінамі.

— Ой, мам, — засаромелася мама, прыпыніўшы скокі, — ты дома?

— Дома, доня, — прайшла ў пакой баба Дуся. — Што мне там рабіць? — нібыта апраўдвалася. — Дый не магу я доўга на нагах, сама ведаеш. Стамілася, — села на ложак. Мама прысуседзілася побач, і яны абняліся. — Ты хаця б радая? — занепакоена спытала.

— Мам, ну, канечне! — усклікнула мама пераконліва. — Інакш навошта гэта ўсё?

— Я чаму пытаю, — не адступалася баба Дуся, — бацькі твайго мужа нейкія… Трывожна мне.

— Усё будзе добра, мама, — заспакойвала мама, — табе падалося проста… Хваляванне і ўсё такое…

А сэрца шалёна забілася ў грудзях, бо баба Дуся адчула тое ж самае, што і мама да бацькавых бацькоў, дакладней, да бабы Марусі: насцярогу, недавер, трывогу. Ад бабы Марусі несла холадам, як з маразільнай камеры ў халадзільніку, і яна

не хавала сваёй адчужанасці да нявесткі. Ва ўсялякім разе так здавалася і маме, і бабе Дусі, хоць яны і спадзяваліся на тое, што памыляліся.

Апрануўшы летнюю жоўценькую сукенку без рукавоў, але з пышнай спадніцай, кшталту балетнай пачкі, і абуўшы басаножкі, мама імкліва кінулася ў новае жыццё, падхопленая дужымі абдымкамі бацькі. Шчаслівыя вочы маладзёнаў, яе рука ў яго руцэ, абсалютны давер адно да аднаго сведчылі пра тое, што ні мама, ні бацька ніколі не ўсумняцца ў сваім выбары, што пакахалі па-сапраўднаму і на ўсё астатняе жыццё.

Калі праводзілі бацькавых сваякоў, баба Маруся расчулілася на аўтавакзале, не хаваючы слёз. Зрэшты, кроплі на яе твары маглі быць і дажджавымі, бо якраз пайшоў дождж. А калі ўсё ж і апынуліся слязьмі, то, хутчэй за ўсё, плакала не сама баба Маруся, а, як кажуць у падобных выпадках, гарэлка ў ёй. Бацькава маці не адыходзілася ад сына з нявесткай ні на крок, цалавала то бацьку, то маму, нешта такое вярзла, што не разумела і сама, відаць, захлёбваючыся ў словах, як у штучных слязах. Яе паводзіны і румзанне выклікалі ў мамы гідлівасць, хоць яна і спадзявалася, што свякроў усё ж шчырая ў сваёй эксцэнтрычнасці. Падчас вяселля не вымавіла да мамы ні слова, ні разу не зірнула ў яе бок, а тут такі фантан эмоцый. Баба Маруся выглядала вартай жалю, што ніколі не забудзе і не даруе маме. Не даруе таму, што тая яе такой бачыла. Зрэшты, абедзве думалі, што наўрад ці ім давядзецца яшчэ перасячыся на жыццёвых пуцявінах. Аднак баба Маруся запрашала маму прыязджаць у госці ў адпачынак разам з мужам, упэўненая, што нявестка ніколі не скарыстаецца яе прапановай. Мама абяцала абавязкова прыехаць, але ведала, што не захоча. Ні яна, ні бацька не збіраліся нікуды з'язджаць з Шахцінска, а пра адпачынак, які будзе толькі наступным летам, нават не задумваліся, дзе правядуць, хаця адназначна на моры. Яны толькі пачыналі свой шлях і пра падводныя плыні лёсавых акіянаў нічога не ведалі. Ім здавалася, што ўвесь свет створаны адно для іх дваіх, а бацькі толькі перашкаджаюць насалоджвацца гэтым светам. Жылі ў маміным пакоі, у кватэ-

ры з мамінымі бацькамі і братамі. Нярэдка заставаліся на ноч у інтэрнатаўскім бацькавым пакоі, які той, як і сусед, пакінуў за сабой, калі адчувалі, што не хапала інтымнай блізкасці.

Дзед Яўген абяцаў дапамагчы з асобнай кватэрай для іх, але асабліва не спяшаўся. Ён не хацеў адпускаць дачку ад сябе, што цалкам зразумела, гэтаксама не меў жадання пазбаўляцца цікавага суразмоўцы ў бацькавай асобе, з якім было прыемна пасядзець за сталом і выпіць. Гаварыў, вядома, звычайна дзед, і яму было што распавесці бацьку, які, трэба адзначыць, з вялікім захапленнем слухаў байкі гераічнага цесця. Пасля падобных пасядзелак на кухні бацька хутка засынаў і храпеў на ўсю кватэру, з-за чаго мама не высыпалася, а дзед толькі пасмейваўся назаўтра. Аднойчы яна ўпікнула дзеда ў тым, што бацька хутка сап’ецца, жлукцячы разам з ім тую атруту, якую ён гоніць, што выходзіла замуж за аднаго чалавека, а ён ператвараецца ў іншага, узурпіраванага ў асабістае дзедава карыстанне. Той, вядома, абурыўся і пакрыўдзіўся на маму, тыдзень не размаўляў з ёю, але пасля папрасіў прабачэння і запрашаў бацьку на «па пяцьдзясят» тады, калі дачка заставалася на працы ў начную змену. Бацька ж не мог адмовіць цесцю, дый сам пацягнуўся да алкаголю, нібы да запаветнай мары.

Нельга думаць, што дзед Яўген сапраўды спойваў бацьку, а той, такі рахманы баранчык, ва ўсім яго слухаўся. Не, так не было. Бацька любога мог лёгка скруціць у той самы баранаў рог. І дзеда Яўгена, і ўсіх яго сыноў разам, калі б захацеў. Ён не мог адмовіць дзеду ні ў чым таму, што бясконца яго паважаў і лічыў, што яму вельмі пашанцавала жыць з ім у адну эпоху, і не проста жыць, а быць побач, слухаць яго, вучыцца. Магчыма, дзед Яўген бачыў у бацьку такога сына, якога ў яго раней не было, але пра якога ён марыў?..

— Міш, а, Міш?..

— Я за яго.

— А колькі б ты хацеў дзетак?

— Ну мы ж гэта абмяркоўвалі ўжо сто разоў!..

— Ну, чыста тэарэтычна…

— Нават чыста тэарэтычна, зразумей, рана нам яшчэ заводзіць дзяцей…

— Заводзіць? Так сказаў, быццам пра цацкі механічныя.

— Ну, не заводзіць, нараджаць, якая розніца?!

— Вялікая.

— Гэта дэмагогія.

— О, якіх ты слоў нахватаўся ад бацькі. Глядзі, і без кніжак разумным станеш.

— Паслухай мяне. Пачуй хоць аднойчы!

— Ты так злуешся, нібыта я табе слова не дазваляю сказаць. Але добра, кажы, я абавязкова ўслухаюся.

— Мы не можам. Толькі не зараз. Умовы не тыя, неспрыяльныя.

— У тваёй маці адзінаццаць сясцёр і братоў. У якіх умовах яны нараджаліся і раслі?

— Тады былі іншыя часы.

— Во-во, хужэйшыя, чым сённяшнія. Што цябе так палохае ў нараджэнні сына ці дачкі, не разумею?

— Для пачатку нам трэба займець уласнае жыллё.

— Не бачу мінусаў у тым, што мы жывём у бацькоў, за выключэннем, канечне, тваіх пасядзелак з папкам.

— А я плюсаў.

— Ды што ты? Вось раскажу яму пра тваю заяву…

— Я паважаю Яўгена Пятровіча як чалавека, але дзіця — толькі наша з табой асабістая справа. Я лічу, што…

— Я, я, я, я… А маё меркаванне табе нецікава?

— Ты зусім незямны чалавек…

— Цікава-цікава. І да якой жа катэгорыі адношуся?

— Ты паветранае стварэнне, рамантычнае, кніжнае…

— Гэта зараз папрок такі быў?

— Не. Я хачу давесці табе, што дзеці — цалкам зямное.

— Ты думаеш, я не спраўлюся?

— Не ведаю. Але лічу, што пакуль нам не трэба абзаводзіцца лішнімі клопатамі.

— Дык ты гультай, атрымоўваецца! Старанна прыхаваны.

— Чаму адразу гультай?

— А хто?

— Я практычны чалавек.

— Дык ты, практычны чалавек, значыцца, не абрадуешся навіне пра тое, што хутка станеш бацькам?..

— Вядома, не абрадуюся… Чакай-чакай, што ты зараз сказала?

— Позна. Першае слова даражэй за другое.

— Паўтары, калі ласка, што ты сказала пра «хутка станеш бацькам»…

— Табе ж усё роўна, практычнаму чалавеку.

— Ты што, цяжарная?

— Табе-то што?

— Цяжарная ці не?

— Сёння цяжарная, заўтра аборт зраблю, і будзе так, як ты хацеў.

— Я не хацеў.

— Што не хацеў? Каб я зацяжарыла?

— Аборт.

— Цябе не зразумееш.

— Я насамрэч стану бацькам?

— Магчыма, я не ведаю.

— Ды не тамі ты, кажы праўду, а то сэрца лопне!

— Ну, калі ўсё станецца так, як я палічыла, то напрыканцы года можаш смела называць сябе бацькам, калі, вядома, мы не зробім аборт.

— Нават і не думай пра аборт! Я табе забараняю думаць пра аборт, чуеш мяне!

— Якія мы супярэчлівыя. Яшчэ колькі хвілін таму салаўём заліваўся!

— Я на самай справе стану бацькам?..

— Станеш-станеш.

— Калі народзіцца дачка…

— Чаму адразу дачка? Я сына хачу, таму будзе сын.

— Сын? У мяне будзе сын? Я так цябе кахаю, Волька! Чуеце, у мяне будзе сын!!!

— А як жа несвоечасовасць?..

— Самае то якраз! Паедзем у Крым на мора, набярэшся сіл на сонцы…

— Ведаеш, я тут падумала…
— Што такое?
— Давай у адпачынак паедзем да тваіх бацькоў.
— Ты сур’ёзна?
— Так. Зробім падарунак і будучаму дзіцёнку, і дзеду Івану з бабай Марусяй. Спадзяюся, мая цяжарнасць выклікае ў тваёй маці цёплыя пачуцці да нас усіх.
— А Яўгену Пятровічу і маме ты паведаміла?
— Разам скажам за вячэрай. Толькі моцна не напівайцеся з папкам…

Мама была ў захапленні ад маляўнічых мясцін бацькавай радзімы, куды напачатку лета яны прыляцелі самалётам з перасадкай у Маскве, пасля ехалі электрычкай з Мінска ў Райцэнтр, а з Райцэнтра — у Вёску шаснаццаць кіламетраў рэйсавым аўтобусам. Дарога да вёскі з райцэнтра цалкам праходзіла праз лес, і мама дзівілася праз акно аўтобуса на шыкоўныя зялёныя масівы. Ніколі раней яна не бачыла столькі зеляніны і нявольна ўявіла сябе, дзякуючы ўражанням, бероўзаўскай Джэйн у джунглях. Вось-вось аднекуль вызірне лахматая галава Тарзана. Вясковыя хаты паабапал дарогі і далей, па ўсёй Вёсцы, з першага позірку і да апошняга, асацыяваліся ў мамы з цукровымі рознакаляровымі пернікамі, імі карцела ласавацца бясконца. Багацце фарбаў і квяцістасць, якімі маму сустрэла Вёска, стваралі ўяўленне таго, што яна трапіла на выставу адной, але грандыёзнай карціны, якой немагчыма не захапляцца, тая насамрэч з’яўлялася шэдэўрам. Шэдэўрам прыроды — адзіным непераўзершаным і сапраўдным мастаком.
Усе хаты дагледжаныя, яркія, з разьбянымі налічнікамі асобага штукарства. Больш за тое, платы таксама выглядалі не горш за хаты. Такія ж яркія, пафарбаваныя, дзе-нідзе з выкшталцона выразаным проста на штыкецінах нацыянальным арнаментам. У Казахстане, калі параўноўваць, прыватныя сектары вартыя жалю нават у межах горада. Шэрыя, нязграбныя, непрыгожыя, у якіх, відаць, і жыццё вялося такое ж шэрае і бляклае. Мама прыгадала таксама некалькі дамоў у паселішчах, дзе давялося ёй пажыць да пераезду ў Шахцінск, з жу-

дасцю ўсвядоміўшы, што і тыя дамы нічым не адрозніваліся ад сённяшніх, тых, што ў прыватным гарадскім сектары. Зразумела, што прыгажосць і аздабленне ўласнага жылля ні ў кога на ўме не было, бо трэба было ўздымаць цаліну і працаваць, працаваць, працаваць… Але, калі задумацца, няўжо жыццё на тое толькі і даецца, каб увесь час працаваць? Класці на алтар выдуманага партыяй Бога сваё адзінае непаўторнае жыццё, у той час калі сама партыя адно карыстаецца пладамі гэтых ахвяраваных працы жыццяў і нават «дзякуй» нікому з іх не скажа? Гэта ж маё жыццё, і я маю права пражыць яго так, як я хачу, а не так, як загадвае партыя! Хто такая мне гэтая партыя? Калі яна замяніла Бога і паставіла сябе вышэй за яго, чым яна лепшая за таго Бога, якога скавырнула? Чаму я і кожны чалавек Савецкага Саюза павінен падначальвацца ёй? Што б сказаў папка, калі б пачуў падобныя разважанні дачкі, прамоўленыя ўголас? Забіў бы, відаць, бо для партыі недапушчальна, каб у ёй сумняваліся. Той, хто не з ёю, той супраць яе, а значыць, належыць знішчэнню, як маральнаму, так і фізічнаму. А пасля б забілі папку яго ж паплечнікі, бо ад заразы неабходна пазбаўляцца з коранем.

Мама здзівілася сваім думкам, нават спалохалася. Чаму яны раптам узніклі? Адкуль? Гэта не яе думкі! Яна так ніколі не разважала! Магчыма, беларускія краявіды паўплывалі на мозг, які ап’янеў ад чысціні паветра і водару ўрадлівай зямлі? Ад яблынь, што амаль ля кожнага плота стаялі ўтомленымі прыгажунямі, і галіны, нібы валасы, звешваліся праз плот і быццам расчэсвалі траву, ці прыгладжвалі, ці падмяталі?..

Мама прымусіла сябе праглынуць гэтыя думкі, як рыбін тлушч, і пазбавіцца ад іх раз і назаўсёды. У яе ўсё добра, яна маладая прыгожая жанчына, да таго ж цяжарная, і хвалявацца ёй нельга. Можна толькі радавацца і зараджацца ад бясконцай прыгажосці вакол пазітыўнымі эмоцыямі.

Сад у двары дзеда Івана і бабы Марусі выклікаў у мамінай душы нястрымны вокліч захаплення, прычым галасны. Не пытаючы дазволу (дый не было ў каго, бацькавы бацькі яшчэ не вярнуліся з працы: абодва рупіліся на карысць агульнай справы на цагельні), мама забегла ў сад, быццам у рай, нават ра-

зулася, каб адчуць пяшчотныя дотыкі шыкоўнага травянога дывана пад нагамі. Яна знайшла свой куточак раю на зямлі і захацела ў ім застацца назаўсёды. Неасэнсавана, навобмацак, але з першых хвілін знаходжання ў Вёсцы вырашыла, што сына (была ўпэўнена на сто адсоткаў) народзіць толькі на гэтай зямлі, райскай зямлі зеляніны і красак.

Двор, у якім стаяла хата дзеда Івана і бабы Марусі, дарэчы, даволі далёка ад брамкі, быў досыць вялікім. Паабапал яго, з аднаго боку рос сад, за якім хавалася хата, з другога — размяшчаўся гарод, значную частку каторага займалі суніцы, спрутам раскідаўшы па зямлі свае песцікі і тычынкі, і бульба, бацвіннем, нібы мадэль на подыуме, дэманстравала сваю прыгажосць. У значна меншай колькасці, але досыць унушальна выглядалі памідоры, гуркі, буракі, цыбуля, капуста, гарбузы, фасоля, гарох, радзіска, пятрушка, морква і нават сланечнікі з кукурузай, што калыхаліся ад свайго ж цяжару, узвышаючыся над усёй гароднінайраслліннымі жырафамі. І сад, і гарод, зразумела, агароджваў плот, каб тыя не разрасліся, бо дай ім волю, яны адразу адчуюць сябе цэнтрам сусвету і запалоняць сабой усё вакол. Наўпрост ад самай брамкі ў глыб двара, да хаты і спускалася далей, мінаючы сараі, дрывотню, майстэрню дзеда Івана і летні дамок, адмыслова залітая бетонам сцяжына. Няроўная, дзе-нідзе, быццам п'яная, віхляла ўбок. Яна адразу кідалася ў вочы, увогуле прымушала ў першую чаргу звярнуць на сябе ўвагу, але не выклікала смеху ці нейкага сарказму, наадварот, прыходзілася да душы кожнаму, бо валодала нейкай невытлумачальнай мілатой і свойскай непасрэднасцю, нібы жывая істота.

У двары, адразу за брамкай злева, бліжэй да гарода, сядзеў, быццам грыб, урослы ў зямлю ці, мабыць, узведзены ад зямлі, пограб, у якім захоўвалі бульбу, а таксама сельскагаспадарчы інвентар, кшталту кашоў, грабляў, кос, сярпоў, садовых нажніц, мяхоў з мешкавіны і з поліэтылену. Уздоўж садовага плата да самай хаты расцягнуліся складзеныя паколаныя дровы, накрытыя зверху рубероідам ад дажджу. Падобным чынам

насупраць месціліся дравяныя абрэзкі — ад пограба да самаробнага стала-камоды, за якім пузаціўся калодзеж, быццам казачны падзішах, пад навесам з разгалістай антонаўкі, што галінамі, нібыта агромністым апахалам, адганяла прэч шкоднае для яго сонца. На ўвесь стол, таксама прыкрыты рубероідам, разваліўся брудна-белы кот. Адна яго задняя лапа звісала са стала, а вялікі пухнаты хвост ляніва варушыўся, перавальваючыся з боку на бок, як той мядзведзь. Ён, то бок кот, нават не палічыў патрэбным прыўзняць галаву ці хаця б расплюшчыць адно вока, каб пацікавіцца, што за людзі з'явіліся ў двары, гэтак прыгрэўся на сонцы. Пад сталом ці, лепш, у стале, шчыльна прысунутыя адзін да аднаго, сумавалі без справы чугуны і чугункі, магчыма, ужо не прыдатныя да працы.

Пад яблыняй, прымацаваны да плота, што агароджваў гарод, вісеў алюмініевы рукамыйнік з цёплай вадой. Нагрэлася за дзень. Тут жа і летні дамок, зачынены на жалезны скабяны засоў крыж-накрыж. А насупраць хата з пеўнікамі на каньку, пафарбаваная знізу і зверху ў зялёны колер, пасярэдзіне — у жоўты, вокны — у белы. Зусім невялічкі ганак, нават не ганак, а прыступка з жалезнай рашоткай побач, каб ногі выціраць ад бруду. Такія ж мініяцюрныя сені ці, хутчэй, веранда з нізкай столлю і вокнамі па два бакі за ільнянымі фіранкамі-вышыванкамі. Вялікая кухня з печкай-ляжанкай, абкладзенай глянцавай на выгляд пліткай, два пакоі наўпрост. У першым — два ложкі, адзін драўляны, другі з жалезнай сеткай, пастаўленыя ўздоўж і ўпоперак. Побач з імі грубка. Каля акна — тэлевізар пад абрусам на тумбачцы, стол, крэсла, камода. У суседнім пакоі — два ложкі ўздоўж сцяны без вокнаў, адна шафа пасярэдзіне ў ролі шырмы, другая каля дзвярэй у пакой, канапа пад вокнамі, трумо, круглы стол, радыёкропка над трумо. І падлога, і сцены пафарбаваны ў карычневы колер, праўда, на сценах шмат сямейных фотаздымкаў і партрэтаў, сярод якіх мама пазнала малога бацьку ў насунутым на вочы каптуры, маладых дзеда Івана і бабу Марусю, відаць, знятых адразу пасля вяселля, прыгожых, прыбраных ва ўрачыстыя ўборы, прынамсі, баба Маруся так выглядала.

Яны паселі на канапу, паставіўшы чамаданы каля ног, быццам не збіраліся заседжвацца, а па першым жа патрабаванні зноў рушаць у дарогу. Мама адкінулася ўсё ж да спінкі канапы, насалоджваючыся адпачынкам. Сказвалася стомленасць падарожжам, да таго ж набліжаўся вечар. Бацька выглядаў бадзёрым, але за бадзёрасцю, верагодна, прыхоўваў хваляванне ад сустрэчы з роднай хатай, дзе нічога не змянілася за гады адсутнасці, нібыта ён і не з'язджаў адгэтуль нікуды, і з бацькамі, якія павінны былі неўзабаве з'явіцца. Што за сустрэча чакала іх? Як паставяцца да гасцей? Зразумела, што бацька папярэджваў аб прыездзе, не ўдакладніўшы канкрэтнай даты. Паведаміў, што прыблізна летам, бо сам не ведаў, ці атрымаецца. Шчыра кажучы, ён не хацеў везці маму ў Вёску. Яго паланіла думка пра мора, і маме лепш было б пагадзіцца на Крым. Ён разлічваў на тое, што яна перадумае ехаць у Вёску, што ляпнула пра яе не падумаўшы. Ды мама цалкам сур'ёзна паставілася да свайго жадання. Крым яе не цікавіў. Як ні адгаворваў, ні ўгаворваў бацька падумаць маму яшчэ раз, узважыць усе за і супраць, тая заставалася непахіснай. Прыйшлося яму падпарадкавацца, хаця нічога добрага ад паездкі дадому не чакаў. Ён інтуітыўна прадчуваў, што не трэба ім туды ехаць, а растлумачыць не мог. Ну што можна пабачыць выбітнага ў вёсцы, дзівіўся з мамы бацька, не разумеючы, чаму яе так цягне туды?! Мора накрылася медным тазам з-за звычайных капрызаў, як ён палічыў, цяжарнай. Не была б мама цяжарнай — не ўзнікла б ніколі праблема з адпачынкам і дылема з Крымам і Вёскай. А цяжарным пярэчыць нельга. Пра гэта бацька ведаў з дзяцінства праз мясцовыя забабоны. Нібыта ў таго, хто пакрыўдзіць цяжарную, мышы пагрызуць увесь дабрабыт і яго самога заадно, а дарогу ў дом крыўдзіцеля знойдуць толькі па ім адным вядомым хвалям, па якім, дарэчы, яны нейкім чынам даведваюцца і пра ўсе крыўды, нанесеныя цяжарным. Падчас адной з размоў пад чарку з дзедам Яўгенам, той пацвердзіў сапраўднасць гэтых забабонаў на ўласным прыкладзе. Неяк, у той час, калі дзед Яўген узначальваў «Заготзерно» ў Нурынскім раёне, да яго прыйшла прасіць зерне маладая цяжарная жанчына. Ён мог ёй дапамагчы як чалавек, але не меў права

па партыйнай лініі, бо зерне ж не яго, а грамадскае, і ён за тое зерне адказваў галавой. Нават за жменю, якую, нібыта, ніхто і не заўважыць. У выніку зерне паелі мышы, яшчэ і выхадны пінжак сапсавалі. Зразумела, шукалі вінаватых, раскручвалі справу па дыверсіі, але ніякімі фактамі, нават падтасаванымі, даказаць адмыслова запланаваную шкоду недабітымі ворагамі народа не ўдалося. У свіран, дзе знаходзілася зерне, ніхто знадворку зайсці не мог, бо і дзверы, і засовы, і замок на засовах былі некранутыя. Зерне не пакідала свіран ні сваімі нагамі, ні з дапамогай чужых. Яго з’елі грызуны, аб чым сведчыў мышыны памёт паўсюль і неглыбокая ямка ў тым месцы, дзе не залілі бетон: ці цэменту не хапіла, ці не заўважылі, ці гэты цэмент выкарысталі не па прызначэнні калі будавалі свіран. Так што ворагамі апынуліся мышы, і КДБ мусіў рэтыравацца, згарнуўшы сваю нечалавечую дзейнасць у рулон. Дзед Яўген здагадаўся, у чым прычына знікнення зерня, амаль адразу. Але ж КДБ не распавядзеш пра забабоны. Паляціш да д’ябла з пасады ў лепшым выпадку. А то і ў псіхушку запратораць. Рабіць душэўнахворых з нармальных людзей яны мастакі.

Дзедаву байку бацька не забыў, хоць і не паверыў у яе праўдзівасць. У размовах той звычайна прытрымліваўся прытчавай манеры, таму цяжка было зразумець, дзе ён распавядаў пра сапраўдныя падзеі, а дзе трошкі сачыняў. Тым не менш бацька прыпыніў упарціцца і зрабіў так, як хацела мама.

— Ну, што, трэба прадукты на кухню занесці, мабыць, — звярнуўся бацька да мамы, але было незразумела, ці пытаўся ён у яе, ці прапаноўваў, ці канстатаваў факт.

— Ой, канечне! — учапілася за бацькавы словы мама, не зусім ёмка, ды што там — зусім няёмка адчуваючы сябе ў чужой хаце на чужой канапе няклікаsuccessfully госцем. Вось-вось, здавалася, аднекуль выкуляцца мядзведзі, як у адной народнай казцы, і пачнуць трэсці яе, патрабуючы адказу, чаму яна сядзела на іх упадабанай канапе і памяла яе.

Мама борзда, як дзяўчынка, падхапілася з канапы і імкліва падалася ў кухню. Бацька з прадуктамі (каўбасой, фруктамі, свежымі памідорамі, шакаладнымі цукеркамі, гарэлкай і віном)

у двух пакетах з адлюстраваннем Пугачовай паспяшаўся следам. Паставіўшы пакеты на крэсла побач з кухонным сталом, зазірнуў у каструлі, што пузаціліся на газавай пліце. Тыя каструлі апынуліся альбо пустымі, альбо з нечым, ці-то з супам, ці-то з баршчом на дне.

— Можа, бульбы наскрэбці ды адварыць? — павярнуўся да мамы, якая вымала прадукты з пакетаў. — Бацькі прыйдуць галодныя, а тут мы… з сюрпрызам…

— Давай, — адразу пагадзілася мама і тут жа запытала: — Толькі дзе тая бульба?

Бацька адышоў да печы і выцягнуў з закутка паміж печчу і сценкай вялікі кош з бульбай, з задавальненнем адзначыўшы, што дарослыя амаль ніколі не мяняюць сваіх звычак, асабліва тых, якія тычацца хатніх спраў. Ён паднёс яго да лавы з вадой у двух вёдрах, што падпірала сцяну побач з плітой, і паставіў на падлогу, з-пад стала выцягнуў вядро для смецця, каб было куды кідаць лупіны, з пліты зняў пустую каструлю, падсунуў да прадуктаў на стале, для ачышчанай бульбы.

Мама наліла ў каструлю вады з вядра і паставіла яе каля каша з бульбай, села на зэдлік, узброіўшыся нажом, працягнутым бацькам, і пачала скрэбці. Лупіны пад яе рукой закручваліся ў своеасаблівую гірлянду, але не вытрымлівалі свайго ж цяжару і цяжка падалі, нават, чулася, стогнучы, у смеццевае вядро.

Бацька апаражніў пакеты і шамацеў імі ў руках, не ведаючы, куды падзець. Затым паклаў іх на крэсла, зняў з цвіка каля акна раздзелачную дошку, з шуфляды ў стале ўзяў яшчэ адзін нож і збіраўся парэзаць памідоры і каўбасу.

— Не трэба, Міш, — папрасіла яго нічога не рабіць мама. — Я сама.

— Сама дык сама, — нават узрадаваўся бацька, бо рэзчык з яго быў так сабе. Гэта жанчыны ўмелі прыгожа парэзаць што заўгодна ды яшчэ і стол сервіраваць, як у рэстаране, прычым усе жанчыны, відаць, у іх тое ўменне ў генах закладзена. Бацька як ні намагаўся навучыцца сталовай эстэтыцы, але нічога не атрымалася ў яго. Між іншым, і я пахваліцца падобным не магу, у адрозненне ад брата. Той не толькі можа прыгожа парэ-

заць будзь які фрукт ці гародніну, ці каўбасу, але і смачна прыгатаваць любую страву, асабліва ўдала ў яго атрымліваюцца торты, у прыватнасці «Напалеон».

Бацька тады падышоў да дзвярэй, збіраючыся выйсці на вуліцу. Ён нерваваў, хоць гэтага і не было бачна, а таму хацеў курыць. І чым бліжэй падкрадаўся вечар, тым мацней рабілася нерваванне. Яму не падабалася тое, што зараз адбывалася, што мама мусіла чысціць бульбу, што бацькі былі на працы і маглі затрымацца каля крамы і ўвогуле прыйсці вясёлымі. Пятніца ж, цалкам магчыма ўсё. Добра, што мама выхавана ў прастаце, хоць далёка не з простай сям'і родам. Іншая хутчэй за ўсё ўжо б скандаліла… А вінаваты ва ўсім толькі ён, не прадугледзеў, не падумаў, не падрыхтаваў…

— Ты куды? — заўважыла бацькаў намер мама і занепакоілася.

— Ды нікуды, — заспакойваючы яе, адказаў ён. — Выйду на двор, пакуру.

— А мяне адну тут пакінеш? — нібы ўпікнула мама.

— Я ж побач, каля ганка, нічога страшнага…

— Ага, нічога страшнага! — сцепанула мама плечыкамі. — А раптам тут прывіды!..

— Ну якія прывіды, — усміхнуўся бацька. — Меней чытай гэтыя раманы… А хочаш, хадзем разам, нікуды бульба не ўцячэ, — раптам прапанаваў.

— Хачу! — паднялася мама з зэдліка, паклала нож на стол, абцерла рукі аб нейкі рушнік, што ляжаў каля вёдраў з вадой, і прытулілася да бацькі.

— Ты такая баязліўка?! — абняў яе бацька. — Дачка гераічнага чалавека, а спалохалася невядома чаго…

— Баягузка, — пацалавала яго мама.

Яны выйшлі на двор. Бацька закурыў у цяньку пад яблыняй. Мама, абхапіўшы сябе абедзвюма... 

пабудова нагадвала памешчыцкую сядзібу, ва ўсялякім разе мама менавіта такой уяўляла яе сабе, калі чытала раманы Тургенева, з калонамі па баках, з флігелямі, чарапічным дахам чырвонага колеру і клумбамі з экзатычнымі кветкамі ўздоўж асфальтаванай сцежцы, што вяла да груваздкага на першы погляд ганка, праз які дзеці траплялі да дзвярэй ведаў. Мама нават на хвіліну пазайздросціла вучням гэтай школы, бо прыгожае звонку заахвочвала верыць у тое, што і ўнутры не горш. Тая школа, у якой вучылася мама, нічым асаблівым не вылучалася сярод іншых школ Шахцінска. Усе яны былі аднолькавымі — несамавітымі прысадзістымі каменнымі баракамі без гісторыі і цікавостак. Адзінае, што шматгалосымі, бо дзяцей у горадзе налічвалася аграмадная колькасць і вучыліся яны ажно ў тры змены. А яшчэ ж у кожнай школе мелася і вячэрняя, для дарослых, якія не паспелі атрымаць сярэднюю адукацыю па незалежных ад іх прычынах.

Мама ўздыхнула, развітваючыся ў думках з дзяцінствам, міжвольна ўзгаданым. У гэты ж момант проста над яе галавой нізка-нізка праляцеў бусел, трымаючы ў дзюбе вужаку, што намагаўся вырatavацца і вырабляў розныя выкручастыя фігуры, быццам акрабат пад купалам цырка. Рабыя куры клявалі зерне, пасыпанае пад вокнамі хаты, і корпаліся ў зямлі, нібы геолагі. Іх брыгадзір, пярэсты тлусты певень, паважна і ганарліва хадзіў крыху воддаль, назіраючы за імі збоку. Белы кот, што, падалося, не саскочыў з камоды-стала, а споўз, наблізіўся насцярожана да мамы, ткнуўся носам у яе шчыкалатку, хрыплавата мяўкнуў і пацёрся галавой аб яе нагу. Мама прысела на кукішкі, пагладзіла ката, усміхнулася яму. Той, выгінаючыся дугой ад задавальнення, пазіраў на яе аграмаднымі жоўта-карычневымі, як піва, вачыма, пасля замуркатаў ці, дакладней, затарахцеў, што трактар. Мама рассмяялася, бацька таксама не стрымаў усмешкі. А кот і рады старацца, адчуўшы прызнасць і ўвагу да сябе.

Нечакана пачулася, як бразнула клямка засаўкі ў брамцы, і ў двор прайшлі бацькавы бацькі, але спыніліся на паўдарозе, быццам аслупянелі, пабачыўшы гасцей.

Мама выпрасталася ва ўвесь рост і таксама замерла, нібы яе зачаравалі.

Бацька рушыў насустрач бабе Марусі і дзеду Івану. Параўняўшыся з імі, парукаўся з адным, другую абняў і сказаў:

— Здраствуй, маці!

— Здароў, — адгукнулася тут жа баба Маруся, пазбавіўшыся здранцвення. — А чаго гэта ты тут? — запытала, нібы не зусім радая была сыну.

— Я ж вам пісаў, — не разумеў халоднага прыёму бацька, — што прыеду да вас у адпачынак з жонкай. Вы што, ліста не чыталі ці не атрымоўвалі?

— Чыталі, — не адмаўлялася баба Маруся. — Ляжыць недзе той ліст пад праграмай, кажацца. — Позірк на дзеда Івана.

— Мы вельмі рады, сынок, — сказаў той да бацькі, — канечне, што вы прыехалі. З працы проста, стаміліся, туга саабражаем.

Ён абмінуў бацьку, пакінуўшы жонку на яго, і паспяшаўся да мамы. Павітаўся словамі з ёю, зрабіў на пальцах «айн момант», чым рассмяшыў нявестку, памыў рукі пад рукамыйнікам, тады зноў вярнуўся да мамы, і яны абняліся.

Падышлі і баба Маруся з бацькам.

— Дабро пажалаваць! — працягнула маме баба Маруся абедзве рукі з пігментнымі плямамі каля пальцаў.

Мама паціснула іх. Ёй падалося, што баба Маруся была шчырай.

Дзед Іван запрасіў усіх у хату, акрамя ката, на якога тупнуў нагой. Той пакрыўджана мяўкнуў, з годнасцю вярнуўся на стол-камоду і разваліўся на ім, нервова, аднак, махаючы хвастом.

Баба Маруся прыемна здзівіла маму. Адносілася да яе ветліва і цёпла, цалкам магчыма, што з-за цяжарнасці нявесткі. Усё ж першага ўнука ці ўнучку насіла. Мама ўвіхалася па гаспадарцы, калі гаспадары сыходзілі на працу, гуляла па вёсцы з бацькам, хадзіла на мост з ім і на Нёман. Пра Раю Зімоўскую яна нічога не ведала, а бацька расказваць пра сваё першае каханне ёй не палічыў патрэбным. Думаў, што пакінуў яго ў

мінулым жыцці. Ды мінулае ніколі не адпускае проста так, вяртаецца, калі яго не чакаеш, напамінае пра сябе ў самы непадыходзячы момант. Бацька ведаў, што сустрэчы з Раяй не абмінуць, не хацеў толькі, каб пры маме. Аднак супакойваў сябе, што нічога страшнага не адбудзецца. З чаго ён увогуле ўзяў, што Рая будзе шукаць сустрэчы з ім? Прайшло дастаткова часу, каб усё забыць і жыць сваім жыццём і яму, і ёй. У першую чаргу ёй.

Яны сустрэліся на трэці дзень гасцявання ў Вёсцы. Дзякуй Богу, не ў прысутнасці мамы. Сутыкнуліся літаральна ілбамі на парозе крамы. Бацька адно ўваходзіў, адчыніўшы дзверы, Рая выходзіла. Абодва замерлі на колькі секунд, але вочы іх замянілі мову сабой і такімі красамоўнымі больш ніколі не былі. Рая выглядала шыкоўна, сапраўдная прыгажуня, годная адлюстроўваць сучасную савецкую жанчыну на вокладках сусветных часопісаў. Бацька нават пазайздросціў Зімоўскаму на імгненне. Вось каго трэба ў кіно здымаць, а не трымаць у глухмені прывязанай да ўласнай гаспадаркі, мужа і дзяцей. Цікава, колькіх яна паспела нарадзіць?

Рая разгубілася, пабачыўшы бацьку, якога ніяк не чакала сустрэць у Вёсцы, ведаючы, што той даўно з’ехаў у Казахстан і носа адтуль не кажа. Яна не забыла яго і, самае галоўнае, не намагалася забываць. Таму апамяталася першаю, схапіла за руку і пацягнула за сабой у падсобку. Рая працавала ў гэтай краме прадавачкай, але ў іншую змену, зайшла ж, як звычайная пакупніца, і не дарэмна. Яна зачыніла падсобку на ключ і кінулася да бацькі з палкімі пацалункамі, якія ён прыняў і, больш за тое, з не менш палкай удзячнасцю адказваў на іх. Раіна прыгажосць, толькі расквітнелая з узростам (ды які там узрост у дваццаць шэсць гадоў!), накаўтавала яго з першага ж удару. Ён здаўся без бою і не шкадаваў пра паразу. Ды ці паразу? Пра маму ў той момант бацька не помніў, як не помніў і пра будучае дзіця, якое мама павінна была яму нарадзіць.

— Адкуль ты тут? — насалодзіўшыся забароненым плодам, пацікавілася Рая.

— У адпачынку, — прызнаўся бацька.

— Адзін? — дапытвалася Рая.

Тут бацька ўзгадаў пра маму, замуляў губамі, адвёў вочы ўбок. Сорамна яму не было, было прыкра за тое, што мама можа даведацца пра яго і Раю не ад яго. Што не расказаў пра Раю своечасова, аб чым зараз пашкадаваў: нашмат прасцей было б адбрэхвацца ад розных абвінавачванняў і нагавораў, якія абавязкова ўзнікнуць, бо гэта ж вёска.

— Не адзін, — працадзіў.

— Жаніўся? — зразумела Рая.

— Не табе ж адной мець сям'ю, — прамовіў бацька.

— Я не асуджаю, — паспяшалася апраўдацца Рая, — проста…

— Ніякага проста, — адсек бацька.

— Кахаеш яе?

— Жаніўся ж.

— Слаба кахаеш, калі са мной цяпер, — бязлітасна прамовіла Рая, нібы адпомсціла за пражытае без яго.

— Не табе судзіць, — прашаптаў бацька.

— Памыляешся, якраз мне, — абвергла яго Рая. — Ты мой, Мішка, з гэтай хвіліны, з усімі сваімі вантробамі і таямніцамі, — запэўніла.

Бацька не ведаў, што рабіць. Яго цягнула да Раі з неверагоднай сілай, чаго ён зусім не чакаў і не быў гатовы да гэтага. Ён не разумеў самога сябе, бо каханне да яе пахаваў шмат гадоў таму і нават забыў дарогу да магілы. Нейкім чынам яно выкараскалася на свет, уваскрэсла, нібы Хрыстос, ці, хутчэй за ўсё, увогуле не памірала, а прытварылася мёртвым, як вампір, і цярпліва чакала свайго часу. Аднак паверыць у падобнае немагчыма. Гэта проста ачмурэнне, насланнё нейкае. Бацька кахаў маму. Яна цяжарная і патрабуе да сябе належнай увагі, бо носіць пад сэрцам яго сына. А хто такая Рая? Чужая жонка, маці чужых дзяцей. Ды няўжо яго каханая жанчына? А мама? Як ёй глядзець у вочы? Ён жа не хацеў сюды ехаць, адгаварваў яе. Былі б зараз на моры, і не ўзнікла б ніякая Рая з яе каханнем. А так… што ж цяпер? Трэба неадкладна з'язджаць, вяртацца ў Казахстан, пакуль нічога не разбурылася. Ратаваць і сябе, і маму.

Бацька запытаў у яе, калі яна думае ехаць дамоў. Адказ агаломшыў. Яна збіралася заставацца тут, у Вёсцы, жыць! Ёй так спадабалася прырода, чыстае паветра, цішыня, спакой, але больш за ўсё — школа, якая, аказваецца, была пабудавана на ўласныя сродкі беларускім паэтам Якубам Коласам, між іншым, ураджэнцам гэтых цудоўных мясцін. Чаму бацька ніколі не расказваў ёй пра знакамітага земляка? Іх з бацькам дзеці павінны нарадзіцца тут і вучыцца таксама тут, у школе, пабудаванай класікам. Вось чаму будынак школы такі прыгожы і падобны на маленькі палац. Магчыма, Колас не толькі прафінансаваў будаўніцтва, але і прымаў непасрэдны ўдзел у праектаванні. Верагодна, і настаўнікі ў школе выдатныя. Ніякіх іншых, мама не сумнявалася, у такой школе проста не магло быць.

Аргументы пахіснулі зямлю з-пад бацькавых ног. Адчай авалодваў ім з прагнасцю плюшча. У вачах пацямнела. Катастрофа здавалася немінучай. Ніякія абвяржэнні, доказы адваротнага на маму не дзейнічалі, і яна дзівілася бацькавай пазіцыі, бо разлічвала на яго падтрымку і разуменне, тым больш што сваім рашэннем думала парадаваць яго. Застацца жыць і працаваць на зямлі, падараваўшай ёй мужа, — ці ж гэта не радасць для яго? Нараджаць дзяцей на радзіме мужа — ці ж гэта дрэнна?

Бацька ўчапіўся за апошнюю саломінку, нагадаў, што ўсё адно трэба вяртацца ў Казахстан хаця б дзеля таго, каб звольніцца яму з шахты, ёй — з бальніцы, забраць дакументы і шмат чаго іншага зрабіць. Ён спадзяваўся завезці маму ў Шахцінск, а там яна сама перадумае. А калі не сама, то гераічны дзед паўплывае.

Мама запярэчыла, што неабходнасці вяртацца ў Шахцінск абодвум няма. Бацька можа з’ездзіць і адзін, уладкаваць іх агульныя справы і пасля прыехаць да яе. Самае дзіўнае, што баба Маруся падтрымала нявестку. Сказала сыну, каб не выдумляў і рабіў гэтак, як жонка кажа. Куды ёй цяжарнай? Хоць і не відаць яшчэ добра жывата, але лішняга стрэсу і нагрузак лепш пазбягаць. І чаго гнацца за свет? Хіба ў Вёсцы няма работы? Ці аўтобусы не ходзяць у горад? Ходзяць, ды яшчэ як, кожную гадзіну, лічы. Баба Маруся нават уявіць сабе не магла,

ад каго ўцякаў бацька. Яна забыла пра Раю, бо шчыра верыла ў тое, што паміж імі даўно і назаўжды яма, якую ні яму, ні ёй ніколі не пераскочыць, каб быць разам.

Бацька не верыў сваім вушам. Калі гэта паспелі так паразумецца баба Маруся з мамай? Але ён скарыўся, прыняў удар лёсу. Паведаміў Раі пра рашэнне жонкі на наступны ж дзень у краме перад самым абедам. Рая якраз зачыняла дзверы на гадзіну. Рашэнне маміна яе ўсцешыла, а затым супакоіла. Бацька цяпер заўсёды будзе пад бокам. Яны дамовіліся сустрэцца ў Райцэнтры, калі бацька паедзе ў Казахстан. Ён сядзе ў аўтобус, напрыклад, удзень, Рая крыху пазней, хатнім скажа, што неадкладна выклікалі ў райпо, праблем не ўзнікне. Бацька здыме нумар у гасцініцы, і яны прабавяць ноч разам, належачы толькі адно аднаму. А пасля такіх начэй будзе больш. Яны ж годныя таго, каб на іх звярнула ўвагу шчасце, ці не так?..

Мама, між тым, знаходзілася ў нейкім элегічным ці нават ідылічным стане. Напэўна, адчувала, што трапіла ў зямны рай. Слухала песні птушак, сонца і неба, быццам самы круты сімфанічны аркестр у Крамлі, размаўляла з катом, вулічнымі сабакамі за плотам, пчоламі і восамі ў садзе, як з міжпланетнымі прышэльцамі, якія, дарэчы, разумелі яе і прымалі за сваю. Дзед Іван ва ўсім падтрымліваў маму, дапамагаў, калі яна прасіла, і тым больш калі не прасіла. Баба Маруся таксама не абдзяляла ўвагай, але асабліва не назаляла, каб не надакучыць. Неяк распавяла, як ёй давялося, скончыўшы ўсяго два класы польскай школы, ісці да пана пасвіць каровы. Татка з маткай не палічылі патрэбным працягваць адукацыю дачкі, бо не бачылі імпэту да вучобы, і таму адправілі ў школу іншае дзіця. Не хочаш вучыцца — ідзі працуй. У дзесяцігадовым узросце баба Маруся апынулася за Нёманам зусім адна ў чужой заможнай сям’і ў якасці прыслугі. Гаспадарскія дзеці выглядалі анёлкамі ці зефірамі — чысценькімі, гладзенькімі, беленькімі — з прыгожымі кніжкамі ў руках. Яны пагарджалі нават позірк спыніць на заўсёды мурзатай дзяўчынцы з-за Нёмана, ад якой да таго ж непрыемна патыхала каровамі. Яна працавала за ежу і начлег, грошай ёй ніякіх не плацілі. З тых часоў баба Маруся нена-

відзела белы колер і кніжкі, асабліва дзяўчат дый жанок, якія захапляліся чытаннем. Ні ў якім разе яна не жалілася маме на лёс, проста выпіла крыху пасля працы, на што мела законнае права, а пагаварыць не было з кім, акрамя нявесткі, прынамсі, у той момант. Баба Маруся шкадавала сябе, забыўшыся на маміну прысутнасць, чаго ніколі не даруе ёй. Як назло, ні дзеда Івана, ні бацькі ў хаце не было, каб спыніць хвалю ўспамінаў, перакручаных зласлівасцю і з'едлівасцю, нібы фарш у мясарубцы. Адзін бавіўся на двары, другога мама праводзіла на аўтобус. Яна верыла, што хутка ў яе з бацькам будзе ўсё цудоўна. У іх і так было ўсё цудоўна, але будзе прыўкрасна, як толькі бацька вернецца, развітаўшыся з мінулым жыццём, каб распачаць новае.

Аднак бацька не жадаў развітвацца з мінулым, якое накрыла яго, як цунамі. І да новага жыцця адносіўся з насцярогай. Зрэшты, ён прыняў збег неўтаймаваных акалічнасцей як непазбежнасць і супакоіўся. Што будзе, тое будзе. І што б ні адбылося, ён не вінаваты. Усё, што залежала ад яго, зрабіў, і нават больш, але ніхто яго не пачуў.

Бацька сышоў з аўтобуса на аўтавакзале, пабачыў жоўтую цыстэрну на колах з квасам убаку і невялікую чаргу да яе. Раптам захацелася, ды так нясцерпна, халоднага квасу, да таго ж і гарачыня стаяла амаль такая ж, як у Казахстане, анамальная нейкая. Ён падышоў да чаргі, спытаў, хто апошні, і стаў за ім, не выпускаючы з рукі чамадана, які сабрала ў дарогу мама. Нечакана за спінай пачуў мужчынскі голас, які звяртаўся непасрэдна да яго:

— Мішаня, ты што ль?

Бацька павярнуўся на голас і пазнаў дзядзьку Валодзю, малодшага брата бабы Марусі. Але што ён тут рабіў? Вывучыўшыся на чырвонадрэўшчыка ў Мірскай вучэльні, старэйшы за бацьку на гадоў дзесяць дзядзька Валодзя не захацеў працаваць на роднай зямлі і падаўся на Поўнач за вялікімі грашыма, як казалі ў народзе. Нічога дзіўнага і супрацьпраўнага. Баба Маруся таксама ў маладосці зарабляла грошы за светам, дзе і бацьку прыжыла. Напэўна, дзядзьку Валодзю падабалася ў

Нарыльску, бо прыязджаў ён на радзіму вельмі рэдка, ды, як кажуць, трапна. Вось і цяпер пацэліў. Не ў брыво, а ў вока. Шалэйкаўская парода, трэба адзначыць, дужа пазнавальная. Усе яе прадстаўнікі знешне неверагодна падобныя адзін да аднаго, абмыліцца немагчыма.

— Здароў, Валодзя, — працягнуў бацька руку родзічу, якога ніколі дзядзькам не называў, бо той сам прасіў не называць яго дзядзькам.

Сваякі парукаліся.

— Ты як тут? — адразу ж запытаў дзядзька Валодзя.

— У адпачынку, — прызнаўся бацька. — А ты? — таксама пацікавіўся.

— І я, — адказаў дзядзька Валодзя і дадаў: — Спыніўся ў гасцініцы…

— Прыехаў дамоў, а жывеш у гасцініцы? — пасміхнуўся бацька і скрушліва адзначыў, што яму ў гасцініцу совацца нельга. Сваякі самы балбатлівы бездротавы тэлефон. Не жадаючы нават, але абавязкова прагаворацца.

— Якое дамоў? — не пагадзіўся дзядзька Валодзя. — Я ўвогуле не разумею, што тут раблю і чаго прыехаў. Вось нешта грукнула ў галаву — і я ў самалёт. А на самалёце — доўга што лі?..

Падышла бацькава чарга, і ён узяў вялікі куфаль з квасам, адышоў убок, прагна пачаў піць, робячы вялікія глыткі і апякаючы халодным напоем горла. Дзядзька Валодзя закурыў побач.

— Будзеш? — прапанаваў бацька квасу яму.

Дзядзька Валодзя ўзяў куфаль, зрабіў некалькі глыткоў і вярнуў яго бацьку.

— Квасам душу не падманеш, — тужліва вымавіў. — А чаго з чамаданам? — без пераходу спытаўся.

— Ды назад у Казахстан еду, — адказаў бацька.

— Наадпачываўся? — выказаў здагадку дзядзька Валодзя.

— Калі б так, — уздыхнуў бацька. — Хутчэй за ўсё зноў тут жыць буду. Звальняцца еду.

— ?

— Ды жонка захацела, а я адмовіць ёй не магу, бо цяжарная.

— Ну тады гэта лёс, — вымавіў дзядзька Валодзя, — сустрэцца нам з табой тут неспадзявана. Калі яшчэ пабачымся! Трэба адзначыць сустрэчу, я частую…

Бацька не мог адмовіць. Тым самым забіваў двух зайцоў. Ён адразу зразумеў, што з Раяй нічога не атрымаецца, як толькі пабачыў дзядзьку Валодзю, а ўпэўніўся ў гэтым, калі пачуў, што той жыў у гасцініцы. Сведкі ні бацьку, ні тым больш Раі не былі патрэбны. Іншым разам як-небудзь. Цэлае жыццё наперадзе. А з тае прычыны так выпіць захацелася, дый з дзядзькам Валодзем даўно не бачыліся…

— Тут піўнуха неблагая на рагу ёсць, — унушаў дзядзька Валодзя Мефістофелем. — Пасядзім-пастаім за сустрэчу, а пасля правяду цябе на цягнік…

— Хадзем, — уздыхнуў бацька, згаджаючыся, дапіў квас, вярнуў куфаль прадавачцы і рушыў за дзядзькам Валодзем.

Піўная, размешчаная непадалёк ад хлебнай крамы, паглынула бацьку з дзядзькам Валодзем, быццам пашча монстра. Яны апынуліся нібы ў іншым свеце, задымленым, пракураным, шумным, але, на дзіва, прахалодным. Мужчыны ўсіх узростаў, потныя і чырвоныя, рыхтык пасля лазні, выпучыўшы вочы, агітавалі за жыццё, не за палітыку, як звычайна. Нехта біў сябе ў худую кастлявую грудзіну, намагаючыся давесці сваю праўду нябачнаму суразмоўцу. Нехта выдзіраў апошнія валасы з пляшывай галавы і спрабаваў у каторы раз завязаць іх на вузел. Нехта здзекліва пасміхаўся, назіраючы за тым, што адбывалася вакол. Нехта пляваў у чужую шклянку, калі яе гаспадар раптам адварочваўся. Ва ўсіх на сталах ільсцінілася луской кілька, зваблівачы, быццам танная прастытутка, пакаштаваць сябе. Ёй бесперапынна адрывалі галаву і выдзёргвалі вантробы, пальцамі, нібы нажніцамі, разразаючы шлунак. Не іначай, уяўлялі сябе героямі французскай Камуны, што распраўлялася з Марыяй-Антуанетай. Твараў тут не было. Адныя маскі, як у пачварным, вычварным японскім тэатры на славянскі капыл. І кожная маска з выразам пакутніка. Амаль ва ўсіх — дрэнныя зубы. Гніллю патыхала з кожнага рота, і кожны гніў зажыва, саромеючыся сваёй усмешкі, прыкрываючы яе закарэлымі, мазолістымі, пасечанымі, нібы гранатавымі аскепкамі, жыц-

цём і доляй далонямі з сінім татуяваннем, марскім альбо, хутчэй за ўсё, зэкаўскім у каго-нікаго. Чорныя, пабітыя каменем, адбітыя, як ныркі, зубы адной маскі змяняліся іншымі, паламанымі, быццам рэбры, жоўтымі, з карычневымі плямамі на эмалі, жалезнымі, дзіравымі, дуплістымі… У некаторых зубы калываліся, як старыя слупы. Іх выцягвалі напаказ і ўстаўлялі назад, быццам фішкі. Вочы таксама не адрозніваліся чысцінёй ці глыбінёй прыгажосці. Выцвілыя, высахлыя, як непатрэбныя забытыя калодзежы, бляклыя, без святла і надзей, з чырвонай павуцінай вен на бялках і лімонным адценнем у кутках, з якіх выкатваліся ртутныя шарыкі слёз, магчыма, самых сапраўдных і шчырых, нягледзячы на алкагольны рэй. Здароўе тут было пад забаронай. Здаровыя арганізмы сядзелі ці стаялі не ў піўной, падобнай да гэтай, а ў ЦК, райкаме, райвыканкаме, пракуратуры… І прыгажосць тут таксама не мела шансаў на поспех, бо ператварылася б у пачвару за лічаныя секунды аднымі толькі вачыма, звернутымі да яе. А выпацканая ў бруд — каму яна патрэбна ў ЦК?..

Навошта дзядзька Валодзя прывёў бацьку ў такую піўнуху? Напэўна, ён і сам не ведаў. Ці хацеў упэўніцца і заручыцца сведкам таго, што не звар’яцеў. Яны ж жылі ў самай цудоўнай краіне на зямлі, дзе на кожным кроку афішавалася ўсечалавечая роўнасць. Адкуль тады столькі болю і агіды ў адным-аднюсенькім памяшканні? На гэтае пытанне ні ў кога адказу не знайшлося. Дакладней, адказы былі, у кожнага свой, аднак іх ніхто не агучыў, бо ніякай роўнасці ўсечалавечай не існавала ніколі і не будзе існаваць. А словы — усяго толькі словы. Імі не выратуеш ад пакут і не вылечыш ніводнай хваробы. Магчыма, дапамог бы Бог. Ды яго адмянілі, як непатрэбны курс. Хіба можна адмяніць зоркі, неба, сонца, поўню? Гэта ж тое самае. Зруйнавалі храмы, прыдумалі партыю, і, калі не ў партыі, ты — недачалавек, горш за тое, — вораг. Хто быў нічым і нікім, той і застаўся на месцы. Яго выкарысталі і забыліся. А паспрабуеш рыпнуцца, каб напомніць пра сябе, — увогуле знікнеш фізічна.

За падобныя размовы яшчэ зусім нядаўна расстрэльвалі без суда і следства. Гэтым разам абышлося выцвярэзнікам. Раніцай бацьку з дзядзькам Валодзем адпусцілі, выпісаўшы

квітанцыю аб аплаце за начлег. Панурыя, яны рушылі да чыгуначнага вакзала. Размаўляць не хацелася, бо і на душы, і ў роце нібыта погань нейкая панавала і так скакала там, быццам малпа ў джунглях з дрэва на дрэва. Твары і вопратка абаіх выглядалі як адно памятае цэлае, ад якога карцела пазбавіцца, але стрымлівала нейкая агульная салідарнасць.

Нарэшце дабрылі да вакзала. Пахмяліліся. Крыху адпусціла, дыхаць стала вальней. Дзядзька Валодзя пасадзіў бацьку на цягнік і знік з яго жыццёвага поля ажно на пятнаццаць гадоў. Ён вярнуўся ў Вёску з поўначы следам за намі. Бацька прытуліўся да акна і заплюшчыў вочы, склаўшы на грудзях рукі. Ён шкадаваў пра спатканне, якое не адбылося ў іх з Раяй, аднак і рады быў адначасова гэтаму. Пра тое, як пачувала сябе Рая, не спаткаўшыся з ім, намагаўся не думаць. Верагодна, не соладка. Хаця…

Раі давялося зняць нумар у гасцініцы, каб пераначаваць. Не ехаць жа дамоў. Яна чакала бацьку, доўга чакала, з віном і фруктамі. Хацела, каб у іх было, як у людзей. Не выйшла.

Рая адна выпіла віно, панадкусвала фрукты, абліваючы іх слязьмі, раскідала па нумары. Яна не кляла бацьку, не злавала на яго, злавала на сябе. Потым заснула, п’яная, не распранаючыся, прыціскаючы да грудзей пустую бутэльку з-пад віна, як у дзяцінстве плюшавага мішку.

Звольніўся бацька без асаблівых перашкод, калі не ўлічваць падпісанне абходнага ліста: давялося папахадзіць па розных кабінетах. У ваенкамаце параілі першапачаткова прыпісацца да мясцовага ваенкамата, каб не ўзнікла непатрэбных нікому праблем, а пасля ўжо ўладкоўваць астатнія справы. Маму таксама звольнілі без затрымак, нават выплацілі разлік праз два дні, зразумела, у бацькавы рукі. Дзед Яўген не ўхваліў рашэнне дачкі, але насуперак не пайшоў, дый позна нешта было мяняць. Адзінае, што ён мог, — дакорліва пазіраць на бацьку і не прапанаваць па пяцьдзясят. Бацька і не набіваўся, прыходзіў дамоў падвечар, зранку сыходзіў. Адчуваў сябе няўтульна ў кватэры цесця. Ад інтэрната ж давялося адмовіцца, калі падпісваў абходны ліст. Добра, што Танюха сумаваць не да-

зваляла. Падтрымлівала бацьку і праводзіла разам з ім увесь яго вольны час. Часцей за ўсё яны гулялі па парку, ласуючыся марожаным. Дзяўчынка дзеля бацькі наладжвала сапраўдныя спектаклі. Узбіралася з нагамі на скамейку, на якую раптам сядалі, праходзячы міма, і нечакана ператваралася, напрыклад, у Пугачову. Узлахмачвала валасы, агрэсіўна ўпірала рукі ў бакі, выпячвала наперад грудзі, якіх яшчэ не было, і пачынала гарлапаніць пра тое, што яна Арлекіна. Затым абрывала песню на паўслове, скукожвалася, мізарнела, прыгладжвала валасы наслюняўленымі пальцамі і закладвала іх за вушы, урастала галавой у плечы, змяняючыся проста на вачах, быццам чараўніца, і гнусава, вылупліваючы вочы, нібы хацела ўвогуле вылузацца з іх, як вусень з кокану, каб пазбавіцца самой сябе мінулай і застацца назаўжды маладой і прыгожай красуняй, заводзіла: «*Padam...padam...padam... Il arrive en courant derrière moi…*». З вобразу вялікай французскай спявачкі Танюха, быццам андэрсенаўскае качаня, якое ператварылася ў прыўкраснага лебедзя, скінуўшы скуру, выпрасталася ў непераўзыдзеную Сафію Ратару з яе «*Аистом на крыше*»…

У моманты пераўвасабленняў вакол Танюхі і бацькі збіраліся людзі, з задавальненнем і захапленнемназіралі за відовішчам, якое наладжвала маленькая артыстка. Гучна апладзіравалі пасля кожнага яе ўвасаблення. Яны не ведалі і не маглі ведаць, што ўсё гэта дзяўчынка рабіла не дзеля сябе і тым больш не дзеля іх. Такім чынам Танюха развітвалася з бацькам, прызнаючыся яму ў сваім дзіцячым каханні, пра якое і без таго ведалі абодва, упэўненая, што ніколі ўжо не пабачыцца з ім. Яна весяліла бацьку і астатніх, да якіх ёй не было ніякай справы, каб самой не расплакацца.

Адна справа — гасцяваць, зусім іншая — жыць. Калі ты знаходзішся ў некага ў гасцях, да цябе і ставяцца як да госця. Змена статусу з госця на жыхара маланкава пераварочвае стаўленне да цябе. Прычым часцей за ўсё не ў тваю карысць. Бабу Марусю як падмянілі, у дачыненні да мамы, калі тая згубіла прывілею недатыкальнасці, якой валодала ў асобе госці (бацька ўладкаваўся на цагельню абпальшчыкам на печ, і жылі яны

ўсе разам). Раздражнёнасць, крыклівасць, незадаволенасць, дакалупванне па дробязях бабы Марусі не ведала межаў. Цяжарнасць маміна ў разлік увогуле не бралася. Яна не працавала, значыць, з'яўлялася ўтрыманкай, ды хоць бы па хаце нейкую працу рабіла, усё б палёгка бабе Марусі была. Аднак жа, па яе словах, мама цэльнымі днямі ляжала на печы ды кніжкі чытала, як пані, у той час калі астатнія гнулі спіны на цагельні, а прыходзілі дамоў і вымушаны былі яшчэ ўходжвацца па хаце. Зразумела, што свякроў нагаворвала на маму, якая ніколі не баялася працы, тым больш сельскагаспадарчай, і рабіла ўсё як мае быць. Цяжарная, яна адна чысціла катухі свінням, якія ўжо абраслі каростай ад бруду, дзясяткамі балеяў выносіла гной на папар, узбіралася па нетрывалых прыступках на гарышча па салому, скідала яе віламі ўніз і сцяліла ў катуху, быццам новы дыван. Варыла свінням ежу з малой бульбы, лупін і сечкі ў дваццацілітровых чугунах, дабаўляючы камбікорм. Гатавала розныя стравы і хатнім: баршчы, камякі, украінскі плоў, галушкі, смажыла верашчаку, бульбу, аладкі. Мыла бялізну ў ночвах, падлогу, падмятала двор… І ўсё дагадзіць не магла. Стамляючыся, клалася на печы з кніжкай, да таго ж мерзла, як пачало халадаць, дык грэлася. Клімат мясцовы вельмі адрозніваўся ад таго, што панаваў у Шахцінску. Там — сухі, тут — з павышанай вільготнасцю, а таму цяжка пераносіўся, дый цяжарнасць яшчэ.

Бацьку не падабалася, як баба Маруся адносілася да мамы, і шукаў выйсця. Звяртаўся да заводскага начальства і да вышэйстаячага, каб дапамаглі з асобным жыллём. Па восені маладой сям'і ўручылі ключы ад кватэры ў двухпавярховым так званым белым доме, пабудаваным яшчэ пры паляках разам з цагельняй, на першым паверсе (нехта, мабыць, вызваліў жылплошчу). Будынак, дарэчы з высокай столлю і шырокімі вокнамі, знаходзіўся непадалёк ад завода і стаяў проста над кар'ерамі, вырытымі для здабычы гліны, а за ім узвышаўся сасновы лес. Месца, з аднаго боку, казачнае, з другога — небяспечнае і, між іншым, найсырэйшае. Мама ў гэтым доме заўсёды зябнула і ўздрыгвала плечукамі ад холаду. Затое ніхто не капаў на

мазгі і не тузаў па сто разоў, каб прынесла тое, зрабіла гэтае, перарабіла ці перамыла нешта наноў.

Крыху воддаль, амаль каля прахадной на цагельню, складзены з белай цэглы, красаваўся клуб, у памяшканні якога працавала сельская бібліятэка. Насупраць клуба стаяў прадуктовы ларок, у якім увогуле і ніколі не гандлявалі спіртным. Часцей за ўсё мама наведвала менавіта гэтыя ўстановы. У бібліятэцы магла прабавіць не адну гадзіну.

Бацька намагаўся як мага больш часу праводзіць з мамай пасля працы і па выхадных, але ўсё адно яго цягнула да Раі. Спачатку пазбягаў з ёю сустрэч, магчыма, саромеўся за няўдалае спатканне ў Райцэнтры, нават не няўдалае, а ніякае, бо яно ўвогуле не адбылося. Хто ведае, што Рая падумала пра яго, мо і ўзненавідзела. Калі так, то і гара з плеч. Лягчэй паразумецца з мамай, якая, між іншым, нічога не ведала пра здраду мужа і нават не падазравала. Аднак бацька не мог спакойна глядзець ёй у вочы. Наўмысна спяшаўся з работы да мамы, каб быць з ёю, нібыта напаказ выстаўляючы свой непрыхаваны клопат пра яе. Даведаўся ці вылічыў, па якіх зменах працавала Рая, і хадзіў у краму ў тыя дні, калі дакладна ведаў, што не натрапіць на яе. Вёска, дасціпная і ласая да навін, як сарока, у сваю чаргу, залегла ў засадзе, быццам партызанка, праяўляючы неўласцівыя ёй раней цярплівасць і маўклівасць, у надзеі атрымаць неўзабаве эксклюзіў на агучванне адносін паміж бацькам і Раяй. Напружанне, што ўзнікла вакол іх, пагражала бядою. Верагодна, яны абое адчувалі небяспеку, таму і Рая не выказвала ніякім чынам цікавасці да бацькі. Аднак саміх сябе не падманеш.

Ці кахаў бацька Раю?

Хутчэй за ўсё кахаў. Напачатку. Да шлюбу з мамай. Рая здрадзіла яму, і ён не дараваў. Усё, што паміж імі адбывалася пасля, — жорсткая помста. Праз секс, якога, як вядома, у СССР не існавала, бацька помсціў Раі за тое, што яна выбрала не яго, калі ў яе быў выбар. Няхай пад прымусам, пад даўленнем, няважна. Калі яна яго кахала, павінна была застацца з ім. З'ехалі бы разам у той жа Казахстан, каб не назаляць вочы тым, каму б не спадабаўся іх шлюб. У Раі нават думкі

такой не ўзнікла. Зрэшты, пра што думала Рая, робячы выбар не ў бацькаву карысць, ведала толькі яна адна. Магчыма, памылілася, магчыма, наадварот, выратавала сваім рашэннем абодвух ад чагосьці страшнага і непапраўнага. Аднак усё жыццё іх прыцягвала адно да аднаго, быццам магнітам. Яны сталі закладнікамі гульні ў лёс, які прайграў стаўку на іх, яшчэ нават не паставіўшы яе, спакушэнню. І Рая, і бацька ператварыліся ў гэтае спакушэнне адно для аднаго. І толькі справай часу з'яўлялася чарговае іх шаленства.

Цяжка ўявіць, але падштурхнула да гэтага мама, дакладней, сталася кропкай адліку, што спружыніла, каб паяднаць спакусу з дзеяннем. Яна па-ранейшаму не здагадвалася пра бацьку і Раю, больш за тое, не была з Раяй і знаёма. Яны сустрэліся ў бібліятэцы. Выпадкова ў той жа час туды зайшоў і бацька. Вочы ў яго і ў Раі ўспыхнулі і палыхнулі вогнішчам. Толькі маміна прысутнасць утрымала вывяржэнне пачуццяў, што былі гатовыя вырвацца вонкі лавай і пахаваць пад сабой. Чаго ў бібліятэку занесла бацьку, абыякавага да кніг? Не іначай, сіла прыцягнення, якая прывяла туды і Раю. Мама выканала ролю компаса і страціла цікавасць для гульняў лёсу. Ёй трэба было берагчы сябе, каб вынасіць дзіця, таму яна амаль не зважала на знешнія раздражняльнікі, аднак зразумела, што бацька з Раяй не зусім чужыя адно аднаму людзі. Тут жа высветлілася, што яны аднакласнікі, і мама запрасіла ўсіх паабедаць. Рая далікатна адмовілася, стараючыся не пакрыўдзіць маму. Мама адзначыла, што Рая вельмі прыгожая жанчына. Бацька пасляшаўся сказаць маме, што заўважыў, як яна ўваходзіць у клуб, і яму нясцерпна захацелася пабачыць яе і пацалаваць, а цяпер зноў трэба на работу. Ён пацалаваў яе і хутка выйшаў з памяшкання на двор. Рая таксама не затрымалася. Яе бацька перахапіў на ганку, і яны разам шуснулі за кут дома. Ліхаманкава і хаатычна абдымаючы адно аднаго, п'яўкамі-пацалункамі кусалі вусны і цяжка дыхалі. Забіваючы ў сабе жарсць, якая нагадвала вогненнага цмока, бацька з Раяй вымушаны былі прыпыніцца, каб не спаліцца, і дамовіліся сустрэцца пазней. Рая паклікала бацьку на сваю тэрыторыю, пакуль Зімоўскі з дзецьмі адпачывалі ў аздараўленчым лагеры на Нарачы.

— Куды ты?
— Гляну, каторая гадзіна.
— Некуды спяшаешся?
— ?
— Ты ж нібыта на працы, а да раніцы яшчэ далёка. Паглядзі, як цёмна за вокнамі. Ці ад мяне бяжыш?
— Нікуды я не бягу.
— Тады навошта табе ведаць, якая зараз гадзіна?
— Я павінен апраўдвацца?
— А ты апраўдваешся?
— У мяне жонка цяжарная.
— Нічога з ёю не здарыцца. Не яна першая, не яна апошняя.
— Адкуль у табе гэта?
— Што менавіта?
— Жорсткасць.
— Ты мяне абвінавачваеш у жорсткасці? Дык з цябе ж і бяру прыклад. Ты мне вінен!
— Запомні: я нікому нічога не вінен.
— Памыляешся. Ніколі не дарую, як ты выставіў мяне ідыёткай, калі мы дамовіліся сустрэцца ў Райцэнтры!
— Я трапіў у выцвярэзнік.
— Напіўся, каб не бачыць мяне?
— Так атрымалася.
— Спадзяюся, спатканне з выцвярэзнікам цябе цалкам задаволіла. Зрэшты, я таксама напілася. Па тваёй ласцы. Ты робіш мяне няшчаснай.
— Ды што ты!
— Я кахаю цябе!
— Я ведаю.
— Трэба нешта з гэтым рабіць. Што з намі будзе заўтра?
— Я так далёка не думаю.
— Табе ўсё роўна?
— Не бачу сэнсу нешта мяняць. Усім стане толькі горш.
— Можа быць…
— Табе дрэнна са мной?
— Не дрэнна, мала.

— Гэтай маласці ўвогуле магло не быць, калі б жонка не захацела тут застацца.

— Так, яна зрабіла нам ласку.

— Таму давай пакуль трымацца за сініцу ў руках…

— Я і трымаю. І не адпушчу.

— Паглядзім.

— Не зразумела намёку.

— Ты вельмі прыгожая жанчына, Рая. Знойдзеш каго-небудзь лепшага за мяне, як ужо знайшла аднойчы.

— Пачынаецца…

— Што пачынаецца?

— Мне ніхто не патрэбны, акрамя цябе, ты ж ведаеш.

— А Зімоўскі?

— Ты ўсё цудоўна разумееш і сам. Мы маглі пажаніцца з табой яшчэ тады, калі ты толькі прыйшоў з войску, памятаеш?

— У цябе ўжо быў сын.

— Твой сын.

— Не смяшы мае майткі.

— Не буду. Але ты ўцёк ад мяне, баягуз, у нейкі далёкі прывідны Казахстан. Ды ўсё адно вярнуўся, бо мы палавінкі аднаго цэлага.

— Палавінкі-апельсінкі.

— Дарэчы, хочаш апельсінку?

— А хачу.

— Тады з маіх рук…

Бацьку захапілі таемныя сустрэчы з Раяй, як цікавы прыгодніцкі раман ці, хутчэй, кінафільм, героем якога ён сябе і адчуваў. Яму б у акцёры пайсці ў свой час альбо ў шпіёны — вось было б жыццё. Сапраўднае, рызыкоўнае, не тое, што мусіў пражываць, нібыта нейкую павіннасць. Ён шкадаваў маму, але не так, як павінен быў шкадаваць. Лічыў яе жыццё сумным і нішчымным, рыхтык нічым не прыпраўлены суп, таму яна і збягала ад яго ў кніжкі. Але сваёй віны ў тым не бачыў. Бацька не адмаўляў таго факту, што мама — яго жонка, і адносіўся да яе суадносна, аднак з таго моманту, як прывёз яе ў Вёску, на яго думку, жанчыну быццам падмянілі. Ён стамляўся побач з ёю,

зразумела, спісваў напачатку перамены на цяжарнасць, ды чым далей, тым цяжэй яму даводзілася выносіць яе прысутнасць. Рая, у адрозненне ад мамы, акрыляла яго. Спатканні з ёю, насычаныя небяспекай выкрыцця і самі па сабе небяспечныя, а таму жаданыя да шаленства, найперш жа падрыхтоўка да іх, не менш рызыкоўная, чым, уласна, спатканні, абуджалі жарсць да жыцця, казыталі нервы і прымушалі кроў па венах цячы шпарчэй. Канспірацыя, пошукі і распрацоўка ўцёкаў на выпадак магчымага правалу, забароненае валоданне чужым, дамінаванне над чужым падабаліся незвычайна. Ён адчуваў сябе гаспадаром, Раіным уладаром, якая гатовая была на ўсё дзеля яго. Верагодна, яна насамрэч кахала бацьку. Самаахвярнасць жанчыны ўражвала надзвычай. Упэўнены, Рая, не задумваючыся, забіла б каго-небудзь, таго, на каго б паказаў бацька, ці абрабавала б банк па яго загадзе, нават наклала б на сябе рукі, калі б ён папрасіў, толькі б кахаў яе. Не сумняюся, што яна тысячу разоў пашкадавала, паслухаўшы свайго бацьку, калі выйшла замуж за нялюбага чалавека. Вяртанне бацькава ў Вёску Рая прыняла як дар нябёсаў, не іначай. Яе не цікавіла, як ставіўся ён да яе, абы быць разам з ім. Падобнае каханне — не здаровае пачуццё, хутчэй, манія, хвароба. Аднак ці не даказана вучонымі, што каханне — сапраўды псіхалагічнае захворванне, захворванне іншым чалавекам, без якога і сонца не сонца, і дыхаць немагчыма, і жыць не хочацца ўвогуле. Дзякуючы асаблівай хімічнай рэакцыі ў арганізме. Бясспрэчна, гэта не рак і не СНІД, але таксама з верагодным смяротным вынікам. Нехта з вучоных сказаў у дадатак, што каханне звычайна жыве тры гады, калі не ўлічваць выключэнняў. Раін выпадак якраз з шэрага выключэнняў. Магчыма, яна была самай шчаслівай жанчынай на планеце, выпраменьваючы каханне і жывучы, дзякуючы гэтаму, напоўніцу, няхай і шкодзіла блізкім, сям'і. Так бывае. Мы не можам ведаць, што напаткае нас саміх на пакручастых дарогах жыцця, тым больш некага асуджаць за быццам бы амаральныя паводзіны, за права быць хворым на каханне, за права кахаць і быць каханым. І я, у сваю чаргу, не асуджаю ні бацьку, ні Раю. Якім бы дрэнным, непрыгожым, нявартым іх каханне не здавалася. У рэшце рэшт, іх прымусілі

развітацца на самым пачатку і не дазволілі гвалтам, я б сказаў, быць разам. Вось і атрымоўвайце. Похапкам, навобмацак, выдзіраючы кавалкі блізкасці з існавання, нападаючы на яго, быццам сабакі на мядзведзя, Рая з бацькам усё ж ізноў былі разам. Няхай гэта няправільна, агідна, жорстка ў дачыненні да мамы і Зімоўскага… Каханне ўзяло сваё, яму чужога не трэба. А мама з Зімоўскім тут ні пры чым. Пабочныя ахвяры. Ці вы не ведалі, што каханне — разбуральная сіла?

Што тычыцца мамы… Яна адмыслова, мне здаецца, не заўважала відавочнага. Берагла сябе і мяне, ахутвала любоўю і рамантычнай аўрай, чытаючы раманы сёстраў Брантэ, Віктора Гюго і Дзюма. І ніхто ёй быў, у прынцыпе, непатрэбны. Мама нагадвала ў той час, калі чакала мяне, нешта кшталту рэчы ў сабе. Аднак пра бацьку і Раю ўсё ж ведала, проста нікому не прызнавалася ў гэтым і вельмі ўдала выдавала з сябе наіўную зачараваную дурніцу, на якую бацька павёўся, палічыўшы, што ён разумнейшы за яе, чаго ніколі не было ў сапраўднасці і быць не магло. Мама здагадалася пра іх адразу, як толькі пабачыла Раю ў бібліятэцы. Здагадка яе пацвердзілася ў тую ж ноч, калі бацька сказаў, што замяніўся з кімсьці на цагельні і застанецца яшчэ і ў начную змену. Таго, з кім бацька быццам бы замяніўся, мама сустрэла, калі той ішоў, нічога не падазраючы, на працу ў адведзены яму па раскладзе час. Яны перамовіліся колькімі словамі пра надвор’е і разышліся. Мама не збіралася ўчыняць бацьку скандал і выдзіраць кудлы з галавы Раі. Яна вырашыла забыць тое, пра што здагадалася, а пасля ўпэўнілася ў здагадцы. І забыла на самай справе, каб лішні раз не вярэдзіць сябе. Мо таму і засталася адна на ўвесь той перыяд, калі ляжала ў бальніцы, намагаючыся радзіць. Яе паклалі ў райцэнтраўскую радзільню, калі выйшаў тэрмін нашэння плода ў жываце, аднак яна праляжала там цэлы месяц, з пачатку снежня да пачатку студзеня, пакуль нарадзіла. У гэты ж час баба Маруся з дзедам Іванам з’ехалі ў Беласток у складзе фальклорнага калектыву, які запрасілі на гастролі, тур працягваўся па тэрыторыі Польшчы да канца студзеня, а бацьку забралі на вайсковыя зборы. Да мамы ніхто не прыходзіў, ніхто не навед-

